# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 (102) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2023 г.

## Лідзе - 700 гадоў
## 1323 - 2023



# Лідскія чатырохсотбальніцы - гонар Лідчыны і ўсёй Беларусі



**Ангяліна Лашко, гімназія № 1.** ЦЭ: грамадазнаўства - 100 балаў, руская мова - 100 балаў; ЦТ: гісторыя Беларусі - 100 балаў; пераможца ўніверсітэцкай алімпіяды ГрДУ імя Я. Купалы па гісторыі Беларусі і рускай мове і літаратуры. Атэстат - 10.0.



**Ксенія Сабаткоўская, гімназія № 1.** ЦЭ: грамадазнаўства - 100 балаў, руская мова - 100 балаў, дыплом 1 ступені (абсалютны) на заключным этапе рэспубліканскай алімпіяды па англійскай мове. Атэстат - 10.0.



**Паліна Дычак, СШ № 16.** ЦЭ: руская мова - 100 балаў, хімія - 100 балаў; ЦТ: біялогія - 100 балаў. Атэстат - 10,0



**Вольга Нікановіч, СШ № 8.** ЦЭ: руская мова - 100 балаў, англійская мова - 100 балаў; ЦТ: грамадазнаўства - 100 балаў. Атэстат - 9,6.

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 (102) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2023 г.

## *У НУМАРЫ:*



**На першай старонцы вокладкі:** ***Васіль Васільевіч Гразноў. Лідскі замак XIV стагоддзя.*** *Акварэль. 1860-1870 гг.*

? *

Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: kajety@list.ru

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


Выдаецца ў адпаведнасці з п. 7.4 артыкула 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ "Аб сродках масавай інфармацыі" ад 17 ліпеня 2008 г. № 427-З

Выдавец:
**Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства "Пружмень"**

Рэдактар:
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, г. Ліда, вул. Лётная, 7 а.**
**АДРАС САЙТА:**
**http// nslowa.by**

**Наклад 150 асобнікаў**
**10 друк. аркушаў**

**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2023 г.**

**Часопіс надрукаваны 15.11.2023 г. у ПВП "ЛітАРы": 230025, г. Гроднаа, вул. К. Маркса, 11, пам. 1/2.**

**Замова № 21/11.**

ISSN 2218 – 1792








# X ЛІДСКІЯ ЧЫТАННІ

19 красавіка 2023 года Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы ў дзясяты раз запрасіла да сябе навукоўцаў, краязнаўцаў і ўсіх зацікаўленых гісторыяй людзей на навукова-практычную канферэнцыю "Лідчына праз сем стагоддзяў" у рамках "X Лідскіх чытанняў".

Распачатыя яшчэ ў 2013 годзе "Лідскія чытанні" сталі штуршком ва ўдасканаленні ведаў пра свой родны край, у назапашванні краязнаўчай інфармацыі і фармаванні краязнаўчых рэсурсаў, ушанаванні імёнаў вядомых землякоў; вывучэнні і папулярызацыі гістарычна-культурнай спадчыны Лідскага краю.

Шырокі спектр тэм - "Ліда ў гады Першай Сусветнай вайны", "Папулярнасць творчасці Францішка Багушэвіча ў Лідзе", "100 год афіцыйнай беларускай школе на Лідчыне", "500-годдзе беларускага кнігадрукавання", "Лідчына: учора, сёння і заўтра", "Гродзеншчына: летапіс працягваецца", "Вайна і памяць старонкі гісторыі Лідскага краю", "Лідчына ў мастацкай літаратуры" - падымаўся падчас штогадовых канферэнцый.

У 2023 годзе навукова-практычная канферэнцыя "Лідчына праз сем стагоддзяў" з'яўляецца адной з найважнейшых падзей сярод бібліятэчных мерапрыемстваў года, прымеркаваных да 700-годдзя з часу заснавання г. Ліды.

У канферэнц-зале разганулася кніжная выстава "Горад мой, ты песня і легенда", якая прадставіла гістарычныя матэрыялы аб г. Лідзе, знаёміла з яго сучасным станам, дасягненнямі і перспектывамі развіцця. На выставе былі прадстаўлены кнігі пра знакамітых людзей Лідчыны, якія ўнеслі пэўны ўклад у развіццё роднага краю. Тут жа можна было пазнаёміцца з гісторыяй правядзення "Лідскіх чытанняў".




Пачаліся чытанні тэатралізаваным пралогам, які падрыхтавала Ангеліна Іванаўна Тучкоўская, студэнтка 3 курса гуманітарнага аддзялення Лідскага каледжа УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы". У вобразе прыгожай князёўны яна распавяла легенду аб паходжанні назвы горада.






Першы даклад "Старажытная Ліда на Каменцы" падрыхтаваў Леанід Лявонцьевіч Лаўрэш, які сваімі краязнаўчымі даследаваннямі робіць значны ўклад у пашырэнне ведаў пра гісторыю Лідчыны. Прадставіў дадзены даклад лідскі краязнавец Станіслаў Вацлававіч Суднік, па ініцыятыве якога некалі і пачалі праводзіцца "Лідскія чытанні".

Літаральна нядаўна, з'явілася цікавае даследаванне на тэму "Герб горада Ліды, як гістарычна-геральдычны помнік Беларусі", якое зрабіла Анашкевіч Наталля Мікалаеўна, выкладчык рускай мовы і літаратуры ДУА



*Легенду пра Ліду чытае Ангеліна Тучкоўская*

"СШ № 11 г. Ліды", кіраўнік метадычнага аб'яднання па духоўна-маральным выхаванні. Прысутным вельмі цікава распавялі пра гісторыю і значэнне сімвалаў герба Ліды. Наталля Мікалаеўна паказала рэальныя дакуметы міжваеннай Польшчы з выявамі герба Ліды, які, што тады, што цяпер - аднолькавы.



*Наталля Анашкевіч*

Краязнавец Суднік Станіслаў Вацлававіч у сваім дакладзе звярнуў увагу прысутных да "Пытання існавання і месцазнаходжання Дайнаўскага княства". Асноўныя вывады з даклада:

1. Дайнаўскае або Яцвяжска-Дайнаўскае княства існавала і як удзельнае княства ўвайшло ў склад ВКЛ (яцвягі і дайнава - сінонімі, дзве назвы аднаго народа);

2. Дайнаўскае княства было даменным княствам Вялікага князя Трайдзеня, а потым даменным княствам наступных вялікіх князёў;

3. Да апанавання яцвягаў (заходняй дайнавы) Нарымонт і Трайдзень хутчэй за ўсё ўжо валодалі ўсходняй Дайнавой;

4. Большасць навукоўцаў размяшчае сталіцу гэтага княства пад Лідай. Заснаванне Трайдзенем



*Станіслаў Суднік*

Райгорада не абазначае пераносу туды сталіцы. Райгорад - гэта фарпост Дайнаўскага княства для адпору крыжакам. Трайдзень заснаваў яшчэ і Коўню (Каўнас) з той жа мэтай;

5. Ліда ў 13-м стагоддзі не была сталіцай Дайнаўскага княства. Гэта было славянскае (дрыговіцкае) паселішча;

6. Пасля пабудовы Лідскага замка Вялікі князь Гедымін перанёс сталіцу Дайнаўскага княства ў Ліду. З пераносам сталіцы ў Ліду Дайнаўскае княства паступова пачало называцца Лідскім княствам і ўключала ўжо не толькі дайнаўскія, але і славянскія землі паўднёвай Лідчыны ажно да Нёмана.

Пры гэтым Гедымін адрэзаў частку дайнаўскай тэрыторыі і ўтварыў Віленскае княства;

7. Вялікі князь Вітаўт ліквідаваў Лідскае княства і ўключыў яго ў Віленскае княства;

8. Ліда была сталіцай Дайнаўскага (пазней Лідскага) княства каля 90 гадоў (прыблізна ад 1330 да 1420 г.).

9. Даўнішнішнія яцвяжскія землі на сёння разарваны на тры вялікія часткі:

- частка Дайнавы і Яцвягіі, Нальшаны і ўласна летапісная Літва - у Беларусі;
- частка Дайнавы (Віленскі край) і Дзяволтва - у Літве;
- частка Яцвягіі (Падляшша) і ўсходняя Судавія (Сувалкія) - у Польшчы, а разам гэта адзін этнас.

Вельмі змястоўнымі атрымаліся выступленні студэнтаў Лідскага каледжа УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы". Адметна тое, што іх работы другі год займаюць годнае месца сярод прац сталых навукоўцаў у зборніках матэрыялаў, што рыхтуюцца раённай бібліятэкай.

Ус Настасся Аляксандраўна, студэнтка 2-га курса гуманітарнага аддзялення, пазнаёміла з адной са старэйшых вуліц нашага горада падчас даклада "Ад Віленскай да Савецкай: гісторыя вуліцы Савецкай".



***Настасся Ус***

Жэбянёва Паліна Іванаўна, студэнтка 1 курса будаўнічага аддзялення, узгадала гісторыю выдатнага помніка абарончага мастацтва XIV стагоддзя - Лідскага замка.



***Паліна Жэбянёва***

Пра "Гісторыю завода "Лідскае піва"", які з'яўляецца найстарэйшай з дзейных піваварных вытворчасцей Беларусі, паведаміла Ярэц Настасся Сяргееўна, студэнтка 1 курса будаўнічага аддзялення. Удзельнікі чытанняў з захапленнем слухалі гісторыю лідскага бровара, які



***Настасся Ярэц***

зрабіў горад піўной сталіцай Беларусі.

Выступленне Дудзевіч Валерыі Станіславаўны, студэнткі 2 курса гуманітарнага аддзялення, дапамогло здзейсніць віртуальнае падарожжа па галоўных святынях горада Ліды. Між іншым цікава было пачуць, што падзячны медальён князю Канстанціну Астрожскаму, які так няпроста ўстанаўліваўся, цяпер з'яўляецца мастацкай каштоўнасцю Свята-Георгіеўскай царквы-помніка.




***Валерыя Дудзевіч***

Смаляк Іван Аляксандравіч, вучань 11 класа ДУА "Ліцэй № 1 г. Ліды", прадставіў даклад "Цяпло школьных сцен: побыт выхаванцаў і настаўнікаў ліцэя ўчора і сёння". Былі разгледжаны два бакі гісторыі навучальнай установы: архітэктурная гісторыя і гісторыя навучальнага працэсу.



***Іван Смаляк***

Галоўны бібліёграф раённай бібліятэкі Курбыка Галіна Раманаўна пазнаёміла прысутных з гістарычнымі творамі, якія паказваюць шырокую панараму жыцця лідзян, з традыцыямі, укладам жыцця, гістарычнымі падзеямі.



***Галіна Курбыка***

Жыццё звязала з Лідскім краем імёны многіх вядомых у Беларусі майстроў слова, мастакоў, музыкантаў, артыстаў, спартсменаў, навукоўцаў з розных




***Алесь Хітрун***

сфер. Даклад Хітруна Аляксандра Часлававіча, навуковага супрацоўніка ДУ "Лідскі гістарычна-мастацкі музей", дазволіў пазнаёміцца са знакамітай ураджэнкай Лідчыны, заслужанай артысткай Беларусі - Ганнай Радзько.

Цікавым і пранікнёным было выступленне Кір'янавай Алесі Сяргееўны, афіцэра па арганізацыі вольнага часу і тэхнічных сродках выхавання, начальніка клуба 116-й Лідскай гвардзейскай штурмавой авіяцыйнай базы. Удзельнікі чытанняў з вялікай увагай слухалі пра мужнасць і геразім, праяўленыя пры выкананні воінскага абавязку лётчыкамі Андрэем Нічыпорчыкам і Мікітай Куканенкам, і пра мемарыялізацыю іхняй памяці на Лідчыне і ў Баранавічах



***Алеся Кір'янава***

Важна адзначыць, што па выніках канферэнцыі супрацоўнікамі Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы будзе выдадзены друкаваны зборнік дакладаў "Х Лідскія чытанні", а потым прапанаваны карыстальнікам і ў электронным варыянце на сайце галоўнага кнігасховішча Лідчыны. Папаўненне краязнаўчай скарбонкі стане здабыткам шырокай аўдыторыі аматараў мясцовай даўніны.



Публікацыя матэрыялаў папярэдніх канферэнцый "Лідскія чытанні" выклікае цікавасць з боку спецыялістаў-гісторыкаў і шматлікіх чытачоў розных пакаленняў.

***Дар'я Марцінкевіч,***
*загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.*

# КРОНІКА ЛІДЫ



1 красавіка майстар Лідскага аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры **Валянціна Сільвановіч** атрымала Пасведчанне "Народны майстар Беларусі".



2 красавіка ў аграмястэчку **Дворышча** Лідскага раёна асвечаны храм у гонар беларускай святой - княгіні Сафіі Слуцкай.



У пачатку красавіка ў Лідскай раённай бібліятэцы адбылася прэзентацыя дэбютнай кнігі лідскай паэткі Ганны Гайдукевіч "З душой і жартам".





У пачатку красавіка пракурорам Лідскага раёна прызначаны **Андрэй Клышэвіч**. Раней ён працаваў пракурорам Смаргонскага раёна.






16 красавіка кіраўніку народнага ансамбля яўрэйскай музыкі "Шалом" Палаца культуры г. Ліды і рэлігійнай грамады прагрэсіўнага юдаізму **Міхаілу Дзвілянскаму** ўручаны медаль Беларускага фонду міру.



23 красавіка ў аграмястэчку Беліца Лідскага раёна прайшло "смачнае" традыцыйнае брэндавае свята - раённы конкурс традыйных страў "Спазнай смак сваёй кухні".



3 траўня майстар брыгады па зачыстцы сіласаў цэха па вытворчасці камбікормавай прадукцыі адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт" **Юры Жамойда** быў ганараваны званнем "Чалавек года Гарадзеншчыны".






5 траўня Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб узнагароджанні “Ордэнам Маці” за выхаванне 5 і больш дзяцей. Сярод узнагароджаных **Наталля Гусева** з Ліды, **Алеся Кузняцова** з Ліды і **Вікторыя Азарава** з Бярозаўкі.

8 траўня пайшоў у нябесную Беларусь актывіст беларускага нацыянальнага руху на Лідчыне **Іосіф Бойса**.

Бойса Іосіф Браніслававіч нарадзіўся 3 верасня 1955 года ў в. Лукашына Іўеўскага раёна. Пасля школы скончыў юрфак БДУ. Працаваў адвакатам, суддзёй, быў старшынёй суда Лідскага раёна. Яшчэ будучы на працы выказваў свае нацыянальныя погляды.

Пасля выхаду на пенсію актыўна ўключыўся ў дзейнасць беларускіх нацыянальных арганізацый і перш за ўсё ў дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Іосіф Бойса практычна штомесячна на працягу многіх гадоў пералічваў ахвяраванні на рахунак ТБМ.

На працягу многіх гадоў Іосіф Бойса распаўсюджваў па Лідскім і Іўеўскім раёнах 100-150 асобнікаў газеты “Наша слова”, а ў 2020 і 2021 гг. да канца снежня 2021 года распаўсюджваў 200 асобнікаў.

Выступаў ініцыятарам і фундатарам многіх праектаў. Устанавіў памятны камень каля Іўеўскага касцёла. Выступіў ініцыятарам устанаўлення каменя да 100-годдзя БНР на Лідчыне. Быў кліч устанавіць камяні да 100-годдзя БНР у кожным раёне Беларусі. Атрымалася толькі на Лідчыне, і ў асноўным дзякуючы Іосіфу Бойсу.





14 траўня ў рамках абласной акцыі "Сімвалы незалежнасці, міру і стваральнай працы" на ўездзе ў Ліду на 18-мятровую вышыню ўрачыста паднята чырвона-зялёнае палатно Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь.








20 траўня 2023 г. пісьменнік **Леанід Лаўрэш** прэзентаваў сваю новую кнігу "Інстынкт пазнання. Нарысы з гісторыі адукацыі ў горадзе Ліда" *(Лаўрэш, Л.Л. Інстынкт пазнання. Нарысы з гісторыі адукацыі ў горадзе Ліда / Л.Л. Лаўрэш - Гродна : ЮрСаПрынт, 2023. - 192 с.).*



23 траўня для найлепшых выпускнікоў краіны быў асаблівы дзень. У Лідзе адбылося рэспубліканскае свята **"Апошні званок"**. Урачыстае шэсце па горадзе, лінейка ў Лідскім замку, канцэрт і дыскатэка да позняга вечара, феерверк...






27 траўня ў аграмястэчку Дзітва прайшоў Абласны фестываль-свята побытавых танцаў **"Танцуем па-даўнейшаму"**. Сярод пераможцаў і лідская пара: Наталля Шчалканогава і Аляксей Дзямко - дыплом 2-й ступені.

28 траўня ў Лідзе стартаваў сёмы сезон культурна-турыстычнага праекта **"Замкавы гасцінец"**! Ён будзе здзіўляць праграмамі, святамі і фэстамі на працягу ўсяго турыстычнага сезону.



8 чэрвеня ў Лідскім раённым цэнтры экалогіі, турызму і краязнаўства прайшоў злёт юных краязнаўцаў. Юныя краязнаўцы Лідчыны сабраліся, каб падзяліцца вынікамі сваіх краязнаўчых даследаванняў, праведзеных акцый і рэалізаваных праектаў па вывучэнні малой радзімы, абмяняцца досведам і ідэямі на краязнаўчай канферэнцыі "Пазнаючы спадчыну, пазнаём свой край".








У чэрвені былі падведзены вынікі абласнога конкурсу на лепшую віртуальную віктарыну, інтэрактыўную гульню, анлайн-крыжаванку "Бібліятэка.by"!

Дыплом I ступені ў намінацыі "Лепшы інфармацыйна-забаўляльны рэсурс, створаны раённымі (цэнтральнай гарадской) і гарадскімі бібліятэкамі" атрымала Лідская раённая бібліятэка імя Я. Купалы за падрыхтоўку краязнаўчага web-квэста "Усяму пачатак тут, у краі маім родным".

21 чэрвеня ў рамках чарговага пасяджэння літаратурнага аб'яднання "Суквецце" ў канферэнц-зале Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы адбылася прэзентацыя новай, ужо восьмай па ліку, кнігі аднаго з найстарэйшых і самых аўтарытэтных пісьменнікаў Лідчыны **Уладзіміра Гаўрылавіча Васько** "Неабдымнае".

У кнізе змешчаны вершы, байкі і апавяданні пісьменніка, у тым ліку ранняя вершы, якія не ўвайшлі ні ў адзін з яго папярэдніх зборнікаў. Радуе, што Уладзімір Гаўрылавіч працягвае актыўна праяўляць сябе як у паэзіі, так і ў прозе, пакрысе падбіраецца да свайго дзясятага зборніка. Столькі кніг мае далёка не кожны лідскі творца.





# Подзвіг лідскіх вучняў і настаўнікаў

Сёлета Лідзе выпаў вялікі гонар. 23 траўня ў горадзе адбылося рэспубліканскае свята "Апошні званок". Урачыстае шэсце па горадзе, лінейка ў Лідскім замку, канцэрт і дыскатэка да позняга вечара, феерверк...

Падчас мерапрыемства Міністр адукацыі Андрэй Іванец адзначыў, што ў жыцці кожнага маладога чалавека апошні званок з'яўляецца адной з самых запамінальных падзей, таму Міністэрства адукацыі традыцыйна праводзіць рэспубліканскі "Апошні званок", калі з усёй краіны збіраюцца найлепшыя 11-класнікі.

Таксама ён дадаў, што на дадзены момант у цэлым па краіне больш за 53 тысячы выпускнікоў. На сёлетнім рэспубліканскім званку ў Лідзе сабраліся больш за 1,5 тысячы выпускнікоў з усёй Беларусі.

- Гэта тыя дзяўчаты і хлопцы, якія прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, у пазавучэбнай працы, выдатнікі вучобы, разумныя, актыўныя і самае галоўнае - па-сапраўднаму адданыя сваёй краіне, - сказаў Міністр.

Мерапрыемства пачалося з ускладання кветак да Кургана неўміручасці. Усё было аздоблена тэматычнымі нумарамі і музычным суправаджэннем аркестра.

Пасля гэтага пачалося нешта неверагоднае. Вялікая калона выпускнікоў рушыла па вуліцах Ліды на ўрачыстую лінейку. Іх віталі малодшыя школьнікі і ўдзельнікі розных творчых калектываў Ліды. Уявіце сабе:







толькі набліжаецца калона да харэаграфічнага калектыва, і артысты пачынаюць выконваць свой яркі танец.

У хуткім часе шэсце наблізілася да Лідскага замка. Там была падрыхтавана свая тэатралізаваная гістарычная праграма. А потым пачалася лінейка з заха-








ваннем усіх найлепшых традыцый: тут быў і апошні званок, і вальс, і запуск шарыкаў у неба (спадзяёмся, усе выпускнікі паспелі загадаць запаветнае жаданне).

На гэтым афіцыйная частка свята скончылася. Прыйшоў час весялосці. Выпускнікоў чакала забаўляльная праграма ў Лядовым палацы: канцэрт і дыскатэка. Завяршылася ўсё святочным феерверкам.

А перад "Апошнім званком" мела месца напружаная пара здачы экзаменаў на атэстат і ў тым ліку цэнтралізаваных экзаменаў, навацыі гэтага года.

8 чэрвеня сталі вядомыя вынікі другога цэнтралізаванага іспыту, які праходзіў 21 траўня па навучальных прадметах на выбар. Па выніках двух уступных выпрабаванняў выпускнікамі Лідскага раёна атрыманы 41 стобальны вынік.

11 максімальных вынікаў у гімназіі, па 4 - у СШ №1, №15, №16; па 3 - у СШ №17, СШ №2 г. Бярозаўкі, Крупаўскай СШ; па 2 - у СШ №8 і Мінойтаўскай СШ. Найвышэйшыя балы таксама ў выпускнікоў ліцэя, СШ №9 імя А.В. Нічыпорчыка, СШ №1 г. Бярозаўкі і Бярозаўскай СШ №3.

Уладальнікамі сертыфікатаў адразу па двух прадметах сталі пяць выпускнікоў Лідчыны:

Сабаткоўская Ксенія і Лашко Ангяліна (гімназія),
Ніканові Вольга (СШ №8),
Дычак Паліна (СШ №16),
Кашлей Вераніка (Крупаўская СШ).

У тым ліку, 15 стобальных вынікаў па рускай мове, **8 - па беларускай мове**.



***Вучаніцы Крупаўскай СШ: Вераніка Кашлей, два 100-бальныя вынікі па матэматыцы і беларускай мове і літаратуры, і Вікторыя Міндзюль, 100 балаў па грамадазнаўстве***

Сярод профільных прадметаў ЦЭ лідыруе матэматыка (8), 4 максімальныя вынікі па грамадазнаўстве, 3 - па хіміі, 2 - па англійскай мове.

Урачыстая цырымонія ўручэння медалёў і атэстатаў з адзнакаю лепшым выпускнікам школ і гімназій Лідскага рэгіёна прайшла 10 чэрвеня 2023 года

Святочны вечар пачаўся на Кургане Неўміручасці з ускладання кветак да яго падножжа і тэатралізаванай праграмы. Так выпускнікі аддалі даніну памяці і павагі тым, дзякуючы каму ў іх ёсць магчымасць жыць, вучыцца, будаваць планы на будучыню.



Пасля выпускнікі дружнай калонай адправіліся ў Палац культуры, які стаў урачыстым эпіцэнтрам усіх падзей.





Наступным этапам стала цэнтралізаванае тэсціраванне.

З улікам цэнтралізаванага экзамена, дзе выпускнікі маглі атрымаць заліковыя балы для паступлення ў ВНУ па двух прадметах, колькасць удзельнікаў ЦТ сёлета была значна меншая, чым летась. Тым не менш, і тут лідзяне паказалі высокія вынікі. Сто балаў атрымалі:

**Мурашка Яна Юр'еўна**, настаўнік: Пазнякова Вольга Яўгенаўна. Гімназія № 1 г. Ліды. Прадмет: Англійская мова;

**Рышкевіч Аляксандра Ігараўна**, настаўнік: Букша Марына Пятроўна Гімназія № 1 г. Ліды. Прадмет: Грамадазнаўства;

**Бойка Георгій Андрэевіч**, настаўнік: Ладыка Альфрэд Антонавіч. Гімназія № 1 г. Ліды. Прадмет: Матэматыка;

**Лашко Ангяліна Сяргееўна**, настаўнік: Букша Марына Пятроўна. Гімназія № 1 г. Ліды. Прадмет: Гісторыя Беларусі;



*Мурашка Яна Юр'еўна*



*Рышкевіч Аляксандра Ігараўна*




*Бойка Георгій Андрэевіч*

**Албатава Анастасія Ігараўна**, настаўнік: Кепель Наталля Георгіеўна. Гімназія № 1 г. Ліды. Прадмет: Англійская мова;

**Сергіевіч Дар'я Паўлаўна**, настаўнік: Пясецкая Вольга Віктараўна. СШ № 1 г. Бярозаўкі. Прадмет: Матэматыка;

**Хілько Ніна Фёдараўна**, настаўнік: Шабельскі Аляксандр Станіслававіч. СШ № 6 г. Ліды імя Н.Б. Куканенкі. Прадмет: Сусветная гісторыя;



*Албатава Анастасія Ігараўна*

**Сенчанкава Варвара Сяргееўна**, настаўнік: Ліханава Наталля Анатольеўна. СШ № 1 г. Ліды. Прадмет: Грамадазнаўства;

**Нікановіч Вольга Сяргееўна**, настаўнік: Сурконт Таццяна Мар'янаўна. СШ № 8 г. Ліды. Прадмет: Грамадазнаўства;



*Сергіевіч Дар'я Паўлаўна*



*Хілько Ніна Фёдараўна*

**Дычак Паліна Дзмітрыеўна**, настаўнік: Буракевіч Святлана Аляксееўна. СШ № 16 г. Ліды. Прадмет: Біялогія.



*Сенчанкава Варвара Сяргееўна*

Летась многія СМІ пісалі пра Настассю Більдзь з Ліды, якая стала сапраўднай зоркай уступнай кампаніі. Дзяўчына з адзнакай скончыла сярэднюю школу і адзіная ў Беларусі здала кожнае ЦТ на максімальна магчымы бал.

Сёлета лідзяне зрабілі немагчымае. Сёлета ў нас чатыры чатырохсотбальніцы. У Гарадзенскай вобласці больш чатырохсотбальнікаў няма нідзе: ні ў раёнах, ні ў Гародні.

**Паліна Дычак** скончыла сярэднюю школу №16 з залатым медалём. Сярэдні бал атэстата выпускніцы - 10,0. Паліна - уладальнік двух стобальных сертыфікатаў цэнтралізаваных іспытаў па рускай мове і хіміі. На цэнтралізаваным



*Дычак Паліна Дзмітрыеўна*

тэсціраванні па біялогіі таксама атрымала найвышэйшы бал. Такім чынам, 400 балаў з 400 магчымых.

Гэтым летам дзяўчына плануе паступіць у Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт. Спынілася на лячэбным факультэце.

Выпускніца гімназіі №1 Ліды **Ангяліна Лашко** атрымала 100 балаў на цэнтралізаваным тэсціраванні па гісторыі Беларусі. Акрамя таго, у абітурыенткі 100 балаў па выніках цэнтралізаваных іспытаў па грамадазнаўстве і рускай мове. Сярэдні бал атэстата - 10. Ангяліна - таксама пераможца ўніверсітэцкай алімпіяды ГрДУ імя Я. Купалы па гісторыі Беларусі і рускай мове і літаратуры. У планах дзяўчыны - паступленне на факультэт журналістыкі БДУ.



***Лашко Ангяліна Сяргееўна***

Максімальны вынік уступнай кампаніі 2023 года і ў выпускніцы гімназіі №1 Ліды **Ксеніі Сабаткоўскай**. Ксенія скончыла гімназію з залатым медалём, сярэдні бал атэстата - 10,0. Па выніках цэнтралізаваных іспытаў у абітурыенткі 100 балаў па грамадазнаўстве і рускай мове. Яшчэ 100 балаў Ксенія атрымала, заваяваўшы дыплом 1 ступені (абсалютны) на заключным этапе рэспубліканскай алімпіяды па англійскай мове. Сваю будучую прафесію Ксенія плануе звязаць з замежнымі мовамі і стаць студэнткай Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.



***Сабаткоўска Ксенія***

Толькі зацятасць, мэтанакіраванасць і велізарная працавітасць дапамаглі выпускніцы СШ № 8 **Нікановіч Вользе** дамагчыся высокіх вынікаў у выпускной і ўступнай кампаніі.

Атрымаўшы два 100-бальныя вынікі на цэнтралізаваных іспытах па рускай мове і англійскай мове, Вольга яшчэ руплівей займалася падрыхтоўкай да цэнтралізаванага тэсціравання па грамадазнаўстве.

Штодзённыя заняткі, дапамога педагога Сурконт Таццяны Мар'янаўны - і доўгачаканы найвышэйшы вынік - 100 балаў!

Бал атэстата - 9,6. Таму агульны бал у Вольгі 396. Але 300 балаў на іспытах ёсць 300 балаў на іспытах, і мы лічым яе 4-й чатырохсотбальніцай.



***Нікановіч Вольга Сяргееўна***

Поспехі лідскай адукацыі заўважылі і ў сталіцы. Па выніках 2022/2023 навучальнага года ў Гародні ўручалі заслужаныя ўзнагароды лепшым педагогам вобласці. Праца сямі з іх адзначана вышэйшай узнагародай для работнікаў сістэмы адукацыі краіны. Нагрудныя знакі **"Выдатнік адукацыі"** прадстаўнікам Гарадзенскай вобласці падчас жніўеньскай нарады ўручыў дырэктар Дэпартамента кантролю якасці адукацыі Міністэрства адукацыі Міхаіл Міpончык.



Сярод узнагароджаных начальнік упраўлення адукацыі Лідскага райвыканкама **Вольга Зыгмунтаўна Тарасюк**. Адзначана, што пад яе кіраўніцтвам у раёне забяспечана дзейсная работа з адоранымі навучэнцамі. На працягу апошніх гадоў раён знаходзіцца сярод лідараў вобласці па колькасці дыпломаў, заваяваных вучнямі па выніках заключнага этапу рэспубліканскай прадметнай алімпіяды.

Нам пакуль невядома пра балы і месцы, якія там і каму сёлета будуць прысвоены, але без балаў і месцаў можам сцвярджаць, што Лідскае ўпраўленне адукацыі лепшае не толькі ў вобласці, але і ва ўсёй краіне. Магчыма, ацэнка суб’ектыўная, але даецца яна з поўнай павагай да самаадданай працы настаўнікаў і таленту маладых лідзян, якія здзейснілі гэты інтэлектуальны подзвіг 2023 года.

***Матэрыял скампанаваў паводле СМІ***
***Станіслаў Суднік.***

***Станіслаў Суднік***

# Да пытання існавання і размяшчэння Дайнаўскага княства

## *(Даклад з X Лідскіх чытанняў)*

Утварэнне і станаўленне беларускай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага (у пазнейшым варыянце Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага) ішло шляхам аб'яднання і далучэння многіх балцкіх і славянскіх зямель. Ішлі гэтыя працэсы ў жорсткім супрацьдзеянні суседніх, ужо сфармаваных дзяржаў і дзяржаўных утварэнняў.

Адной з частак, і вельмі важнай часткай, ВКЛ стала Дайнаўскае княства. Па прычыне адсутнасці якіх-небудзь пісьмовых помнікаў, створаных непасрэдна ў Дайнаўскім княстве, мабыць, наогул пры адсутнасці ў дайнаўцаў пісьменнасці, мы вымушаны карыстацца знешнімі крыніцамі.

Першае. Хто такія дайнаўцы?

Дайнаўцы адно з яцвяжскіх плямён, якое мела дзве назвы: *яцвягі* і *дайнава*. Яцвягамі іх называлі славяне. Дайнавой іх называлі балты (жамойты, судава, дзяволтва, нальшчаны і ўласна літва). Пры гэтым жамойты - гэта асобны народ, а судава, дзяволтва, нальшчаны і літва - тыя ж яцвягі.

Паходжанне слова *яцвягі* няяснае, магчыма карані яго трэба шукаць у прускай мове, дзе *ятва* - вершнік. Яцвягі былі вершнікамі, ляснымі качэўнікамі, пастухамі (у асноўным кароў). Археолагам вядомыя конныя магілы яцвягаў, дзе людзі пахаваны разам з коньмі. З прускай мовы яго пераймалі мазаўшане (цяпер палякі), дзе яно гучыць як *ядзвінгі*.

Паходжанне слова *дайнава* не менш цмянае. Адно можна сказаць, што *дайна* - гэта песня.

У пісьмовых крыніцах тэрмін з'яўляецца толькі з сярэдзіны XIII ст. - тады, як на гэтай тэрыторыі ўжо не адно стагоддзе існавала балта-славянскае двухмоўе. Як адзначае А. Кібінь, дакладна ўстанавіць час з'яўлення і эвалюцыю значэння літоўскай назвы *Dainava* (як эквівалента славянскага тэрміна *Ятвезь*) не ўяўляецца магчымым. Паводле версіі С. Каралюнаса, назва звязана з *daine, deina, deine* ("дойная карова") і ўзыходзіць да *dainiai* са значэннем "*пастухі кароў"*.

Што пісалі пра іх даследчыкі.

У "Аповесці мінулых часоў" пад 945 г. сярод паслоў, якія заключалі дамову з грэкамі, згадваецца *"ятвяг Гунарев"*. Першае паведамленне аб ваенных сутыкненнях Русі з яцвягамі адносіцца да 983 г.: *"Иде Володимеръ на ятвягы, и победи ятвягы и вся земли их"*.

Пачынаючы з X ст. барацьба рускіх князёў з яцвягамі працягвалася на працягу XI і XII стст. У 1038 г. на яцвягаў хадзіў сын Уладзіміра Яраслаў. Пад 1112 г. у "Аповесці мінулых часоў" паведамляецца аб паходзе на яцвягаў валынскага князя Яраслава Святаславіча. У 1196 г. ваяваць з яцвягамі хадзіў князь Раман Мсціславіч. У 1205 г. яцвягі разам з літоўцамі зрабілі набег на Валынскую зямлю. Асаблівага напружання дасягнула барацьба з яцвягамі ў час княжання Данілы Раманавіча Галіцкага. Пад 1227 г. значыцца запіс аб разгроме яцвягаў, якія напалі на Бярэсце.

У 1248, 1253 і 1258 г. Даніла і Васілька Раманавічы разам з польскімі князямі ажыццявілі тры вялікія паходы супраць яцвягаў. Зямля яцвягаў была моцна спустошана і часткова падначалена галіцка-валынскімі і мазавецкімі князямі. У 2-й палове XIII ст. узмацніўся ціск на яцвягаў з боку нямецкіх крыжакоў.

Пісьмовыя крыніцы адзначаюць мужнасць яцвяжскіх воінаў і іх правадыроў. З сярэдзіны XIII ст. звесткі аб яцвягах у рускіх летапісах абрываюцца. З паведамленняў польскіх і нямецкіх храністаў вядома, што ў канцы XIII ст. яцвягі былі канчаткова заваёваны крыжакамі. У 1283 г. апошні незалежны яцвяжскі (судаўскі) нобіль Скурдо, пакінуў радзіму і пайшоў з сваім атрадам у Літву. Яцвяжская тэрыторыя была спустошана, а насельніцтва часткова знішчана, часткова перасялена на суседнія землі (Літва, Польшча, Панямонне).

Археолагі правялі вялікую работу па лакалізацыі тэрыторыі, заселенай яцвягамі, але вынікі археалагічных раскопак мы тут апусцім.

Паспрабуем перайсці бліжэй да Дайнаўскага княства.

Паводле летапісу "Манумента Германіка" вядома з 1217 гістарычная вобласць (зямля) Дайнава, заселеная яцвяжскім племем.

21 жніўня 1253 г. папа Інакенцій IV зацвердзіў перадачу земляў Нямецкаму Ордэну, у тым ліку і палову зямлі Дайнова (Dainowe): *"Мы даведаліся, што найдаражэйшы ў Хрысце сын наш, найяснейшы кароль Летовіі... падараваў, як вы сцвярджаеце, вам і вашаму шпіталю землі Вангі і Коршава, а таксама палову мясцовасцей, якія па-просту называюцца Дайнова і Расіёны, ды некаторыя іншыя мясцовасці і маёмасці, якія наколькі вядома, належалі яму. Таму мы, ...апостальскай уладай гэта завяраем і зацвярджаем моцай гэтага ліста"*.

12 сакавіка 1254 г. Міндоўг, *«добра параіўшыся з сваімі, прынялі вялебнага айца пана Хрысціяна, якога*

*папрасілі высвяціць на біскупа нашага каралеўства, уводзячы яго ў дзяржанне, а таксама прызначаючы яму ж у трыманне палову Расейнаў, палову Бетыголы, палову Лукава, на вечную памяць пра гэтую справу мы далі зацвердзіць гэты ліст нашай пячаткаю. Учынена гэта ў прысутнасці і са згоды нашых сыноў Рэплі і Герстута, ды нашага вернага Парбуся». (Там жа,1.3 ).* Гэтым дарчым дакументам тры з пяці памежных земляў 1253 г., а менавіта палова Расейнаў, палова Бетыголы, палова Лукава, былі падораныя біскупу Хрысціяну. Айрагола і Дайнава ў дакументе не згадваюцца, з чаго выцякае, што гэтыя дзве зямлі засталіся памежнымі.

Трэці раз зямля Дайноў згадваецца ў дамове Міндоўга з Нямецкім Ордэнам у Лівоніі ад 7 жніўня 1259 г. Гэтую дамову J. Latkowski (1892) і W. Ketrzynski (1907) лічылі фальсіфікацыяй. К.Maleczynski (1936) даказваў яе сапраўднасць. Калі гэта і фальсіфікацыя, то тых часоў, што дазваляе ставіцца да геаграфічных назваў мясцовасцяў і селішчаў як да дакладных. Па дамове 1259 г. Міндоўг, быццам бы, саступіў крыжакам амаль усю Дайнаву: *"...мы са згоды нашых дзедзічаў перадалі іхняму дому на вечнае, вольнае і бяспечнае валоданне ніжэй названыя землі, нічога не пакідаючы сабе з права ці юрысдыкцыі або ўлады на іх. ... Назовы ж земляў гэткія: Данова (Denowe) уся, якую таксама некаторыя называюць Етвезь (Ietwesen), з выняткам некаторых невялікіх земляў, а менавіта Сентаны (Sentane), Дзернаў (Dernen) і Крэсмаў (Cresmen), і вёскі, якая называецца Губініты (Gubiniten), з трыма вёскамі ў Вельцаве (Welzowe), якія захоўваем у сваім валоданні. Звыш таго мы далі згаданым братам усю землю Скалову (Schalowen), усю Жамойць (Seymeten), з выняткам толькі тых маёмасцяў у самой Жамойці, якія мы перадалі вялебнаму айцу і пану біскупу Летовіі".*

W. Ketrzynski (1907) і H. Lowmianski (1932) лакалізавалі тры тапонімы з гэтай дамовы: Sentane - гэта Свентайна, Dernen - Дзярнова, Cresmen - Скаментна. Гэтыя селішчы знаходзяцца ў Польшчы ў паўднёвай частцы Судавіі, паміж Мазурскімі азёрамі і р. Бебжа.

Такім чынам, з тэкстаў дамоў 1253 і 1259 гг. выцякае, што зямля Дайноў (Дайнова) спачатку была падзеленая на дзве паловы, адна з якіх была падораная братам Тэўтонскага Ордэна ў Лівоніі, а праз 6 гадоў, магчыма, і другая палова, за малым выключэннем была перададзена ў іх валоданне. Зямля гэтая размяшчалася на заходнім памежжы каралеўства, у Судавіі.

Дайнаўскае княства згадваецца ў "Летапісцы Вялікіх князёў Літоўскіх": *"А пятый брат Троиндень мешкал пры брате своем великом князе Нарымонъте. И доведался князь великий Нарымонт, што ж князи Ятвезъские померли, а люди их мешкают без господара. И князь Нарымонт поидеть на них. И они не противечыся поддалися и поклонилися ему. А так он, оставшы им господарем и вземшы их, дал брату своему Троинденю за вдел. И князь великий Тройдень наидеть гору красную над рекою Бебрею. И сподобалося ему там вельми и зарубил город и назоветь его Раигород, и прозоветься князем Ятвезским и Доиновъским".* (*"А пяты брат Трайдзень жыў пры браце сваім вялікім князі Нарымонце. І даведаўся князь вялікі Нарымонт, што князі яцвяжскія памерлі, а людзі іх жывуць без гаспадара. І князь Нарымонт пайшоў на іх. І яны не супраціўляючыся паддаліся і пакланіліся яму. І так ён, стаўшы ім гаспадаром і ўзяўшы іх, даў брату свайму Трайдзеню ва ўдзел. І князь вялікі Трайдзень знайшоў гару прыгожую над ракою Бабром. І спадабалося яму там вельмі і зарубіў горад, і назваў яго Райгорад, і празваўся князем Яцвяжскім і Дайнаўскім"*).

У "Хронiцы літоўскай і жамойцкай": *"Тройден ятвиги, где теперь Подляше и князство Дойневское, доброволне собъ поданое, опановал, который, заъехавши з пригоды в пущу на ловы, нашол гору роскошную над Бобром ръкою, которой положене собъ уподобавши, збудовал Райгородок замок".* (ПСРЛ. Т.32. М.1975, с.32). (*"Трайдзень яцвягаў, дзе зараз Падляшша і княства Дайнаўскае, дабраахвотна яму паддаўшыхся, апанаваў, ён жа, заехаўшы з прыгоды ў пушчу на ловы, знайшоў раскошную гару над ракою Бабром, якой размяшчэнне ўпадабаўшы, збудаваў замак Райгарадок".*)

У хроніцы Быхоўца: *"Y kniaz weliki Troyden nayde hora krasnu nad rekoiu Bebroju, y spodobalosia jemu tam welmi, y zarubil horod, y nazowet ieho Rayhorod, y prozowetsia welikim kniazem jatwizskim y doynowskim"* (Там жа, с. 135). (*"А вялікі князь Трайдзень знайшоў прыгожую гару над ракою Бабром, і спадабалася яму там вельмі, і зрубіў горад, і назваў яго Райгорад, і празваўся князем яцвяжскім і дайнаўскім".*)

Беларуска-літоўскія хронікі сыходзяцца ў тым, што князь Трайдзень, без бітваў і гвалту "апанаваў" тэрыторыю яцвягаў і дайнаўцаў; што яцвягі жылі ў Падляшшы, побач размяшчалася княства Дайнаўскае; на тэрыторыі яцвягаў над ракой Бабёр Трайдзень знайшоў гару, на гэтай гары пабудаваў Райгорад і стаў князем яцвяжскім і дойнаўскім.

Сучасны Райгорад з Замкавай гарой размешчаны ў Польшчы ў Падляшскім ваяводстве, у Граеўскім павеце, за 24 км ад Аўгустова на беразе Райгродскага возера. Трохі паўднёвей працякае р. Бабёр - Бебжа папольску - правы прыток Нарава.

Важная інфармацыя тут яшчэ і ў тым, што Нарымунт даў Трайдзеню яцвяжскія і дайнаўскія землі ва ўдзел. Сфармавалася ўдзельнае княства.

Яшчэ раз зямля Дайноў згадваецца ў Салінскай дамове 1398 г., калі Вялікі князь літоўскі Вітаўт у чарговы раз саступіў крыжакам палову Судавіі.

Летапісы дапоўніў вялікі гісторык Літвы Тодар Нарбут.

Тодар Нарбут, малюючы паход князя Скірмунта

ў 1160 г. на невядомага гісторыкам князя ўладзіміра-валынскага Мсціслава Ізяслававіча, перамогу ў бітве з валынцамі над берагам Ясельды, здабычу Пінска і Турава: *"Zkad przyniosl trofea zwycieztwa i radosne wiesci ojcowi swojemu do Dziewialtowa"* (*"Адкуль прынёс трафеі перамогі і радасныя весткі бацьку свайму ў Дзевялтоў"*); завяршыў абзац фразай: *"Do tej lub blizkiej epoki odnosi sie przylaczenie stale do Litwy Xieztwa Dejnowskiego, dzis czesc wschodnio-poludniowa powiatu Lidzkiego"*. (*"Да гэтай, або блізкай эпохі адносіцца сталае далучэнне да Літвы Княства Дайноўскага, цяпер паўднёва-ўсходняя частка Лідскага павета".*) *(Narbutt T. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T.3. S.298.)*

І затым некалькі разоў паўтарыў гэтую думку ў 4 і 5 тамах сваёй "Гісторыі літоўскага народа": *"W roku 1234 Rus, polozona mitdzy Dzitwa i Pelasa, z jednej, a Niemnom z drugiej strony, od ujscia Gawii do ujscia Kotry, juz zaczela nalezec do Wielkiego Xieztwa Litewskiego, nie mniej Dejnow, Lida, Dabrowna i po rzeke Zyzme, jak dopiero jest granica miedzy powiatami Lidzkim i Oszmianskim"*. (*"У 1234 г. Русь, размешчаная паміж Дзітвой і Пелясой, з аднаго, і Нёманам з другога боку, ад вусця Гаўі да вусця Котры, ужо пачала належаць Вялікаму Княству Літоўскаму, не меней Дайноў, Ліда, Дуброўна і па рацэ Жыжме, як зараз ёсць мяжа паміж паветамі Лідскім і Ашмянскім."*) *(T.4. S.74.)*

*"Byl on razem Xiezeciem Dojnowskim, …wydzial ten od Dojnowa, znajomej wlosci dotad, w powiecie Lidzkim, nazwany, skladaly parafie tego powiatu Ruskie, gdyz czesc Peluzyi, czyli parafie Litewskie". "Dojnaw, czyli jak dzis pisza Dejnow, lezy nie daleko Lidy i Myta"*. (*"Быў ён адначасова князем Дайнаўскім,* (гэта пра Трайдзеня) *… названы ад Дайнова, вядомай валасці дагэтуль, у павеце Лідскім, складалі парафію гэтага павета рускія, а частку Пялюзіі, гэта значыць парафіі - літоўскія". "Дайнаў, ці як сёння пішуць, Дайноў, ляжыць недалёка ад Ліды і Мыта". (T.4. S. 285).*

*"To miejsce, po zawojowaniu Xieztwa Dejnowskiego, okolo r. 1180, w ktorem lezalo, jest osada litewska; poniewaz Lida, znaczy trzebiez, pole z lasu oczyszczone"*. (*"Гэтае месца, пасля заваёвы Княства Дайнаўскага, каля 1180 года, у якім знаходзілася, ёсць селішча літоўскае; таму што Ліда, азначае высечка, поле, вычышчанае ад лесу".) (T.5. Dodatki … S.1.)*

Дайнаўскае княства аказалася лакалізаваным на Лідчыне, а горад Ліда быў аднесены ў 12 стагоддзе. Заслухаўшы даклад Леаніда Лаўрэша мы знайходзім у Нарбута адну недакладнасць: Ліда ў 12-м стагоддзі была паселішчам не літоўскім, а славянскім, і на той час сталіцай Дайнаўскага княства быць не магла.

За Т. Нарбутам рушылі ўслед I. Iaroszewicz (1844): *"Дэйна - гэта цяперашняя Дайнова, пасял. на захад ад Ліды"*;

Н.П. Барсаў (1873, 1885): *«Область Денова находилась между Неманом и Вилией, по притокам Немана, Меречанки, Дитве и Жижме, в теперешних уездах Лидском, Ошмянском и в южной части Виленского, и, может быть, Вилейского. Здесь до сей поры находятся несколько населенных мест, сохранивших древнее областное название. Нам известны - по р. Меречанке и ее притокам: Дойнова и Дойновка к югу от Медников (верстах в пяти), Дайнова на юго-запад от них (верстах в двадцати), Дайнишки и Дайнова на р. Сольче, Дейново на юг от Сольчи (все в Вилейском уезде); по Дитве - Дойново к западу от Лиды верстах в пяти; по Жижме; Дайнувка у верховьев ее на Виленско-Ошмянской границе, Дайновка ниже Германишек; два селения Дайнова, между Жижмой и Ольшанкой, к северо-востоку от Лиды. Сверх того, подобноименные селения встречаются и в южной части Ошмянского уезда, на Минской границе, в области Неманского притока Березины: Дойнова Большая и Дойновка на речке Пурвиле»*;

А. Кіркор ("Живописная Россия", 1882): *«Древнѣйшая же столица Дейновцевъ, Дейново, въ 15 верстахъ от Лиды, нынъ небольшая деревня. Дейновское княжество существовало еще въ начале XIII стольтия.… В Дейновъ сохранился большой камень, который народъ называет кобылкою, ибо, по преданію, на нем казнили преступниковъ"*;

У энцыклапедыі "Жывапісная Расія", у раздзеле, які тычыцца Ліды, можна знайсці інфармацыю, што Ліда была сталіцаю ўдзельнага княства і можна яе лічыць вельмі старым паселішчам на мяжы Літвы, зямель славянскіх і дайнаўскіх. Горад адыгрываў важную ролю ў гісторыі памежжа. Адам Кіркор, аўтар "Жывапіснай Расіі", лічыў, што Ліда ўжо ў даўнія часы магла выконваць функцыі цвердзі, а князь Гедымін пазней пабудаваў у ёй замак.

*"Ліда ляжыць амаль на мяжы двух плямён, якія насяляюць Лідскі рэгіён: ліцвінаў і чарнарусаў, аддзеленых рэчкай Дзітва. Найстарэйшая сталіца дайнаўскіх плямён Дайнава - гэта цяпер невялікая вёска наводдаль ад Ліды. Дайнаўскае княства існавала яшчэ ў пачатку XIII стагоддзя (…)"*.

У кніжцы "Нячысцікі з гісторыі жыцця літоўскага народа" Кіркор коратка дадаў інфармацыю, якая ўтрымоўвае сведчанні, датычныя Дайнаўскага замка:

*"Горад Ліда быў пабудаваны на самай граніцы старажытнай Літвы і славянскіх плямён. Быў заснаваны ў другой палове XIII стагоддзя, калі Дайнаўскае ўдзельнае княства ўступіла месца Лідзе, якая спачатку, праўдападобна, была невялікім літоўскім паселішчам"*.

У даведніку "Гарадскія паселішчы ў Расійскай Імперыі" за 1860 год напісана: *"Горад Ліда належыць да найстарэйшых літоўскіх паселішчаў. Навакольныя маёнткі ўтваралі самастойны ўдзел дайнаўскіх князёў, рэшткі палаца якіх захаваліся ў фальварку Дайнава каля Ліды"*.

Э.А. Вальтэр (1893, Энциклопедия Брокгауза): *«Дейновское княжество XII в. находилось в пределах*

*нынешнего Лидского у. Виленской губ. Около фольварка Дейнова (близ р. Дзитва) заметны следы замка и города, который был главным в Д. княжестве. Сохранился большой камень, называемый “кобылкой”, на котором, по преданию, казнили преступников»; Ф.В. Пакроўскі (1893) і інш.*

Беларускі гісторык Вячаслаў Насевіч звяртае ўвагу на тое, што прыкладна з часу Трайдзеня дайнаўскія землі робяцца часткай Вялікага Княства Літоўскага - гэта лёгка тлумачылася б тым, што князь Дайнавы, стаўшы вярхоўным князем Літвы, зліў сваю вотчыну з уладаннямі папярэдняй дынастыі. У 1323 г. Гедымін перанёс сталіцу княства ў Ліду, утварылася Лідскае княства; пры Вітаўце ў канцы XIV ст. Лідскае княства ўключана ў склад Віленскага княства ВКЛ. У XV ст. і пазней большасць гэтага абшару займала малазаселеная Дайнаўская пушча - традыцыйнае месца палявання вялікіх князёў літоўскіх.

Сцвярджэнне Т. Нарбута, дзякуючы гэтак аўтарытэтнай падтрымцы даследчыкаў, большасць з якіх былі хутчэй літаратарамі, чым гісторыкамі, дажыло да канца мінулага стагоддзя: *“Дайноўцы – нашчадкі яцвяжскага племя, што жылі на правым беразе Нёмана. У 13-14 ст. мелі княства, якое займала тэр. паміж Нёманам (правыя прытокі Дзітва, Гаўя з р. Жыжма) і Віліяй. Упершыню княства ўпамінаецца пад 1259 у грамаце Міндоўга. З 1260-х гадоў дайноўцы, страціўшы сваіх князёў, запрасілі да сябе кн. Трайдзеня. З цягам часу асіміляваліся большасцю ў беларусаў, астатнія – у літоўцаў” (ЭГБ. Том 3. 1996. с.195).*

Пад канец 20-га стагоддзя абазначылася перанясенне Дайноўскага княства на паўночны захад ў ніжнюю плынь р. Меркіс: *«Дайнава (Дайнова), гіст. вобласць у Літве і на Пн-З Беларусі. Упершыню ўпамін. у 1255 у грамаце Міндоўга крыжакам* (магчыма, падробленай). *Першапачаткова ўяўляла сабой, напэўна, тэрыторыю аднайменнага заходнебалцкага (яцвяжскага) пляменнага княства, якое ў 2 пал. 13 ст. увайшло ў склад ВКЛ і было паступова асіміліравана на Пн літоўцамі, на Пд - беларусамі… Асноўная тэрыторыя Д. ахоплівала правабярэжжа Нёмана на Пн - У ад Гродна, у ніжнім цячэнні р. Мяркіс (суч. Варэнскі р-н Літвы) і прылеглых частках суч. Гродненскага, Шчучынскага і Воранаўскага р-наў, адкуль адбывалася рассяленне далёка на Пд (нават на левабярэжжа Нёмана) і на У. У 15 ст. і пазней большасць гэтага абшару займала слабазаселеная Дайнаўская пушча» (Беларуская энцыклапедыя. Т. 6. Мінск, 1998. С. 11).*

Акадэмік В.В.Сядоў у працы "Яцвяжскае племя Дайнава" пацвярджае выяўленае раней Т.П. Барсавым і А.Камінскім адпаведнае засяроджванне тапонімаў вытворных ад Дайнавы і прыводзіць карту, на якой відаць, што 80% іх канцэнтруюцца на міжрэччы Віліі і Нёмана.

Тут жа ў басейнах рэк Мерач, Дзітва, Гаўя В.В. Сядоў вылучае раён шырокага распаўсюду каменных магіл 13 -14 стагоддзяў.

Сядоў В.В.зважае на наступныя моманты:

1. У канцы XII і ў XIII у. на міжрэччы верхняга Нёмана і Віліі на змену каменным курганам прыходзяць каменныя магілы.

2. Пахаванні ў каменных магілах здзяйсняліся па абрадзе інгумацыі (трупапакладання).

3. Рэчавы матэрыял каменных курганоў з трупапакладаннямі і каменных магіл аднатыпны.

Зыходзячы з падабенства каменных курганоў і каменных магіл, аднатыпнасці іх рэчыўнага складу В.В. Седов лічыць, што каменныя магілы на гэтай тэрыторыі з'яўляюцца эвалюцыяй каменных курганоў і належаць да адной этнічнай групы насельніцтва. І высновa: *"Каменныя магілы засяроджаны ў тых раёнах міжрэчча Віліі і Нёмана, дзе выяўляецца канцэнтрацыя тапонімаў тыпу "Дайнава" і дзе, паводле падданняў, знаходзілася Дайнаўскае княства".*

Паводле Леаніда Лаўрэша *(Леанід Лаўрэш. Каменныя магілы Лідчыны, Наша слова № 28 (971), 15 ліпеня 2010 г.)* гістарычная Лідчына багатая на каменныя магілы, вывучэнне іх пачалося ў канцы XIX ст. раскопкамі В. Шукевіча і Э. Вальтэра. Гэтыя даследчыкі ў межах былога Лідскага павета даследавалі больш за 400 магіл.

Два пахаванні маюцца каля вёскі Вензаўшчына. Адно за 0,1 км на захад на пад'ездзе да вёскі (XIII-XIV стст.), другое (X-XV стст.) за 80 м на паўднёвы захад ад вёскі на прыгожым узгорку (вераемна пра гэты ўзгорак пішуць Л. Дучыц і У. Лобач ў энцыклапедычным слоўніку-даведніку пад рэдакцыяй З. Санько "Беларуская міталёгія" піша, што ён мае назву "Перунова гара"). У 1-м могільніку адзначаны пахаванні трупапалажэннем галавой на захад у ямах і амаль кожны нябожчык быў сярод дошак. У 2-м могільніку (на пагорку) хавалі ўжо галавой на поўдзень і на паўднёвы захад (тут ёсць і трупаспаленне, і пахаванне ў дамавінах так сама сустракаюцца больш позні пахаванні на месцы ранейшых).

У канцы 1889 г. Вальтэр зрабіў раскопкі 19 старажытных магіл. Ф. Пакроўскі пісаў (Археологическая карта Виленской губернии. 1893. С.109.): *"…быў знойдзены арыгінальны спосаб пахавання, так як над касцякамі і над пластом пяску сустракаюцца надмагільныя вогнішчы і вуглі. У гэтых магілах знойдзены наступныя прадметы: бронзавы ключ з рэшткамі раменьчыка для нашэння гэтага ўпрыгажэння на грудзях; розныя галаўныя ўборы, якія складаюцца з бронзавых пласцінак; 2 нараменнікі (рамена - плячо,* заўвага Л. Л.)*; 2 бранзалеты; да 10 масіўных бронзавых пярсцёнкаў; адзін крыжык, які насілі разам са шклянымі каралямі, званочкамі і шамкамі; жалезныя ножыкі; паясныя кольцы; спражкі; адну сякеру і адну дзіду; срэбныя шарыкі на бронзавым дроце, якія служылі вушнымі ўпрыгожваннямі".*

У адной з магіл быў знойдзены павалены гаршчок і збан каля галавы нябожчыка, у іншай - міса, у




**Рис. 5. Карта распространения каменных могил Верхнего Понеманья (древности Дейновы XIII—XV вв.):**

*1* — каменные могилы; *2* — ареал концентрации топонимов типа «Дейнова»; *1* — Церемец; *2* — Ульбины; *3* — Киюце; *4* — Саланяцишки (?); *5* — Пузеле; *6* — Раки; *7* — Верки; *8* — Уланы; *9* — Ковляны; *10* — Шлавенце; *11* — Концовщизна; *12* — Вензовщизна; *13* — Ганелки; *14* — Собакинцы; *15* — Дворчане; *16* — Веребьи; *17* — Глушня; *18* — Тоболиче; *19* — Угольники; *20* — Мацики; *21* — Сырни; *22* — Кульбачин; *23* — Дунич — Могилицы; *24* — Опановцы; *25* — Полянки; *26* — Ольшаны *27* — Скуратов (?); *28* — Маркенты; *29* — Хотенчицы; *30—33* — Красница, Старое Село, Ивашкевичи, Клепачи

магільніку на пагорку - грошы ВКЛ. *(Гл: Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX-XIII вв. С.39-42.)*

Паблізу м. Нача, на палях ваколіцы Пузелі знаходзяцца старадаўнія могілкі, якія ў 1885 г. даследаваў Шукевіч сумесна з Вальтэрам (зараз вёска Пузелі, каменныя магілы за 0,7 км на поўдзень ад вёскі). Яны раскапалі 8 магіл, пры чым пры мужчынскіх касцяках былі сякеры і крэсалы а пры жаночых - разнастайныя бронзавыя ўпрыгожанні, акрамя звычайных пярсцёнкаў і завушніц былі бронзавыя дыядэмы з бронзавымі ці пазалочанымі сярэбранымі падвескамі і шкляныя пацеркі рознай велічыні. У Пузельскіх магілах былі знойдзеныя арыгінальныя бронзавыя ключы-падвескі і два літоўскія дынары. Усе пахаванні мелі сцены выкладзеныя камянямі ад дна да верху. Зверху магілу пакрывалі каменныя муроўкі авальнай формы з вялікімі

камянямі ў галавах *(Гл: Пакроўскі Ф. Археологическая карта Виленской губернии. 1893. С. 107.).*

Т. Нарбут таксама згадвае аб раскопках ў яго прысутнасці адной каменнай магілы ў Начы, тут былі знойдзеныя адна цэлая каменная сякера і два абломкі сякеры *(Dziei… T.1. S. 369.)*

Не даязджаючы да вёскі Пашкавічы з боку Ліды (Воранаўскі р-н, 0,3 км на поўдзень ад вёскі), у лесе пры дарозе ёсць каменны могільнік XIII-XV стст.

Ёсць каменыя магілы і каля вёскі Беліца. У 1981 г. тут было выяўленае пахаванне мужчыны з часткамі каня, што размяшчаліся зверху, на магіле. Археолаг Ала Квяткоўская лічыць што гэта пахаванне заталося ад прусаў (борцей), якія былі вымушаны ўцякаць на нашыя землі ад Тэўтанскага ордэна. На карысць прускай прыналежнасці беліцкага могільніка, які датуецца канцом XVI-XVII стст., можа сведчыць тое, што, значная частка маёнтка Ліпічны над Нёманам на поўдзень ад Жалудка, узнікла з земляў барцянскіх і іх пасяленцаў. Уладанні гэтыя, з прычыны безнашчадкавай смерці Станіслава Андрэевіча Давойны, полацкага ваяводы, перайшлі да караля Жыгімонта Аўгуста, які памяняў іх у 1567 г. на Індуру, уласнасць князя Мікалая Радзівіла. У 1572 г. пры смерці кароль Аўгуст са складу ваяводства Панёманскага выдзяліў вёскі: Вялікія і Малыя Буцілы, а таксама Панямунцы, і землі гэтых вёсак з людзьмі, жонкамі і іхнімі дзецьмі падараваў ва ўладанне князю Юрыю Радзівілу. Гэтая зямля разам з усімі нявольнікамі, уцекачамі, а таксама і набытая князем Радзівілам, утварылі маёнтак Андрушоўшчыну над Нёманам, які потым належаў радзівілаўскаму ключу Беліца *(Квяткоўская Ала. Да пытання пра прусаў - перасяленцаў на тэрыторыі Беларусі ў Сярэднявеччы).*

Каля в. Апонаўцы (Воранаўскі р-н, 0,5 км на поўнач ад вёскі) ёсць могільнік XIII - пачатак XV ст. Ф. Пакроўскі *(Археологическая карта Виленской губернии. 1893. С. 106,108.)* пісаў, што магілы гэтыя вядомыя ў народзе пад назовам *"Татарскія могілкі"*. Яны маюць выгляд невялікіх насыпаў, выкладзеных з камянёў авальнай ці круглай формы. Каля магіл авальнай формы амаль заўсёды ў адным або ў абодвух канцах стаяць вялікія, абчэсаныя валуны, што, здаецца, і было нагодай назваць гэтыя магілы *"татарскімі"*. На ўсіх падобных могілках назіраецца аднолькавы абрад пахавання. Нябожчыкаў клалі на дне ямы 0,8-1,2 м глыбінёй, без усялякай падсцілкі, галавой на захад, тварам уверх, з рукамі, скрыжаванымі на грудзях, на жываце, ці выцягнутымі ўздоўж сцёгнаў. Каля нябожчыка клалі звычайна усё тое, што насілася ці ўжывалася, калі ён быў жывы. Магілы жанчын маюць шмат усякага роду ўпрыгожванняў з бронзы, з нейкага белага металу ці з срэбра. У ліпені 1889 г. Вальтэр пры вёсцы Апонаўцы раскапаў 21 магілу і знайшоў розныя ўпрыгожванні з бронзы (крыжык, розныя завушніцы, бляшкі і г.д.) і прадметы з жалеза (спражкі, 1 сякеру і г.д.). Пры касцяках былі: 1) абломак пражскага гроша XIII ст., 2) дынары Аляксандра Ягелончыка, 3) дынары з славянскім надпісам "печать" на адным баку, і з малюнкам - дзідай з крыжам - на другім. Манеты гэтыя знаходзіліся разам з красалам і крэменем і ляжалі па правы бок ад галавы нябожчыка.

Па пытанні этнічнай прыналежнасці насельніцтва, якое пакінула каменныя могільнікі, існуюць два пункты гледжання. Напрыклад, В. Шукевіч, Э. Вальтэр, А. Квяткоўская лічылі іх помнікамі яцвягаў, а А. Спіцын, В. Сядоў, Ф. Гурэвіч помнікамі нашчадкаў таксама яцвягаў, але ўжо славяназаваных *(Гл: Піваварчык С. і Семянчук Г. Археалогія Беларусі. 1996. Ч.2. С.33.).*

На гістарычнай Лідчыне захавалася яшчэ каля дзесятка каменных магіл, якія знаходзяцца пад аховай дзяржавы.

**Тапонімы Дайнава**

У рэчаіснасці селішчаў з назвай, вытворнай ад Дайнава (Дэйнова, Дайнова, Дайноўка, Дайнуўка, Дайнішкі) - больш за пяцьдзесят. На тэрыторыі сучаснай Літвы А. Камінскі налічыў 28. У Гарадзенскай вобласці ў наш час маецца каля 10 падобных селішчаў. У межах Лідскага павета напачатку XX стагоддзя мелася 5 вёсак і адзін фальварак з назвай Дайнава.

21 год назад, у 2002 годзе аўтар гэтага даклада таксама займаўся пытанне лакалізацыі Дайнаўскага княства па тапонімах. Даследаванне вялося ўжо па сучасных картах. Многія тапонімы, якія знайшоў у свой час Камінскі, ужо зніклі, але некаторыя засталіся.

У Дзітвянскім сельсавеце Лідскага раёна ёсць вёскі Дайнава -1 і Дайнава - 2.

Акрамя Лідскага раёна вёскі з назвай "Дайнава"' ёсць у Бастунскім і Беняконскім сельсаветах Воранаўскага р-на, у Геранёнскім с/с Іўеўскага р-на.

Вёска "Дайнова" - у Гудагайскім с/с Астравецкага раёна.

Вёскі з назвай "Дайноўка" размешчаны ў Воранаўскім п/с Воранаўскага раёна, у Гудагайскім с/с Астравецкага раёна, Каменаложскім с/с Ашмянскага раёна.

Вёска Дайнаполе знайходзіцца ў Барунскім с/с Ашмянскага р-на.

Вёска Дойнеўцы - у Крэўскім с/с Смаргонскага раёна.

Вёскі Дайнава і Дайноўка ёсць у Валожынскім раёне Менскай вобласці.

Атрымліваецца 13 тапонімаў.

Вёска Дайнава знайходзіцца ў Укмергскім раёне Літвы, за 10 км на паўднёвы захада ад Укмерге.

Літоўцы выдзяляюць Дайнаўскую нізіну, пясчаную раўніну на паўднёвым усходзе Літвы ўздоўж рэчак Воке, Мяркіс, Котра і Балтойн-Анна, якая аддзяляе азёрную Балтыйскую граду ад Лідскай раўніны і Гарадзенскага ўзвышша.

Дайнаўская пушча - самы вялікі лясны масіў Літвы. Займае больш паловы Варэнскага раёна Літвы. У часы Дайнаўскага княства яна цягнулася да Гародні

Паводле гістарычнай традыцці - этнонімы ў назвах населеных пунктах скарыстоўваюцца, як правіла на краях арэолу рассялення этнасу. Таму, акрэслiўша




Іл. 1.12. Арэал распаўсюджання яцвяжскіх тапонімаў (па А. Камінскаму)

$J_N$ – з каранёвай асновай «*ятв-*»;
$D_N$ – з каранёвай асновай «*дайн-*»;
$S_N$ – з каранёвай асновай «*суд-*»




**Рис. 4. Карта распространения топонимов типа «Дейнова»:**

*1* — топонимы Дейнова, Дейновка, Дейновщизна, Дайнова, Дайновка, Дайновская; *2* — топонимы Данова, Дановка, Дановски; *3* — местоположение столицы Дейновского княжества (по преданиям); *4* — северная, восточная и южная границы расселения ятвяжских племен (по данным гидронимики и археологии); *5* — ятвяжско-прусская и ятвяжско-галиндская границы (по А. Каминскому)




***Дайнаўская пушча***




***Дайнаўскі арэол у раёне Ліды паводле сённяшніх тапонімаў***

нашыя тапонімы, мы атрымоўваем даволі вялікі рэгіён. Наклаўшы абрысы гэтага рэгіёна на адміністрацыйныя карты розных часоў выразна бачым, што ён накладваецца то на абрысы Віленскага краю, то часткі Віленскага ваяводства. Дайнаўскі арэол на 60-70 % накрывае рэгіён лакалізацыі летапіснай Літвы паводле Алеся Краўцэвіча. А калі ўлічыць, што справа, у раёне Крэва - Ашмяны, былі Нальшаны, то летапісная Літва па Краўцэвічу - на 100% яцвягі.

У XIII ст. землі яцвягаў падвергліся нашэсцю Тэўтонскага ордэна. Частка насельніцтва была сілай пераселена ў Прусію, частка мігрыравала на іншыя тэрыторыі. Тэрыторыя Яцвягіі імкліва сціскаецца крыжакамі з захаду, мазаўшанамі і валынцамі з поўдню.

Пасля разгрому і пакарэння большай часткі прускіх плямёнаў тэўтонцы выйшлі на межы яцвяжскага племені судава. Заходняя Судавія была выразана амаль цалкам. Невялікая частка ўцякла ў ВКЛ. Пад удар трапляла Усходняя Судавія і ўжо непасрэдна Заходняя Дайнава або Яцвягія. Менавіта ў гэты час тут з'яўляецца Трайдзень - адзін з найвыдатнейшых воінаў, палкаводцаў і палітыкаў таго часу. Асноўнае, што мы можам сказаць пра Трайдзеня: ён ні на ёту не баяўся крыжакоў і вельмі паспяхова іх біў. Таму без біяграфіі князя яцвяжскага і дайнаўскага, а пасля Вялікага князя літоўскага Трайдзеня не абысціся.

**Трайдзень**

Трайдзень, Трайдзен, Трайдэн (? - 1282) - князь яцвяжскі і дайнаўскі, Вялікі князь літоўскі (1270-1282).



Імя Трайдзень - можа быць як славянскага, так балцкага паходжання. Наша слова *дзень* і балцкае *дэн*. *Трайдзень* - *трэці дзень*, і няма чаго гадаць.

Паходжанне пэўна не вядома.

Паводле пазнейшага Васкрасенскага летапісу, бацька Трайдзеня - Віда, дзядзька яго - Гердзень, родзічы Міндоўга і разам з тым нашчадкі полацкіх князёў. У беларускіх-літоўскіх летапісах XVI ст., "Хронiцы Быхаўца" і іншых, паходжанне Трайдзеня яшчэ больш заблытанае, там ён малодшы брат Нарымонта. Паводле Галіцка-Валынскага летапісу, вядомы толькі ўдзел Трайдзеня і яго братоў Борзы, Лесія, Свялкенія і Сірпуція, яшчэ пры Міндоўгу, у войнах супраць галіцка-валынскіх князёў, калі Борза, Лесій і Свялкеній загінулі. Імёны братоў Трайдзеня чыста славянскія. Галіцка-Валынскі летапіс называе братоў Трайдзеня праваслаўнымі, а таксама паведамляе пра боязь галіцкага князя Льва Данілавіча помсты за забойства Войшалка. Таму частка даследчыкаў трымаецца думкі, што Трайдзень меў сваяцкія сувязі з родам Міндоўга і працягваў палітыку Войшалка. На думку Вітаўта Чаропкі, Трайдзень быў сынам Едзівіда, брата Таўцівіла, і меў законнае права на вялікакняскую ўладу як блізкі сваяк (дваюрадны пляменнік) Войшалка. Таму ні адзін з летапісаў не паведамляе пра захоп ім улады.

Найбольш баяліся Трайдзеня галіцка-валынскія князі. Яны бачылі ў ім выканаўцу праклёну, які быў накладзены на род Данііла Галіцкага за здрадніцкае забойства Войшалка Львом Данілавічам, калі Войшалк быў у яго ў гасцях.

Паводле "Хронікі Быхаўца", старэйшы брат Нарымонт зрабіў Трайдзеня князем у яцвягаў, якія страцілі сваіх валадароў і лёгка паддаліся літоўскай уладзе, ён пабудаваў горад над Бабром і назваў яго Раем, а пасля смерці Нарымонта стаў Вялікім князем у Навагародку. Нарымонт не згадваецца сярод вялікіх князёў, але ён мог быць значнай палітычнай фігурай пры Войшалку і Шварну. Мог быць зусім нядоўга Вялікім князем пасля смерці Шварна ў 1269 годзе.

На аснове пазнейшага паведамлення ордэнскіх крыніц пра Кернаў як *"горад у зямлі Трайдзеня"*, некаторыя даследчыкі выказалі думку пра гэты горад як уладанне Трайдзеня перад тым, як стаць валадаром усёй дзяржавы.

Пэўна ж вядома, паводле Галіцка-Валынскага летапісу, толькі пра ўдзел Трайдзеня з братамі яшчэ пры Міндоўгу ў войнах з галіцка-валынскімі князямі і тое, што пасля гібелі Войшалка і смерці Шварна, недзе пасля 1270 года, ён сам стаў валадаром, пры гэтым летапіс характарызуе Трайдзеня вельмі адмоўна, як *"окаяньный и безаконьный, проклятый, немилостивый Тройден, яго же безаконья не могохом псати срама ради"* казаў, што ён нават у параўнанні з Ірадам і Няронам *"многа злейша того безаконья чиняша"*. І напраўду, гэты вялікі князь *"весь живот свой до войны и крови розляне простовал"*.

Межы дзяржавы ў часы Трайдзеня значна змяніліся ад часоў Міндоўга - на поўначы яна межавала з Зямгаліяй, на паўночным усходзе - з Полацкім княствам, а на ўсходзе - з Менскім, на поўдні - з Тураўскім, Пінскім



і Берасцейскім (залежнымі ад Галіцка-Валынскай дзяржавы), на паўднёвым захадзе - з Мазовіяй, на паўночным захадзе - з Жамойцю. Трайдзень канчаткова далучыў да ВКЛ дайнаўска-яцвяжскія землі і ўсходнюю Судавію. Ён узмацніў залежнасць Полацкага княства ад ВКЛ.

Трайдзень вёў актыўную ўнутраную і замежную палітыку. Згодна з "Хронікай Літоўскай і Жмойцкай",

Трайдзень, *"который панство порадне постановивши и граници от наездов княжат руских и крижацких отвсюль опатривши, з великим страхом неприятелем посторонным пановал"*.

Унутры ВКЛ змагаўся з сепаратыстамі, душачы іхні рух у Нальшанах і Дзяволтве - працягваў палітыку Войшалка, апіраючыся на Новагародскае, Гарадзенскае княствы і Полацкую зямлю. Вядома, што ад яго ў Ордэн



***У часы Трайдзеня: ліцвіны атакуюць***

уцяклі нальшанскія мясцовыя князькі Полюш і Суксэ. У замежнай палітыцы імкнуўся да пашырэння граніцаў дзяржавы за кошт найперш балтыйскіх зямель Дайнавы і Судавіі, а таксама абараніць ВКЛ ад уціску з боку Тэўтонскага ордэна і Галіцка-Валынскага княства. Гэта яму ўдалося - да ВКЛ былі далучаны ўся Дайнава і значная частка Судавіі. У 1273 годзе дапамог войскам яцвяжскага князя з Судавіі Скаламенда ў выправе на Кульмскую зямлю, у якой бралі ўдзел русіны, відаць, з Наваградскага і Гарадзенскага княстваў. У 1273 годзе дапамог князю Команту ў арганізацыі паходу на Кульмскую зямлю. Шмат прусаў ад нямецкага націску перасялілася ў дзяржаву Трайдзеня, вядома, што ён сяліў іх каля Гародні і Слоніма. На Лідчыне гэта так званыя барцякі.

Іншым праціўнікам была Галіцка-Валынская дзяржава на поўдні, ад Панямоння яе аддзялялі Тураўскае і Пінскае княствы, якія залежалі ад галіцка-валынскіх князёў, але імкнуліся пазбавіцца гэтай залежнасці, што ў пэўнай ступені Трайдзень мог выкарыстоўваць. Полацкае княства было залежным з часоў прынамсі Войшалка, з дзяржавай Трайдзеня яго збліжалі інтарэсы ў Падзвінні і пагроза з боку лівонскай часткі Ордэна. На паўночных, паўночна-заходніх і заходніх рубяжах жылі зямгальскія і яцвяжскія (судаўскія) плямёны, якія бараніліся ад Ордэна і галіцка-валынскіх князёў, што штурхала іх да пошукаў падтрымкі ў Трайдзеня.

На пачатку Трайдзень меў канфлікт толькі з уладзімірскім князем Уладзімірам Васількавічам, а з галіцкім князем Львом Данілавічам захоўваў добрыя адносіны. Неўзабаве, у 1274 годзе, аднак, Трайдзень сіламі гарадзенцаў захапіў і разрабаваў Драгічын, які належаў Льву, горад быў захоплены і *"избиша вся и мала, и до велика"*.

У 1275 годзе Леў, папрасіўшы дапамогі ў хана Менгу-Цімура, з яго войскам на чале з Ягурчынам, а таксама з пасланымі ханам рускімі князямі - Раманам, Глебам, тураўскімі і пінскімі, пайшоў супраць Трайдзеня, але праз сваркі паміж удзельнікамі, паход быў няўдалы, узяўшы вакольны горад Навагародка яны разышліся.

У 1277 годзе Трайдзень аблажыў Дынабург, у яго войску было шмат русінаў-лучнікаў, напэўна палачанаў, для штурму ўжываліся чатыры вялікія рухомыя абложныя вежы і балісты. Праз чатыры тыдні аблога была знята, напэўна, праз напад галіцкіх і татарскіх войскаў на чале з Мамшынам, але і гэты іх паход быў няўдалы праз сваркі ўдзельнікаў.

У канцы 1278 года Трайдзень пасылаў брата Сірпуція на дапамогу яцвягам (дайнаўцам), якія ваявалі Мазовію і Усходнюю Польшчу - літоўскія войскі дайшлі да Любліна. Найбольш пацярпела Мазовія, яе князі разарвалі адносіны з Тэўтонскім ордэнам і заключылі перамір'е з Трайдзенем. Адначасова, лівонскія войскі ўварваліся ў Літву, разрабавалі яе і ў студзені 1279 года аблажылі Кернаў (Кернава). Узяць Кернаў немцы не здолелі, разрабавалі ваколіцы і з вялікімі палонам у лютым вярнуліся ў Лівонію. Трайдзень нагнаў іх і 5 сакавіка 1279 года разбіў у бітве пры Ашэрадэне. Спачатку бітва была роўнай, лівонцы моцна бараніліся, але ў нейкі момант частка войска ВКЛ кінулася ва ўяўныя ўцёкі. Частка ордэнскага войска, а менавіта датчане, пачалі пераслед "уцекачоў", але, гнаўшыся значны час, не здолелі дагнаць і вырашылі вяртацца да свайго войска. Калі датчане вярнуліся да месца бітвы, дык астатнія войскі ўжо былі разбітыя, самі ж датчане трапілі ў пастку і ў большасці былі знішчаны. У бітве пад Ашэрадэнам загінуў лівонскі магістар Эрнэст і 71 ордэнскі брат, не лічачы астатніх рыцараў і простых вояў.

Перамога дала магчымасць Трайдзеню падтрымаць паўстанні прусаў, судаваў і зямгалаў супроць крыжакоў. Зямгальскі князь Наймес прызнае ўладу Трайдзеня. Той шле на дапамогу паўстанцам свае дружыны. І каб неяк прыцішыць ваяўнічы нораў Трайдзеня, рыжскі архіепіскап прапанаваў яму прыняць каталіцтва - веру, з якой у ліцвінаў атаясамліваліся злачынствы крыжакоў. Трайдзень адказаў: *"Па прыкладу падзей мінулых гадоў не знайходзім ніякага жадання для прыняцця хрысціянства. Народ Літвы моцна настроены супраць рымскай веры з-за выпадкаў, якія адбыліся ў яго пабрацімаў зямгалаў, якія дабраах-*

*вотна прынялі новую веру ў спадзяванні на лепшае, а атрымалі цяжкую няволю, гэта было б дабраахвотнай падрыхтоўкай да прыняцця кайданаў Ордэна крыжакоў"*. А значыць, вайна з Ордэнам не сціхла.

Поспех пры Ашэрадэне быў замацаваны заключэннем у 1279 годзе міру і саюзу з Мазовіяй, скіраванага супраць Тэўтонскага ордэна і Польшчы.

У выніку даволі жорсткай барацьбы Панямонне засталося за Трайдзенем, хоць і было спустошана. Да таго ж у 1279 годзе ўвесь тэатр ваенных дзеянняў з прылеглымі раёнамі Польшчы і Русі ахапіў моцны голад, вынік неўраджаю. І тым не менш сімбіёз з рускімі княствамі значна павялічваў ваенны патэнцыял Літвы. Дачка Трайдзена Гаўдэмунда (у хрышчэнні Соф'я) узяла шлюб з мазавецкім князем Баляславам Земавітавічам з Плоцка, у іх былі сыны Земавіт і Трайдзень (названыя ў гонар дзядоў). Яшчэ больш Плоцкае княства трапіла пад уплыў Трайдзена, калі ён ваеннай сілай прымусіў свайго зяця адмовіцца ад саюзу з тэўтонцамі. Пад літоўскім кантролем заставаліся зямгалы. У саюзе з Літвой дзейнічалі і судаўскія князі. Да гэтага года Мацей Стрыйкоўскі адносіць і шлюб, верагодна другі, Трайдзеня з мазавецкай княжной Ганнай.

Паводле падання, Трайдзень з дружынай захапіў замак Бабін, які належаў князю Конраду Земавітавічу. Сам князь у гэты час паляваў на звера ў навакольных лясах, а ў замку засталася ягоная хворая маці ды сястра Ганна. Уварваўшыся ў замак, ліцвіны пачалі рабаваць яго. У адным з пакояў Трайдзеня сустрэла Ганна, і ён, уражаны яе прыгажосцю, апусціў меч. Быў ён чалавекам хуткім на рашэнні і адразу прапанаваў Ганне стаць ягонай жонкай. Ганна адказала, што дзеля гэтага трэба спыніць рабаванне і бязбройным прасіць дазвол на шлюб яе маці. Трайдзень паслухаўся, зняў з сябе зброю і адправіўся ў пакой да Ганнінай маці. Між тым вярнуўся з палявання Конрад, Трайдзень выйшаў яму насустрач і таксама прасіў у яго сабе ў жонкі Ганну. Конрад прадставіў права выбару сястры, і яна, жадаючы міру паміж Літвой і Мазовіяй, згадзілася пайсці за Трайдзеня. Калі гэта сапраўды адбылося ў 1279 годзе, дык значыць першая Трайдзенева жонка да гэтага часу памерла і ад яе ён меў двух дачок названых Софіямі. Іх хрысціянскія імёны сведчаць, што яны спавядалі хрысціянства.

У 1280 годзе Трайдзень зноў дапамагае Команту ў паходзе на Самбію. Паводле трайдзеневага загаду Найміс ваюе Памязанію. Паводле падання, у 1280 годзе заснавана Коўня.

У тым жа 1280 годзе Трайдзень выслаў войска на дапамогу Скаламенду ў выправе на Самбію.

У 1281 годзе Трайдзень захапіў Герцыке, адрэзаў Дынабург ад астатняй Лівоніі, таму браты-рыцары вымушаны былі абмяняць Дынабург на Герцыке, а таксама заплаціць выкуп.

Пры Трайдзені ў склад ВКЛ канчаткова ўключаны прылеглыя землі яцвягаў (судаваў), зямгалаў і селаў, узнавіліся далёкія паходы на Польшчу і эстонскія ўла-



***Сустрэча Трайдзеня з будучай жонкай, мазавецкай князёўнай Ганнай*** *(Міхал Эльвіра Андрыёлі, XIX ст.)*




***Полацкае княства***

данні крыжакоў (востраў Саарэмаа і інш.).

Пазнейшая "Хроніка Быхаўца" паведамляе, што Трайдзеня забілі падасланыя забойцы. Паводле ж Галіцка-Валынскага летапісу, ён памёр сваёй смерцю ў 1282 годзе.

Імя яго пераемніка крыніцы не называюць. Сваіх братоў ён перажыў. Магчыма, яго пераемнікам быў князь Даўмонт, якога некаторыя даследчыкі лічаць сынам Трайдзеня, а Троіцкі летапіс называе князем літоўскім і паведамляе пра яго смерць у дальнім набегу на вярхоўі Волгі ў 1285 годзе. Пра жыццё гэтага Даўмонта нам нічога не вядома акрамя кароткага ўпамінання ў Лаўрэнцеўскім летапісе пад 1285 годам: *"Того же лета воевали Литва Тферьского владыки волость Олешню; и совкупившиеся Тферичи, Москвичи, Волочане, Новоторжьсци, Зубчане, Ржевичи, и шедше биша Литву на лесъ, в канун Спасову дни* (1 жніўня), *и поможе Богъ хрестьяном, великого князя ихъ Домонта убиша, а иных изъимаша, а овых избиша, полон весь отъяша, а инии разбежася"*. З прыведзенага факта ясна, што Вялікі князь Даўмонт меў значную дружыну-літву, супраць якой вымушаны былі выступіць шэсць дружын. Відавочны і факт пераемнасці ўлады вялікіх князёў, што сведчыць пра моц інстытута вялікакняскай улады.

***Прыблізнае размежаванне дайнавы і славян на гістарычнай Лідчыне пад канец XIII - першая палова XIV стагоддзяў***

Ці не быў Даўмонт тым самым Дамонтам, сынам Міндоўга, якога ўпамінала ў сваіх гістарычных запісках імператрыца Кацярына ІІ? Ясна адно - гэты таямнічы Даўмонт (Дамонт) меў права на вялікакняскі пасад, а значыць, быў кроўна звязаны з Трайдзенем, Міндоўгам ці іхнімі сваякамі.

Далей княжылі Будзікід (з 1282 (1285) да 1290 года) і Будзівід (1290 па 1295 год). У даследчыкаў няма адзінай думкі, ці то былі сыны, ці пляменнікі Трайдзеня.

Зяць, Баляслаў Земавітавіч Плоцкі, на пасад Вялікага князя літоўскага не прэтэндаваў.

Паводле генеалагічных паданняў XVI ст., са смерцю Трайдзеня "дынастыю Кітаўруса" змяніла новая дынастыя - "роду Калюмнаў" (дакладна Віцень у 1295 годзе), але "род Кітаўруса" працягваўся ў Літве, яго прадстаўніком быў і Даўмонт - продак князёў Свірскіх, а таксама Гольша (родапачынальнік Гальшанскіх) і Гедрус (родапачынальнік князёў Гедройцаў).

**Высновы**

На карце, узятай з сайта "Гісторыя Беларусі", найбольш ясна паказана сітуацыя ў ВКЛ 13-га стагоддзя. Дакладна паказаны межы ўдзельнага Яцвяжска-Дайнаўскага княства, якое ўвайшло ў склад ВКЛ пры Трайдзені.

**Такім чынам:**

1. Дайнаўскае або Яцвяжска-Дайнаўскае княства існавала і як удзельнае княства ўвайшло ў склад ВКЛ (яцвягі і дайнава - сінонімы, дзве назвы аднаго народа);

2. Дайнаўскае княства было даменным княствам Вялікага князя Трайдзеня, а потым даменным княствам наступных вялікіх князёў;

3. Да апанавання яцвягаў (заходня дайнавы) Нарымонт і Трайдзень хутчэй за ўсё ўжо валодалі ўсходняй Дайнавой;

4. Большасць навукоўцаў размяшчае сталіцу




***Вялікае Княства Літоўскае пасля Трайдзеня. Дайнава і яцвягі падаюцца як адзін этнас, адным колерам без мяжы паміж імі, хаця там, дзе яцвягі, поўдзень заняты дайнавой, а поўнач судавой, але ўжо поўным ходам ішла ліцвінізацыя, сціранне племянных межаў і славянізацыя ўрэшце***

гэтага княства пад Лідай. Заснаванне Трайдзенем Райгорада не абазначае пераносу туды сталіцы. Райгорад - гэта фарпост Дайнаўскага княства для адпору крыжакам. Трайдзень заснаваў яшчэ і Коўню (Каўнас) з той жа мэтай;

5. Ліда ў 13-м стагоддзі не была сталіцай Дайнаўскага княства. Гэта было славянскае (дрыговіцкае) паселішча;

6. Пасля пабудовы Лідскага замка Вялікі князь Гедымін перанёс сталіцу Дайнаўскага княства ў Ліду. З пераносам сталіцы ў Ліду Дайнаўскае княства паступова пачало называцца Лідскім княствам і ўключала ўжо не толькі дайнаўскія, але і славянскія землі паўднёвай Лідчыны ажно да Нёмана.

Пры гэтым Гедымін адрэзаў частку дайнаўскай тэрыторыі і ўтварыў Віленскае княства;

7. Вялікі князь Вітаўт ліквідаваў Лідскае княства і ўключыў яго ў Віленскае княства;

8. Ліда была сталіцай Дайнаўскага (пазней Лідскага) княства каля 90 гадоў (прыблізна ад 1330 да 1420 г.).

9. Даўнішнішнія яцвяжскія землі на сёння разарваны на тры вялікія часткі:

- частка Дайнавы і Яцвягіі, Нальшаны і ўласна летапісная Літва - у Беларусі;

- частка Дайнавы (Віленскі край) і Дзяволтва - у Літве;

- частка Яцвягіі (Падляшша) і ўсходняя Судавія (Сувалкія) - у Польшчы.

А разам гэта адзін этнас.

*Леанід Лаўрэш*

# Лакалізацыя "Ліды Нарбута", першаснага паселішча на тэрыторыі нашага горада
## *(Дапрацаваны даклад з X Лідскіх чытанняў)*

*У апошні час я зноў цалкам пагрузіўся ў аналіз знаходкі ў 1933 г. паселішча на Выгане, паселішча якое ў тым жа годзе вывучалі і кваліфікавалі археолагі Віленскага ўніверсітэта Хелена Цэгак (Ph.D, пазней Цэгак-Галубовіч) і Уладзімір Галубовіч (пазней Ph.D.) - інфармацыю пра знаходку паселішча (старой Ліды) у канцы 2015 г. я знайшоў у старых газетах*[1].

Справа ў тым, што пры канцы 1933 г. у Лідзе на Выгане падчас земляных работ на зямлі, якая належала настаўніку М. Міхальчыку, была знойдзена вялікая колькасць чарапкоў, раскіданых на значнай тэрыторыі. Таўшчыня чарапкоў была характэрнай для вырабаў з керамікі старадаўніх часоў. Інжынер, які кіраваў работамі, пераслаў чарапкі ва Управу па кансервацыі (управа, якая займалася аховай помнікаў) у Вільні і прыпыніў работы. Трэба сказаць, што галоўным кансерватарам Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў у той час і чалавекам, які таксама прычыніўся да знаходкі паселішча, быў Станіслаў Лоранц (Ph.D.).

Аналагічная кераміка была знойдзена таксама і ў іншай частцы Выгана. Абодва месцы знаходзіліся па краях ўчастка Міхальчыка. Была высунута ідэя, што на гэтым месцы знаходзілася гарадзішча ці паселішча. Пасля чаго лідскі староста Багаткоўскі выклікаў у Ліду асістэнтку кафедры археалогіі Віленскага ўніверсітэта др. Хелену Цэгак (якая хутка стане вельмі вядомым і аўтарытэтным археолагам). З прыездам навукоўцаў плошча раскопак была пашырана і знойдзены новыя керамічныя чарапкі. Чарапкі мелі "славянскі стужкавы арнамент, які адносілі да племянных груп, што ішлі з усходу". Д-р Цэгак выказала здагадку, што з XI па XIII ст. тут магло існаваць славянскае паселішча. У Лідзе др. Хелена Цэгак знаходзілася разам са сваім будучым мужам і вядомым археолагам Уладзімірам Галубовічам, які і напісаў два газетныя артыкулы пра паселішча: "Знаходка старажытных слядоў чалавека ў Лідзе" і "Падарожжа ў невядомае" [2].

У сваім другім артыкуле др. Галубовіч канстатаваў: *"Можна ўжо рабіць высновы. Некалі ў акрэсе часу ад XI да XIII ст. існавала на гэтым узвышшы славянскае паселішча. Сляды яго сёння цалкам знішчаны. Чаму славянскае? Чарапы посуду маюць славянскі палоскавы (пасьмавы) арнамент, характэрны для племянных груп, якія ішлі з усходу. Лідскі староста Багаткоўскі зрабіў вялікую паслугу навуцы. На археалагічнай карце ... з'явіцца новы знак, які паказвае, што на тэрыторыі Выгана знойдзены сляды побыту славян у раннегістарычную эпоху ў нашым краі"* [3].

З гэтага можна зрабіць выснову, што знойдзенае на Выгане паселішча - гэта і ёсць Ліда, пра якую пісаў Нарбут, Ліда, заснаваная ў 1180 г.

Істотным з'яўляецца тое, што і брат-блізнюк нашага замка - замак у Крэве, быў таксама пабудаваны недалёка ад старога славянскага гарадзішча. Працытую фрагмент з тэксту даследчыка Крэўскага замка, выбітнага гісторыка Алега Дзярновіча: *"Старажытнае ўмацаванае паселішча Крэва выяўлена за 2 км ад замка, па Смаргонскаму шляху, у межах сённяшняга разлеглага мястэчка Крэва. ... Стала неспадзяваным, што выяўленыя крэўскія матэрыялы цалкам адпавядаюць матэрыяльнай культуры гарадоў Усходняй Еўропы, ці, інакшымі словамі - Старажытнай Русі.*

*Паводле гэтага комплексу артэфактаў ... можна сцвярджаць аб прысутнасці на Крэўскім гарадзішчы ўсходне-славянскага насельніцтва ў XI-XIII стст."*.

Вядома, што і другі сваяк нашага замка - замак ў Медніках (Мядзінінкаі), таксама быў пабудаваны недалёка ад шчыльнай драўлянай забудовы старога паселішча, культурныя слаі якога выявілі археолагі[5]. Заўважу, што ў "Списке русских городов дальних и ближних" (канец XIV ст.) разам з мноствам несумненна страбеларускіх гарадоў, такіх, як Полацак, Менск, Слуцак, Віцебск і г. д., прысутнічаюць таксама і Меднікі. Аўтарытэтны беларускі археолаг Эдвард Зайкоўскі

[1] Першую інфармацыю пра знаходку гл: Суднік Станіслаў. Як два разы старажытную Ліду адкрывалі // Наша слова. № 15 (1270), 13 красавіка 2016.

[2] Лаўрэш Л. Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. Гродна, 2017. С. 219-220.

[3] Holubowicz Wlod. Wyprawa po nieznane // Kurier Wilenski. № 292 (2833). 30 pazdziernika 1933.

[4] Дзярновіч А. І. Землі беларуска-літоўскага памежжа ў X-XIII стст.: ад Крэва да Кернавы // Доклады Национальной академии наук Беларуси. 2020. Т. 64, № 5. С. 632-640. С. 633. Гл. таксама: Дзярнович О. И. Восточная Литва XI-XIII веков: проблема этнокультурных и социокультурных характеристик поселений раннегородского типа // Балто-славянские исследования - XXI: Сб. науч. трудов. Москва, 2021. С. 407-408.

[5] Дзярновіч А. Медніцкі замак // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мінск, 2005. Т. 2. С. 283.

лічыць, што гэты спіс складзены ў часы яшчэ Гедыміна[6].

Магчыма таму даследчык гісторыі ВКЛ Стэфан К. Роўэл пісаў, што *"... медніцкі, лідскі і крэўскія замкі былі перабудаваныя на мураваныя"* , гэта кажа аб тым, што Роўэл лічыў верагодным існаванне папярэднікаў у мураваных замкаў, якія стаяць і сёння.

Грунтуючыся на гэтых фактах, вельмі асцярожна можна высунуць гіпотэзу, што гэтыя замкі адмыслова будаваліся каля славянскіх гарадзішчаў на мяжы з балцкім насельніцтвам.

Працяглы час лічылася што старая Ліда знаходзіцца пад нашым замкам, так жа лічыў і сам Уладзімір Галубовіч[8]. І толькі, калі да меркаванага юбілею горада ў 1980 г. археолагі не знайшлі старой Ліды ні пад замкам ні каля яго, было прынята дзіўнае і нічым не абгрунтаванае рашэнне значна амаладзіць Ліду (цікава, што сярод вялікай колькасці пляцовак у нашым горадзе, дзе праводзіліся раскопкі і бурэнні, беларускія археолагі праводзілі раскопкі на дзвюх пляцоўках, якія знаходзяцца прыкладна за 100 м ад старой Ліды[9], але ў той час лёс быў супраць адшукання старой Ліды ...).

Таму знаходка старой Ліды на тэрыторыі нашага горада, амаль што ў самым цэнтры, мае для нас, лідзян, першачарговае значэнне. Каб мы мелі карту горада 1930-х гг. з абазначэннем участкаў, дык не было б праблем з вызначэннем канкрэтнага месца знаходжання старой Ліды. Але за шмат гадоў такая карта нідзе не "засвяцілася" і, верагодна, калі яна і існавала, дык у свой час была знішчана ці недзе надзейна схавана ў архівах.

Чаму знаходка ў Лідзе, падобна, усё ж не надта зацікавіла сям'ю віленскіх даследчыкаў-археолагаў? Адказ можна знайсці ў артыкуле др. Хелены Цэгак, які яна надрукавала ў 1937 г. у віленскай газеце "Слова". У артыкуле др. Цэгак зазначыла, што археалагічнае вывучэнне нашага краю яшчэ толькі пачынаецца, і акрамя іншага, паведаміла пра знаходку вельмі цікавай групы пасяленняў, як напрыклад: *"Браслаўскае гарадзішча, якое ляжыць на вузкім перашыйку паміж азёрамі і з'яўлялася цэнтральным пунктам, які з усходу засланяўся абарончым бар'ерам з трох меншых гарадзішчаў а, з захаду адным адкрытым гарадзішчам. Такая група гарадзішчаў стварае пэўны абарончы комплекс. Аналагічныя абарончыя комплексы можа вывіць толькі працяглае, метадычнае і комплекснае вывучэнне"* [10]. А ў 1938 г. др. Цэгак павінна была пачаць даследаваць неверагодную знаходку - старажытнабеларускае паселішча ў Давыд-Гарадку, якое яна назвала "Пампеямі Палесся" [11]. Таму зразумела, што на фоне такіх грандыёзных знаходак і вялікіх планаў знаходка невялікага паселішча ў Лідзе не магла выклікаць першачарговую цікавасць археолагаў, тым больш, што яны мелі ўпэўненасць знайсці сапраўдную старую Ліду пад замкам.

Пасля васьмігадовай паўзы я зноў пачаў росшукі ў сваіх базах дадзеных, якія назбіраліся за шмат гадоў даследчай працы.

І "Мар'ян Міхальчык" знайшоўся! Адразу заўважу, што у двух артыкулах "Кур'ера Віленскага" прозвішча гаспадара зямлі падаецца трошкі па-рознаму, як М. Міхальчык (Michalczyk)[12] і М. Міхальчак (Michalczak)[13], другі варыянт прозвішча "Міхальчак" сустракаецца ў Польшчы, але цалкам не пасуе прозвішчам нашага краю.

Неабходная і вельмі важная інфармацыя знайшлася ў тэлефонным даведніку 1939 г., у якім маецца наступны радок: "[тэлефон №] 171 - Міхальчык Мар'ян, 11-га Лістапада, 2." ("171 - Michalczyk Marian, 11 listapada, 2.")[14]. Тагачасная вуліца 11-га лістапада сёння мае назву 7-га лістапада.

Вядома, што суседні з домам № 2, вялікі дом павятовага доктара Вітольда Стасевіча значыўся пад № 4 па той жа самай вуліцы, пра што пісала дачка доктара, с. п. прафесар Ірэна Стасевіч. Участак у Лідзе Стасевічы набылі недзе ў 1933-34 гг.: *"Бацькоўскі дом у Лідзе, на вуліцы 11 лістапада, 4. ... Дом стаяў на невялікім узгорку і складаўся з дзвюх частак ... Доўгі, высокі плот аддзяляў ад нашага саду-агароду вельмі вялікі ўчастак, які цягнуўся ўздоўж усёй вуліцы 11-га лістапада і заканчваўся ажно на вуліцы Школьнай* (сучасная Кірава, зараз гэта тэрыторыя школы № 1 - *Л. Л.*). ... *Каля нашага дома паўстала ў канцы трыццатых гадоў XX стагоддзя прыгожая сучасная пошта пры вуліцы Міцкевіча ... У часы маіх бацькоў на гэтым месцы быў так званы Выган. Частка тэрыторыі займалі кучы*

[6] Зайкоўскі Э. М. Этнічная і канфесійная сітуацыя ў гістарычнай Літве на рубяжы XIV-XV стст. // Вялікае княства Літоўскае і яго суседзі ў XIV-XV стст.: саперніцтва, супрацоўніцтва, урокі: Да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Гродна, 8-9 ліп. 2010 г.) / НАН Беларусі, Ін-т гісторыі; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. Мн.: Беларуская навука, 2011. Мінск. С. 11-25.

[7] Роўэл К. Стэфан. Уздым Літвы: Паганская імперыя ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, 1295-1345. Мінск, 2015. С. 112.

[8] Гл: Holubowicz Wlodzimierz. Grodziska i kurhany ziemi Lidzkiej // Ziemia Lidzka. Lida, styczen 1939 r. Nr. 1. S. 28.

[9] Гл. карту: Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV-XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. Мінск, 1991. С. 36.

[10] Helena Cehak-Holubowiczowa. Dawidgrodek - Pompei Polesia // Slowo. № 279, 9 pazdziernika 1937.

[11] Helena Cehak-Holubowiczowa. Dawidgrodek - Pompei Polesia // Slowo. № 279, 9 pazdziernika 1937.

[12] Wod. Odkrycie prastarych sliadow czlowieka na terenie Lidy // Kurier Wilenski. № 273 (2814). 11 pazdziernika 1933.

[13] Holubowicz Wlod. Wyprawa po nieznane // Kurier Wilenski. № 292 (2833). 30 pazdziernika 1933.

[14] Spis Abonentow Sieci Telefonicznej Okregu Dyrekcji Poczt i Telegrafow w Wilnie na 1939 r. Wilno, 1939. S. 1115.

**Abramowicz — Polczyński Lida**

| | |
|---|---|
| 262 | „Lidzianka", S-ka autobusowa, Zamkowa 4/7 |
| 263 | Lokalny Kom. Funduszu Pracy pow. Lidzkiego, Mackiewicza 11 |
| 177 | „Łódzka Manufaktura w Lidzie", Suwalska 19 |
| 173 | Magazyn Spółdzielni Rolniczej, Kolejowa |
| 2 | Majer Stanisław, pisarz hipoteczny, Suwalska 74 |
| 103 | Mełup Salomon, prezes, m., 3 Maja 46 (patrz pod Przemysł Gumowy „Ardal") |
| 40 | „Metal", Sp. firm., skład żelaza, Mackiewicza 22 |
| | — (dod.) biuro |
| 171 | Michalczyk Marian, 11 Listopada 2 |
| 202 | Michniewski Mieczysław, kier. szkoły powszechnej nr 1, Szkolna 60 |

***Старонка з тэлефоннай кнігі 1939 г. з інфармацыяй пра Міхальчыка***

*пяску, напэўна як матэрыял для будучых будынкаў, на нізейшым, гладкім участку зімой тут быў натуральны каток"* [15].

З гэтага тэксту, адразу заўважу, дзве рэчы:

- дом Стасевіча стаяў на ўзвышшу, і таму не дарма дом Міхальчыка знаходзіцца на самай мяжы з участкам Стасевічаў - на адносна высокім месцы. Паселішча магло месціцца толькі на сухой пляцоўцы.

- доктар Стасевіч меў вельмі вялікі ўчастак гарадской зямлі, непараўнальны з сучасным участкам пад домам № 2 па вуліцы 7-га Лістапада.

Дом № 2 выходзіў проста на вуліцу Міцкевіча, якая ў сучасным выглядзе з'явілася толькі пасля адкрыцця пошты. Мар'ян Міхальчык прыкладна да 1939 г. пабудаваў свой невялікі дом (памерам, каля 10 х 6 м), бо вядома, што будынак гмаху пошты ўжо ў кастрычніку 1937 г. быў пабудаваны "пад дах" і маецца газетны здымак, дзе гмах пошты ўжо стаіць, вуліцы Міцкевіча на ўсход ад пошты яшчэ няма, і двое рабочых, падобна, робяць на ёй ходнікі, яшчэ няма на здымку і дома Міхальчыка. Але ў 1939 г. у доме Міхальчыка ўжо меўся тэлефон, і сам дом добра бачны на аэрафотаздымку красавіка 1944 г. Гэты дом стаіць і зараз і нават захаваў свой ранейшы № 2, толькі вуліца мае назву 7-га Лістапада.

Участак доктара Стасевіча быў значны большым, чым сучасны участак пад домам Міхальчыка, і, магчыма, частка ўчастка Міхальчыка была адкуплена гарадскімі ўладамі пад вуліцу Міцкевіча, якая пасля пачатку працы пошты, лічылася самай прыгожай у горадзе. Вядома, што гарадскія ўлады да моманту адкрыцця новай пошты сур'ёзна рыхтавалі вуліцу Міцкевіча, напрыклад, у жніўні 1938 г. прэса пісала: *"Вуліца Адама Міцкевіча. Запраектаваная ў свой час*



***Здымак з газеты 1938 г., будынак пошты ўжо стаіць а дома Міхальчыка яшчэ няма***

[15] Стасевіч-Ясюкова Ірэна. Лідзянка. Пра Марыю Стасевіч - маю маці - успаміны // Лідскі летапісец. 2012. №4 (60). С. 52-53.




***"Ліда Нарбута" на аэрафотаздымку красавіка 1944 г. і сучасным здымку з гугль-карты. 1 - Дом Мар'яна Міхальчыка № 2 па вуліцы 11-га Лістапада (7-га Лістапада), 2 - Лідская пошта па вуліцы Міцкевіча, 3 - Школы № 1 і № 2, сучасная школа № 1.***

*на Выгане вул. Адама Міцкевіча дачакалася ўладкавання і цвёрдага дарожнага пакрыцця. Забрукоўка вуліцы ідзе ў паскораным тэмпе з-за хуткага заканчэння будоўлі і адкрыцця новай гарадской пошты"* [16]. І ўжо ў кастрычніку 1938 г. паведамляецца, што ў нашым горадзе гэта *"самая прыгожая вуліца. ... Вуліца ўпарадкавана на ўзор цэнтральных вуліц горада, перад гмахам пошты нават заасфальтавана, што з'яўляецца абсалютнай навінкай для Ліды. Ходнікі вельмі шырокія і з прыгожымі газонамі. Вуліца Адама Міцкевіча ў Лідзе сваім выглядам можа канкураваць з лепшымі вуліцамі Вільні"* [17].

Улічваючы, што ўчастак дома № 2 Міхальчыка, магчыма, зараз часткова знаходзіцца пад вуліцай Міцкевіча і на тэрыторыі сучаснага парку, а таксама тое, што археолагамі *"была знойдзена вялікая колькасць чарапкоў, раскіданых на значнай тэрыторыі ... чарапкі таксама былі знойдзены ў іншай частцы Выгана"*, і *"з прыездам археолага плошча раскопак была пашырана"* [18] ў бок Выгана, дык **старая Ліда, павінна займаць тэрыторыю сучаснага дома № 2 па вуліцы 7-га лістапада і паўдзённую частку парку насупраць гэтага дома.**

Як па мне, дык гэта і сёння самая прыгожая частка нашага горада.

Цяжка ўявіць, каб у горадзе з насельніцтвам каля 15 000 жыхароў адначасова на Выгане купілі ўчасткі пад свае дамы два розных М. Міхальчыкі, тым больш, што прыватныя дамы на Выгане ў той час будаваліся толькі па вуліцы 11-га лістапада. Як чалавек, які ў курсе вышэйшай матэматыкі вывучаў і тэорыю верагоднасцяў, лічу, што гэта цалкам немагчыма, і таму верагоднасць знаходкі месцазнаходжання "Ліды Нарбута" можна ацаніць амаль што ў 100 %.

Мы не маем спісаў настаўнікаў нашага горада? і Міхальчык, здаецца, не згадваецца ва ўспамінах тагачасных вучняў. Каб ён быў выкладчыкам суседняй дзяржаўнай гімназіі, дык, верагодна, Уладзімір Галубовіч назваў бы яго "прафесарам гімназіі" - менавіта так называліся выкладчыкі гімназіі ў той час. Таму можна выказаць гіпотэзу, што Мар'ян Міхальчык выкладаў у суседніх 1-й ці 2-й сямігадовых школах - зараз гэта школа № 1, якая стаіць каля яго дома.

Пра Міхальчыка ўдалося знайсці наступную інфармацыю. 29 ліпеня 1935 г. Мар'ян Міхальчык у Лідзе ажаніўся з Мартай Марыяй Гуз, якая паходзіла з этнічнай Польшчы. 18 кастрычніка 1939 г. у Лідзе ў сужэнства

---

[16] Kurier Wilenski. № 212 (4530). 4 sierpnia 1938.

[17] Kurier Wilenski. № 288 (4606). 20 pazdziernika 1938.

[18] Kurier Wilenski. № 273 (2814). 11 pazdziernika 1933.; Kurier Wilenski. № 292 (2833). 30 pazdziernika 1933.

Міхальчыкаў нарадзіўся сын Уладзіслаў. Падчас Другой сусветнай вайны сям'я ўцякла ў Кракаў, дзе жыла да сваёй эміграцыі ў снежні 1957 г. у горад Луіс, штат Місуры, ЗША[19]. Як бачым, Мар'ян Міхальчык менш чым за два гады да вяселля купіў участак зямлі, яшчэ праз 3 гады стаў домаўладальнікам, і яго сын нарадзіўся ўжо ў сваёй, бацькоўскай хаце. Па-сапраўднаму адказны быў мужчына.

Некалькі словаў, пра тое што такое Выган. Практычна любы беларускі горад у старыя часы меў так званую "Ферму" - месца дзе гараджане мелі свае гароды, і "Выган" - месца дзе гараджане пасвілі сваю жывёлу. Ферма ў нас знаходзілася прыкладна на месцы гарадскога рынка і сучаснай школы № 11 і пачала забудоўвацца жылымі дамамі недзе з канца XIX ст., а Выган, які на пачатку XX ст. пачынаўся амаль што ад вуліцы Віленскай (зараз - Савецкая), цягнуўся на захад да чыгункі і ўключаў у сябе сучасны стадыён, парк і тэрыторыю бальніцы, да сярэдзіны 1930-х гг. у выніку землеўпарадкавання пачаў выглядаць так, як ён выглядаў на маёй памяці ў 1970-я гады, калі ўся тэрыторыя былога Выгана была забудавана, у га-радскім парку высаджаны дрэвы, і ўсё яшчэ цякла рэчка Каменка.

Зямлю на Выгане павінны былі пачаць прадаваць яшчэ да Першай сусветнай вайны, і на карце горада 1914 г. тут ужо пазначаны будучыя вуліцы. Газета "Лідскае Слова" пісала ў 1913 г.: *"Ужо некалькі гадоў кажуць пра тое, што Выган падзелены на ўчасткі, якія будуць прадаваць з гандляў. Але гэтага не робіцца"* [20]. І яшчэ ў 1909 г. гарадскому старасце было даручана забрукаваць Школьную вуліцу (зараз - Кірава) да Выгана[21].

Участкі зямлі на Выгане ў той час не маглі быць вельмі дарагімі, бо лідзяне яшчэ ў 1928 г. пісалі пра *"дрэнны балотны мікраклімат на Выгане"* [22] і нават лідскія чыноўнікі высокага рангу, якія кіравалі горадам і паветам і жылі ў калоніі дзяржаўных дамоў на Выгане (насупраць тагачаснай гімназіі імя Караля Хадкевіча), таксама лічылі гэтае месца дрэнным для здароўя[23].

Др. Галубовіч у 1933 г. напісаў: *"Выган - тэры-*




***Водная сістэма г. Ліды, прамаляваная на аэрафотаздымку красавіка 1944 г., месцазнаходжанне "Ліды Нарбута" і лідскага замка. Цікава, што Ліда 16-18 стст. стаяла якраз паміж "Лідай Нарбута" і лідскім замкам***

[19] Marta Michalczyk Obituary; Wladyslaw Michalczyk Obituary. [Электронный ресурс]. - Режим доступу: https://www.legacy.com/us/obituaries/news-leader/name/marta-michalczyk-obituary?pid=141305236 https://www.northbrevardfuneralhome.com/tributes/Wladyslaw-Michalczyk. - Дата доступу: 25.07.2023.

[20] Лидское Слово. № 23. 19 апреля 1913.

[21] Лаўрэш Л. Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. С. 52.

[22] Zycie Nowogrodzkie. № 103 (137). 21 maja 1928.

[23] Zycie Nowogrjdzkie. № 119 (153). 7 czerwca 1928.



***Дом № 2 па вуліцы 7-га Лістапада, дом № 4 і гарадская пошта, ліпень 2023 г.***

*торыя, на якую Ліда вядзе экспансію ўжо некалькі гадоў, запаўняючы яе зграбнымі мураванымі дамкамі. ... Выган - узвышша, да нядаўняга часу аточанае гразкім балотам, а цяпер перарэзанае сухімі вуліцамі. Ужо амаль увесь перакапаны ..."* [24].




***Указальнік на ўездзе ў г. Ліда ў 1970-я гг. (здымак з Інтэрнэту)***

З прыкладзенага аэрафотаздымка 1944 г., на якім я прамаляваў водную сістэму нашага горада, добра бачна, што наш замак Гедыміна стаіць на зліцці рэк Лідзейкі і Каменкі, а старая Ліда месцілася сярод двух рукавоў рэчкі Каменкі - у абодвух выпадках паселішча і замак добра засланяліся ад нападнікаў рэкамі і дрыгвой. Пэўна, замак быў перанесены прыкладна на 1 км на поўдзень (у такое ж самае балоцістае месца зліцця Лідзейкі і Каменкі) з-за адсутнасці адпаведнага па памерах пляца, неабходнага для будаўніцтва вялікага мураванага замка ў старой Лідзе паміж рукавамі Каменкі.

Вядома, што ў нашым рэгіёне пераважаюць балцкія назвы рэк, аднак рэчка Каменка мае цалкам славянскую назву, якая паходзіць ад слова "камень". Магчыма, з-за наяўнасці тут камянёў і была выбрана пляцоўка для Лідскага замка. Бо цяжка сабе ўявіць, каб у той час мелася магчымасць перавозіць такую колькасць камянёў на вялікую адлегласць. Калі гэта так - дык у сценах нашага замка мы бачым камяні з берагоў рэчкі Каменкі. Але гэта толькі гіпотэза.

Было б цудам, каб у глыбіні зямлі на вызначанай тэрыторыі "Ліды Нарбута" яшчэ заставаліся нейкія археалагічныя артэфакты, але пасля знаходкі дакладнага месца старога беларускага паселішча, тут трэба было б усталяваць памятны знак, ролю якога зараз выконвае вядомы ўсім лідзянам знак "Я люблю Ліду", які стаіць прыкладна на паўночнай мяжы былога гістарычнага паселішча.

І трэба думаць пра вяртанне законнай даты заснавання нашага горада ў 1180 г., даты, якая, дарэчы, так і засталася ў большасці сусветных энцыклапедый.

---

[24] Holubowicz Wlod. Wyprawa po nieznane // Kurier Wilenski. № 292 (2833). 30 pazdziernika 1933.

*Леанід Лаўрэш*

# Лідчына ў XV ст.

Пятнаццатае стагоддзе пачалося 1 студзеня 1401 г. і скончылася 31 снежня 1500 г.

Гэтае стагоддзе - час пачатку Вялікіх геаграфічных адкрыццяў: адкрыццё Амерыкі Хрыстафорам Калумбам, падарожжа Васка да Гама і г. д., у гэтым жа стагоддзі Партугалія і Іспанія ператвараюцца ў імперыі, а Залатая Арда перастае існаваць. У 1453 г. спыніла сваё існаванне Візантыйская імперыя, што радыкальна змяніла ментальную карту Усходняй Еўропы. У тым жа 1453 г. пасля бітвы за Бардо скончылася Стагадовая вайна паміж Францыяй і Англіяй. І менавіта ў гэтым стагоддзі ідуць бясконцая Гусіцкія войны. І толькі ў 1492 г. закончылася Рэканкіста, і Еўропа зноў становіцца цалкам хрысціянскай.

У XV ст. з'явіўся друкарскі варштат Ёгана Гутэнберга, што неверагодным чынам паскорыла інтэлектуальны прагрэс чалавецтва.

У XIV-XV стст. Беларусь працягвала "ўрастаць" у еўрапейскую цывілізацыю, стаўшы часткай Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Вітаўт умацаваў цэнтральную ўладу ў дзяржаве праз ліквідацыю буйных удзельных княстваў, створаных яшчэ ягоным дзедам Гедымінам. Ён рабіў гэта, бо некаторыя з княстваў мелі памеры з добрую еўрапейскую краіну, а іх уладары, як прыналежныя да роду Гедыміна, маглі законна прэтэндаваць на найвышэйшую пасаду і неаднойчы бунтавалі супраць вялікага князя.

Вітаўт рознымі спосабамі выдаліў іх з буйных удзелаў і замяніў баярамі - намеснікамі, якія не маглі нават марыць пра суперніцтва з гаспадаром. Іх кар'ера цалкам залежала ад ласкі вялікага князя. Такім чынам Вітаўт запачаткаваў працэс узнікнення новай арыстакратыі пад назвай "паны", якая паступова выцесніла старую княжацкую.

Пры князі Вітаўце Вялікае Княства Літоўскае дасягнула зеніту і стала самай магутнай дзяржавай Усходняй Еўропы - некаторыя гісторыкі кажуць пра імперыю Вітаўта. Вялікі князь трошкі не дажыў да каранацыі яго каралём[1].

Агромністая шматнацыянальная дзяржава лучыла, акрамя сённяшняй Беларусі, сучасную Летуву, большую частку Украіны і заходнія вобласці сучаснай Расеі. Арганізацыя дзяржаўнай улады Вялікага Княства Літоўскага наследавала ўзоры мясцовых беларускіх княстваў, а афіцыйнай мовай дзяржавы стала беларуская (старабеларуская).

Акрамя беларусаў, украінцаў і жамойтаў у краіне існавалі анклавы немцаў (у асноўным у заходніх гарадах)[2], яўрэяў (з'явіліся ў Беларусі ў канцы XIV-XV стст.)[3], татараў (лічыцца, што іх прывёў Вітаўт з Крыма)[4] і перасяленцаў з маскоўскіх земляў.

Яўрэі прыходзілі з Польшчы і Германіі і спавядалі пераважна артадаксальны юдаізм. Вялікі князь Аляксандр Казіміравіч зрабіў спробу выдаліць яўрэяў з дзяржавы, выдаўшы ў 1495 г. прывілей аб іх выгнанні, але ўжо ў 1503 г. новым прывілеем распарадзіўся паклікаць іх назад і вярнуць канфіскаваную маёмасць.

Татарскія грамады сфармаваліся ў гістарычнай Літве і на Палессі, яны жылі раней і жывуць сёння ў тым ліку і на гістарычнай Лідчыне. Яўрэйскія і татарскія грамады мелі адміністрацыйна-рэлігійную аўтаномію. Афіцыйна атрымалі аўтаномію таксама і вандроўныя супольнасці цыганоў, якія з'явіліся ў Беларусі ў XV ст.

Здаўна ў Беларусі сяліліся палякі - польская шляхта шукала службы ў вялікіх князёў і магнатаў. Таму нават на заканадаўчым узроўні прымаліся меры дзеля абмежавання наплыву ў Літву польскай шляхты. У агульнакраёвых (земскіх) прывілеях вялікага князя Казіміра (1440-1492 гг.), наступных за ім гаспадароў і ў Літоўскіх статутах забаранялася надаваць пасады і маёнткі "чужынцам і іншаземцам". Даследчыкі лічаць, што ў першую чаргу на ўвазе меліся палякі.

У XIV-XV стст. працягвала фармавацца ўнікальная беларуская культура, якая спалучала рысы заходнееўрапейскай традыцыі і мясцовай поствізантыйскай. А моладзь, найперш шляхецкая, выязджала вучыцца ў еўрапейскія ўніверсітэты. У XVI ст., па падліках гісторыкаў, у Еўропе навучаліся прадстаўнікі 77 родаў з ВКЛ.

Беларусь пераймала і творча перапрацоўвала еўрапейскія мастацка-архітэктурныя стылі: готыку, рэнесанс, барока і класіцызм. Славутымі агульнабеларускімі помнікамі з'яўляюцца Лідскі замак і Маламажэйкаўкая царква (якая знаходзіцца на тэрыторыі гістарычнай Лідчыны).

Даследчыкі нездарма называюць XV-XVI стст. залатым векам Беларусі. У гэты перыяд беларуская культура дамінавала ў дзяржаве, на беларускай мове гаварылі і сяляне, і гараджане, і баяры-шляхта, і вялікія князі. Пазней, сацыяльныя эліты - шляхта і мяшчанства

[1] Краўцэвіч А. Кароткая гісторыя Беларусі. 2022. С. 38.
[2] Гл: Немцы ў старой Вільні // Наша слова.pdf. № 3 (55), 18 студзеня 2023.
[3] Гл: Сосіс І. Яўрэі на Беларусі // Спадчына. 1992. №2. С. 75-81.
[4] Гл: Шимелевич М. Литовские татары. Этнографический очерк. Вильно, 1905.

- паступова перайшлі на польскую, а яшчэ пазней - на расейскую мовы. Беларусы сталі "сялянскім народам", і залаты век больш ніколі не паўтарыўся[5].

***

З канца XIV ст. кіроўная эліта Вялікага Княства Літоўскага ўзяла курс на саюз з Польшчай. Пасля Крэўскай уніі 1385 г. ВКЛ і Польшча аб'ядналіся на аснове дынастычна-персанальнай уніі пры захаванні імі пэўнай самастойнасці ва ўнутранай і знешняй палітыцы. Неаднаразовае аднаўленне і перазаключэнне уній (у 1401, 1413, 1446, 1501 гг.), як лічаць гісторыкі, сведчыць, папершае, пра нетрываласць гэтых аб'яднанняў, па-другое, усё ж пра мэтазгоднасць збліжэння абедзвюх дзяржаў і наяўнасць фактараў, якія ўвесь час падштурхоўвалі іх да гэтага. У XV-XVI стст. вызначылася трывалая тэндэнцыя: чым больш абвастраліся адносіны Вільні з Масквой, тым больш ВКЛ схілялася да аб'яднання з Польшчай.

**Працяг славянскай асіміляцыі балтаў**

Прафесар Алесь Краўцэвіч заўважыў, што *"балта-славянскі кантакт аказаўся самай значнай гістарычнай з'явай на Панямонні за апошнія паўтара тысячагоддзя. Адсюль вынікае непазбежнасць яго ўплыву на працэс стварэння і фармавання ВКЛ. … Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні з-за яго геаграфічнага маштабу, храналагічнай працягласці, уплыву на жыццё тутэйшых чалавечых супольнасцяў, можна адназначна ацаніць як найбуйнейшую гістарычную з'яву ў рэгіёне на працягу ўсяго 2 тыс. н.э. У сваю чаргу названыя кантакты з'яўляліся часткай яшчэ больш разлеглага ў часе і прасторы працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння, распачатага каля трэцяй чвэрці 1 тыс. н.э. і ахапіўшага ўсю тэрыторыю сучаснай Беларусі, а таксама прылеглыя раёны Летувы, Латвіі, Расіі і Украіны"* [6].

Галоўным зместам працэсу, які ў той час адбываўся, быў каланізацыйны рух славян на землі, занятыя балтамі з іх асіміляцыяй і ў выніку гэтага кардынальная змена этнічна-культурнай сітуацыі ў Панямонні. Лічыцца, што на час утварэння Кіеўскай дзяржавы балта-славянская мяжа праходзіла прыблізна па лініі: воз. Асвейскае - Дзісна - Пліса - Будслаў - Заслаўе - Рубяжэвічы - Дзераўная - Беліца - Слонім - Ваўкавыск[7].

Адным з асноўных крытэрыяў размежавання балтаў і ўсходніх славян дагэтуль лічыцца канфесійная прыналежнасць насельніцтва: каталікі - балты, праваслаўныя (потым ўніяты) - славяне. Але, з аднаго боку, вядома, што да ўвядзення Ягайлам каталіцтва, частка балтаў ўжо была хрысціянамі ўсходняга абраду, з другога боку, вядома, што значная частка русінаў была пераведзеная Ягайлам у заходні абрад. І ўжо з XV ст. назіраецца працэс пераходу праваслаўных феадалаў у каталіцтва, а потым масава ў пратэстантва. Таму прафесар Краўцэвіч лічыць па меншай меры сумнеўным выкарыстання такога крытэрыя[8].

Пэўным чынам зразумець тагачасную этнічную сітуацыю дазваляе інфармацыя аб парафіях, заснаваных між XIV і канцом XVI ст. (з так званым старакаталіцкім насельніцтвам). Акрэсленая паводле гэтай папраўкі мяжа перавагі старакаталіцкага насельніцтва ў агульных рысах супадае з мяжой, вызначанай на аснове дадзеных тапанімікі. Гаворка ідзе аб так званай "лініі Сафарэвіча". Мовазнаўца Ян Сафарэвіч правёў яе на аснове картаграфавання перавагі айконімаў з суфіксам *-ішкі*. Устанавіўшы, што ў раёнах з балцкім насельніцтвам колькасць такіх айконімаў складае ад 12 да 15%, даследчык акрэсліў паўднёва-ўсходнюю мяжу мясцовасцей, дзе такія назвы складаюць не менш як 4%. Прызнаўшы атрыманы вынік за мяжу *"рассялення балцкага насельніцтва"*, даследчык адзначыў яе яўнае супадзенне з мяжой між раёнамі з перавагай каталіцкага або праваслаўнага насельніцтва. "Лінія Сафарэвіча", па ўсёй верагоднасці, зафіксавала нейкі этапны момант эвалюцыі этнічнай сітуацыі на Панямонні. Паколькі яна ў асноўных рысах супадае з мяжой перавагі старакаталіцкага насельніцтва, то, ведаючы дату хрышчэння балтаў (1387 г.), даследчыкі прызнаюць што гэта мяжа адпавядае сітуацыі канца XIV ст. ці больш ранейшых часоў. Можна таксама адзначыць значнае супадзенне лініі Сафарэвіча з мяжой распаўсюджвання айконімаў, звязаных з яцвягамі (беларуская назва Ятвезь і яе летувіскі адпаведнік - Dajnava)[9].

У назвах вёсак, "лінія Сафарэвіча" добра прасочваецца ў сучасным Воранаўскім раёне. Напрыклад, на шляху з Ліды ў бок Радуні, не даязджаючы ракі Дзітвы, стаіць вёска Ворнішкі і адразу за ракой знаходзяцца два паселішча з назвай на *"-ішкі"*: ваколіца *Больцішкі* і ваколіца *Волдацішкі*, раней тут жа быў шляхецкі засценак (ваколіца) *Гейштаўты*, назва якога паходзіць ад яцвяжскага ці прускага слова *"Gieja"* - *"спевы"* ці нават можа мець значэнне *"вайдэлот"* [10] - сцвярджаў знаўца нашай гісторыі Напалеон Роўба. Ён у свой час чытаў пра падзеі вакол Гейштаўтаў у дакументах Лідскага гродскага суда. Засценак быў заснавана родам Гейштаў-

[5] Краўцэвіч А. Кароткая гісторыя Беларусі. С. 37- 41.

[6] Краўцэвіч А. Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. 1998. № 9. С. 5.

[7] Там жа. С. 10.

[8] Там жа. С. 11-12.

[9] Там жа. С. 12.

[10] Вайдэлоты (літ.: vaidilos) - святары ў свяцілішчах агню старажытных прусаў і літоўцаў (яцвягаў, жамойтаў і інш.), абавязкам якіх было прымаць ахвяры, даглядаць вогнішча, сачыць за календаром святаў, навучаць і даваць парады, а таксама апяваць на пахаваннях герояў-нябожчыкаў, асабліва на восеньскім свяце казла.

таў прадстаўнікі якога, у свой час, ратуючыся ад крыжакоў, збеглі з Прусіі, а ў больш позьнія часы, у выніку адаптацыі яго родам Гедыголдаў, прынялі герб *Гейш*. Жылі Гейштаўты ў сваім шляхецкім засценку не менш за 600 гадоў. Прадстаўнікі гэта роду ўдзельнічалі ў Гарадзельскім сойме 1413 г. Некалькі разоў Гейштаўты разам з суседзямі праганялі захопнікаў са свайго багатага паселішча, якое было схаваны ў Дзітвянскіх балотах. Першы раз яны не пусцілі сюды войска Хаванскага (верагодна, у 1658-59 гг.), а другі раз, падчас Паўночнай вайны, выціснулі з родных хат шведаў, калі тыя, умацаваўшыся ў Радунскім замку, прыйшлі па харчы ў засценак Гейштаўты. Тады шляхта Гейштаўты разам з суседзямі схавалася ў Дзітвянскіх балотах і не давала чужынцам спакойнага жыцця ў сваім засценку, покуль тыя не ўцяклі ў Радунь. Шляхта Гейштаўты заўсёды мелі адмысловыя гаці ў балотах, пра якія чужынцы не ведалі. Напалеон Роўба пісаў, што гэтыя гаці на глыбіні да 1 метра ў балоце, у бок Олтушак і Смалякоў, захаваліся яшчэ на пачатку XX ст. Паведаміў гісторык і пра інфармацыю аб спаленні і рабаванні гэтага засценка чужынцамі. Сярод іншага, Напалеон Роўба пісаў, што *"пасля апошняга шведскага наезду, старыя людзі памяталі і расказвалі пра вялікае гумно, якім валодалі Гейштаўты, у гэтым гумне шведы зрабілі для сябе кірху"*. Гэты факт кажа нам пра дастаткова працяглы тэрмін знаходжання шведаў ў багатым засценку. Таксама Роўба паведаміў, што, пэўна ў XVIII ст. ці ў яшчэ больш старыя часы: *"Навакольныя з Гейштаўтамі вёскі: Гудзелі, Наркуны і іншыя размаўлялі толькі па-балцку і не ведалі ніякай славянскай мовы, а сёння* (пачатак XX ст. - *Л. Л.*) *... сталі цалкам беларускімі"* [11]. Дадам, што родная цётка маёй жонкі была замужам за Казімірам Гейштаўтам з засценка Гейштаўты і зараз жонка мае стрыечных сваякоў з гэтага старажытнага роду. А Казімір Гейштаўт 20 гадоў таму прывёў мяне на месца свайго будучага пахавання і ўзяў чэснае слова, што пасля яго смерці, я прыйду да яго магілы. І вось ўжо гадоў з 15, як я ўсё ніяк не магу выканаць сваё абяцанне ....

Цікава, што адразу на поўнач за Больцішкамі і Валдацішкамі, ляжыць вёска з цалкам славянкай назвай Пашкавічы. Але на поўначы гэтай вёсцы маюцца каменныя магілы якраз з часоў "лініі Сафарэвіча", што кажа пра старажытнасць гэтай раней балцкай вёскі, якая сёння мае назву ад нейкага беларускага Пашкі.

**Наезд Юрыя Святаслававіча і пабудова чацвёртага па ліку касцёла**

Тэадор Нарбут пісаў, што 5 жніўня 1406 г. смаленскі князь Юры Святаслававіч з вялікім атрадам напаў на Ліду, разрабаваў і спаліў яе, пасля чаго марна штурмаваў замак. Жонка з дзецьмі гэтага князя ўтрымлівалася ў няволі ў Лідскім замку. Лідскі староста Якуб з Селіцы адсутнічаў, аднак хутка прыехаў з Голдава і адагнаў нападнікаў. Яны ўцяклі ў Салешніцкія лясы і потым напалі на францысканскі кляштар у Вільні і кляштар Дзевы Марыі на Песках, у якім, шукаючы каштоўнасці, пазабівалі ўсіх, каго заспелі ў кляштары. Нарбут заўважыў, што менавіта гэтак было занатавана ў лідскіх плябанскіх запісах, напісаных ксяндзом Стогневам, які праз трошкі больш чым 40 гадоў пасля гэтых падзей стаў лідскім пробашчам. Запісы потым працягвалі рабіць яго заступнікі[12].

Трэці па ліку лідскі касцёл, пабудаваны ў 1397 г., згарэў у 1406 г. У 1414 г. касцёл быў узноўлены як парафіяльны і пасвечаны пад назвай "Найсвяцейшай Дзевы Марыі Панны, Усіх Святых", і гэта быў ужо 4-ты лідскі касцёл. Фрагмент прывілея гэтаму касцёлу, дадзены Ягайлам, бярог сярод іншых дакументаў лідскі пробашч. У дадатку да пятага тома "Старажытнай гісторыі літоўскага народа" Тэадор Нарбут змясціў тэкст гэтага прывілея, а таксама спіс пробашчаў лідскага касцёла[13].

Магчыма, менавіта гэтая пабудова прастаяла ажно да вайны 1654-1663 гг., калі яна была спалена разам з нашым горадам, але магчыма, што да 1654 г. у горадзе стаяў ужо наступны, 5-ты драўляны касцёл.

Тэадор Нарбут пісаў, што ў 1434 г., калі Свідрыгайла спаліў Ліду, фарны касцёл уцалеў, а ў 1450 г. з'явіўся філіяльны касцёл у Крупаве[14].

[11] Rouba Napoleon. Przewodnik po Litwie i Bialejrusi. Wilno, 1909. S. 62.

[12] Narbutt T. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. 5. Wilno, 1839. Dodatek I. S. 1.

[13] Narbutt T. Cokolwiek z historyi miasta Lidy // Narbutt T. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. 5. Dodatek I. S.3-5. *(In nomine Dni Amen. Vladislaus dei gratie Rex polonie lituanieque Princeps supremus e. t. c. Heres mie e. t. c. Ad perpctuam rei memoriam. Quamquam ex suscepli cura Regiminis universorum nostrorum Regimini subditoruM utilitale tenemur ad ea tanien que diuini cultui administracionem decus ac gloriam ac statum felicem et quietem, ac virium firmitatem Ministrorum Omnipotentis conspiciunt, tanio dignius intendimus quantum pro ceteris mundi Principibus nomen Regale solum magniricencie extollit et mirabilius universorum prouidencie creatoris con-sideranles sane Omnipotenlis inimensam clemenciam qua nos ovem pridem perditam ad Begales dignitates solium Clementissimi sublimauit, volentesque tanquam fidelis commissorum gubernator pro infinibis heneficiis aliquibus licet tamen exilio meritis obuiare. Ecclesiam vetere nostre fundacionis olim pp. cc. ord. s. Francisci Apostolis Lituanie cominendandam in opido nostro Lida nunc de nouo conslructam et ad honorem Omnipotentis Dei Gloriosissime Virginis Marie Omnium Sanctorum specialiler Sancti Crucis...... dicalum......dotauirnus bonis prouenlibus et utilitatibus ut in nostris literis ....... clare nitilur confirmamus et incorporamus donamus et appropriamus Lidensem .......... Dougirdi ........ ommos thelonis vulgariter. На абаротным баку стаяла дата дадаНая потым: A. Domini M. CCC. XIII. Feria iijj. in hebd. Pentecost... У імя Бога, аман. Уладзіслаў Кароль Божай міласцю Польшчы, вялікі князь Літоўскі... і г.д..... На вечную памяць... Касцёл нашай старой фундацыі ордэна Святога Францішка, Апостала Літвы, заснаваны раней у нашым горадзе Ліда, зараз нанава збудаваны і названы ў гонар Усіх Святых, асабліва Святога Крыжа, мы надзяляем маёмасцю і прывілеямі...).*

[14] Там жа. S. 4.

### Грунвальдская бітва

Пра Грунвальдскую бітву напісана ўжо шмат цікавага і карыснага і таму я не буду перапісваць іншых аўтараў. Магу толькі парэкамендаваць удумлівым чытачам прачытаць тэксты Яна Длугаша якія існуюць у перакладах на розныя мовы, а з беларускіх гісторыкаў звярнуць увагу на ўсё тое, што напісаў па гэтай тэме Руслан Гагуа[15] і на кнігу Генадзя Сагановіча "Грунвальд у беларускай гісторыі" [16].

Вядома, што сярод 40 харугваў ВКЛ, якія прымалі ўдзел у той векапомнай бітве, была і лідская харугва. Верагодна ўзначальваў яе лідскі староста, як я ўжо адзначыў вышэй, каля 1406 г. гэтую пасаду займаў Якуб з Селіцы. Пра ўдзел лідскай харугвы ў Грунвальдскай бітве маецца грунтоўны і змястоўны артыкул Станіслава Судніка[17], да якога я адсылаю чытача, бо не маю жадання рабіць кампіляцыю з добра зробленай ім працы.

Аднак заўважу, што ў бітве загінула ўся кіроўная эліта ордэна і яго моц была падарвана. ВКЛ дасягнула мэты вайны, і пасля яшчэ шэрагу бітваў і перамоваў



***Напярэдадні Грунвальдскай бітвы Ягайла і Вітаўт моляцца (ёсць меркаванне, што мастак намаляваў той момант, калі Ягайла моліцца і не ўступае ў бітву, а Вітаўт кліча яго пачаць ваенныя дзеянні), мастак Ян Матэйка.***

ВКЛ канчаткова вярнула сябе Жмудзь і Судавы. 500 гадоў пасля гэтай бітвы збройны немец не ступаў на зямлю Беларусі і Летувы. Але ёсць у Грунвальскай перамогі і яшчэ адзін бок. На пагорках Грунвальда назаўжды засталася абсалютная большасць старых беларускіх нобіляў. Вотчыны засталіся без гаспадароў, а намесніцтвы без намеснікаў[18].

### Гарадзельская унія

2 кастрычніка 1413 г. у Гародле адбылася дамова Вялікага князя літоўскага Вітаўта са сваім стрыечным братам, польскім каралём Уладзіславам Ягайлам. Была падпісана так званая Гарадзельская унія

Перадумовай уніі было тое, што перамога ў Вялікай вайне з Тэўтонскім ордэнам, якая закончылася падпісаннем Торуньскага мірнага дагавору ў 1411 г., не стала канчатковым вырашэннем пагрозы для ВКЛ і Польшчы з боку крыжакоў. Торуньскі дагавор не задавальняў ні адзін з бакоў, а новы Вялікі магістр Ордэна Генрых Пляўэн энергічна ўзяўся за адбудову былое велічы рыцарскай дзяржавы. Гэта азначала магчымасць новай вайны. У дадзенай сітуацыі Вітаўт і Ягайла палічылі неабходным падпісаць новую унію. Акрамя таго, вялікаму князю Вітаўту трэба было замацаваць незалежнасць ВКЛ і пазбавіцца залежнасці ад Польскага каралеўства.

Паводле артыкулаў уніі, Вітаўт прызнаваў вярхоўную ўладу Ягайлы, частка вотчынных правоў Ягайлы на землі ВКЛ пераходзіла польскай Кароне, а тытул вярхоўнага князя літоўскага рабіўся часткай польскага каралеўскага тытулу. Адначасова ўводзіўся інстытут спадчыннасці пасада і тытулу Вялікага князя літоўскага. Вітаўт заняў першае месца ў каронннай радзе і стаў другой па значнасці асобай ва ўладнай сістэме злучанай дзяржавы. Таксама ў Літве ўводзілася аднолькавае з Польшчай адміністрацыйнае дзяленне на ваяводствы і кашталяніі (уводзіліся і адпаведныя пасады - віленскіх і троцкіх ваявод і кашталянаў). Літоўскія баяры-каталікі атрымлівалі правы польскай шляхты і гербы. Гэтыя змены закранулі 47 родаў[19].

### Зацменне сонца і кароль Ягайла на Лідчыне

Летам 1415 г. па запрашэнні вялікага князя Вітаўта, яго стрыечны брат Уладзіслаў Ягайла, правёў у ВКЛ. На Лідчыне кароль наведаў Васілішкі і Эйшышкі: *"У часе яго падарожжа з Кобрына да Мыто, у суботу а 3-й гадзіне, на восьмы дзень пасля Божага Цела, наступіла значнае зацьменне сонца, якое караля і яго людзей, як з'ява неспадзяваная і невядомая, здзівіла, прымусіла задумацца і прывяло ў забабонны неспакой.*

[15] Гл. напрыклад: Гагуа Р.Б. Грюнвальд в источниках: "Хроника конфликта Владислава, короля Польши, с крестоносцами в год Христов 1410". Пинск, 2009.

[16] Гл: Сагановіч Г. Грунвальд у беларускай гісторыя: Спроба разбору палітычнага міфа. Мінск, 2015.

[17] Гл: Суднік Станіслаў. Лідская харугва ў Грунвальдскай бітве // Лідскі летапісец. 2000. № 3(11). С. 9-17.

[18] Там жа. С. 17.

[19] Гудавичюс Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 года. Т. I. Москва, 2005. С. 225-229.

*Было гэтак незвычайна, што птушкі, уражаныя хуткай цемрай, паселі на зямлю, а зоркі свяцілі, як ноччу. З-за цемры кароль быў прымушаны спыніцца і рушыў наперад толькі, калі мінула зацьменне сонца"* [20].

Дзякуючы таму, што гэтая астранамічная з'ява была агульнаеўрапейская, мы можам дакладна сказаць, што яна адбылася 7 чэрвеня 1415 г. У гэты дзень здарылася сонечнае зацьменне з максімальнай фазай 1.071 у 07:15 сусветнага часу. Шырыня цені дасягала 285 км, працягласць поўнага зацьмення 03 мін 24 сек. Гэта астранамічная з'ява фіксуецца ў шматлікіх еўрапейскіх хроніках і ў розных летапісах[21].




**Карта зацменне сонца ў Еўропе, 1415 г.**

Дадам, яшчэ раз, што зацьменне адбылося 07.06.1415 г. і яго можна лёгка змадэліраваць на любой сучаснай праграме-планетарыі.

Пасля Эйшышак кароль наведаў Трокі, *"з Трок кароль польскі Уладзіслаў разам з Аляксандрам Вітаўтам накіраваўся ў Коўню, а адтуль на караблі да пабудаванага замка ў Велоне"*. Пасля знаходжання ў Жмудзі, на свята Дабравешчання Найсвяцейшай Панны (25 сакавіка) кароль вярнуўся ў Вільню і потым, праз 7 дзён *"праз Рудаміну, Ліду, Наваградак, Цырын прыбыў у Клецк, адкуль па рацэ Случы дабраўся да Прыпяці"* і далей праз Давыд-гарадок і Луцк вярнуўся ў Польшчу[22].

Дабравешчанне святкуецца 25 сакавіка, і таму Уладзіслаў Ягайла быў у Лідзе на пачатку красавіка 1416 г.

### Шлюб Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай

Старадаўні род князёў Гальшанскіх меў радавым гняздом Гальшаны ў Ашмянскім павеце. У канцы XIV ст. жыў князь Іван Альгімундавіч Гальшанскі, намеснік кіеўскі, муж смаленскай князёўны Агрыпіны. Праз сваю жонку ён быў блізка параднёны з Вялікім князем Вітаўтам, жанатым з Ганнай Смаленскай. Князь Іван меў трох сыноў. Адзін з іх - намеснік кіеўскі, другі - намеснік у Вялікім Ноўгарадзе. Трэці, Андрэй, не займаў ніякіх высокіх пасадаў. Андрэй памёр, пакінуўшы толькі дачок: Васілісу, Соньку і Марыю. Родная сястра Андрэя, Ганна Іванаўна, была жонкай Пяста Мазавецкага - Баляслава III - і вядомая ў гісторыі як фундатарка шпіталя св. Духа ў Варшаве, якая тады была яшчэ сталіцай Мазовіі, а не ўсёй Польшчы.

Дочкі Андрэя Іванавіча разам з маці, Аляксандрай Дзмітраўнай Друцкай, жылі ў брата маці, князя Сямёна Друцкага. Род Друцкіх ішоў ад славутага беларускага князя Усяслава Чарадзея! Некаторыя з даследчыкаў схіляліся да думкі, што будучая каралева больш хілілася да радні з боку маці, чым бацькі. Пра дзяцінства Сонькі нічога не вядома, апроч факту, што выхоўвалася яна разам з шасцю сынамі дзядзькі, маладымі князямі

[20] Dlugosz Jan. Roczniki czyli kroniki slawnego krolestwa polskiego. Ksiega 11 (1413-1430). Warszawa, 2009. S. 56.

[21] Гл: *И бысть знамение въ солнци месяца июня въ 7* (Новгородская I летопись младшего извода ПСРЛ. Т.3. С.405).

*Того же лета погибе с(о)лнце июн(я) 7 в пятницю было и скры луча своя зелене от лица земнаго* (Московско-Академическая летопись ПСРЛ. Т.1. Стб.540).

*Того же лета, месяца июня въ 7 день, бысть знамение въ солнце, мракъ зеленъ, таже помале бысть мракъ аки кровь, и другъ друга человеку не видети, аки въ крови стояху вси* (Никоновская летопись ПСРЛ. Т.11. С.226).

*Того же лета, месяца июня въ 7 день, на память святого отца Федота, въ 7 часъ дни, погибе солнце все, и бысть тма, человека въ лице не видети было* (Тверская летопись РЛ. Т.6. С.465).

*Того же лета, месяца июня в 7 день, на память святого мученика Федота, изгибе солнце и скры луча своя от земли в 4 час дни, в год божественныя литургия, и звезды явишася яко в нощи. Тогда было князю великому Василью Дмитреевичу 26 лет на великом княжении* (Никифоровская летопись ПСРЛ. Т.35. С.33).

*В то же лето иуня 7 тма бысть в пяток перед обеднею, бысть же се не много, час единъ, видети было и звезды все, яко же и в нощи* (Московский летописный свод конца XV в. РЛ. Т.8. С.329).

*В лет(о) 923 м(еся)ца июния въ 7 быс(ть) помрачение с(о)лнцю въ 6 ча(с) дне створися нощь, и явишася звезды и быс(ть) страх великъ на всех родех ч(е)л(ове)ч(ес)кихъ в д(е)нь с(вя)т(о)го пятка* (РГБ ОР. Ф.304. I. Ед. хр. 765. Л.319 об.).

Того ж(е) лета июня 7 въ час 4 дни тма быс(ть) по всеи земли, и с(о)лнце померьче, яко ж(е) в распятии Х(ри*сто)ве, и звезды явишася, и заря явис(я) утренняя и вечерняя, и паки по единем ч(а)се Г(оспод)ь Б(ог)ъ дасть просвещение всему миру* (Софийская вторая летопись ПСРЛ. Т.6. Вып.2. Стб.41).

[22] Dlugosz Jan. Roczniki czyli kroniki slawnego krolestwa polskiego. Ksiega 11 (1413-1430). S. 57.

Друцкімі. Аляксандра Дзмітраўна ў той час яшчэ жыла, бо значна пазней яна наведвала дачку ў Вавельскім замку. Трэба думаць, што Сонька нарадзілася каля 1405 г.

У траўні 1420 г. памерла Альжбета Пілецкая, трэцяя жонка Ягайлы, а сівы кароль Уладзіслаў Ягайла ўсё яшчэ не меў сына. Яму быў неабходны яшчэ адзін шлюб, і пасля перабору розных варыянтаў, Вітаўт прапанаваў Ягайлу сваячніц сваёй жонкі.

Неўзабаве Ягайла гасцяваў у Друцкіх і пазнаёміўся там з князёўнай Сонькай Гальшанскай. Напачатку кароль разважаў пра магчымы шлюб з яе старэйшай сястрой Васілісай, але хутка пакінуў гэтую думку і зацікавіўся Сонькай. Паколькі па старадаўнім беларускім звычаі нельга было выдаваць малодшую сястру перад старэйшай, Васілісу хутка сасваталі за князя Івана Бельскага[23].

Вось як пра ўсё гэта напісана ў "Хронікі Быхаўца": *"Едучы назад (з Смаленска), вялікі князь Вітаўт і кароль Ягайла заехалі ў Друцк і былі на абедзе ў князя друцкага Сямёна Дзімітравіча. У караля Ягайлы ўжо трэцяя жонка была памерла без плода, ды ён пабачыў у князя Сямёна дзвюх яго прыгожых пляменніц, старэйшую Васілісу, празваную Бялухай і малодшую Соф'ю. І прасіў Ягайла Вітаўта, кажучы так: "Было ў мяне тры жонкі, дзве ляхавіцы, а трэцяя нямкіня, але плода з імі не меў. А цяпер прашу цябе, з'яднай мне ў князя Сямёна сястрычну яго меншую Соф'ю, я за сябе замуж яе ўзяў бы, можа, хоць з роду рускага* (маецца на ўвазе беларускага - *Л. Л.*) *мне Бог дзяцей даў бы". І калі князь Вітаўт пачаў гаварыць пра тое князю Сямёну, той адказаў: "Гаспадару вялікі княжа Вітаўце! Кароль Ягайла - брат твой каранаваны і гаспадар вялікі. Не магло б быць маёй пляменніцы лепей, як за яго міласць замуж пайсці, але ж не хачу я рабіць ганьбу і сорам яе старэйшай сястры тым, што малодшая раней за старэйшую замуж пайшла б. Дык няхай бы яго міласць старэйшую ўзяў". І калі князь вялікі Вітаўт пра гэта каралю Ягайлу паведаў, той яму адказаў: "Я і сам ведаю, што старэйшая сястра цудоўнейшая, але мае вусы, а гэта азначае, што дзеўка яна моцная, я ж чалавек стары - не смею на яе спакусіцца".*

*Потым князь вялікі Вітаўт з князем Сямёнам, памысліўшы, выклікалі да сябе князя Івана Уладзіміравіча Бельскага, братаніча свайго, і ўгаварылі яго ажаніцца са старэйшаю сястрою Васілісаю Бялухаю, а Соф'ю заручылі з каралём Ягайлам"* [24].




***Ягайла і Зоф'я Гальшанская, мастак А. Лесар***

Шлюб Ягайлы з Сонькай Гальшанскай адбыўся ў Наваградку ў лютым 1422 г. Непасрэдна перад тым абранніца караля нанова ахрысцілася і ўзяла імя Зоф'я. Вядома, што вяселле было шумнае і па шлюбе маладыя выехалі ў Ліду, дзе і адбываліся галоўныя ўрачыстасці. У Лідзе сабралася мноства гасцей, у ліку якіх быў нунцый папы Марціна V Антоніа Зена, чэшскае пасольства, ліцвінскае баярства. Святкаванне ў Лідзе цягнулася аж да вялікага посту. На момант жаніцьбы Ягайла меў 71 год а ягоная чацвёртая жонка толькі 17.

Ян Длугаш гэтак апісвае падзеі: "*... усе паны і рыцары, якія былі разам з каралём Уладзіславам, рознымі парадамі, просьбамі і ўсімі даступнымі спосабамі, як маглі адгаворвалі караля Уладзіслава ад жаніцьбы з ліцвінкай, аднак Аляксандр Вітаўт абясцэніў усе іх высілкі і схіліў караля Уладзіслава да шлюбу са сваёй пляменніцай, княжной Сонькай ... Вярнуўшыся на запусты ў Наваградак, кароль Уладзіслаў узяў у жонкі князёўну Соньку, параднёную з ім у трэцім і чацвёртым калене, якая да гэтага была абмытая вадой вадохрышча - бо была раней праваслаўнага веравызнання - змяніўшы пры гэтым імя на Зоф'ю. У прысутнасці біскупа віленскага Мацея*[25]*, які прамовіў словы святой прысягі, заключыў гэты, не мілы палякам, а яму - на мяжы ўжо лядашчай старасці - цалкам непатрэбны шлюб. З вялікай пышнасцю быў праведзены ў Наваградку шлюб паміж няроўнымі партнёрамі: згрыбелым ужо каралём Уладзіславам і маладзенькай у той час Зоф'яй, якая вызначалася болей прыга-*

[23] Рудзкі Э. Соф'я Гальшанская - апошняя жонка Ягайлы, маці Ягелонаў // Спадчына. 1993. № 6. С. 34-36.

[24] Хроніка Быхаўца // Беларускія летапісы і хронікі. Мінск, 1997. С. 115-116.

[25] Віленскі біскуп з 04.05.1422 па 1455 г.



***Зоф'я Гальшанкая, мастак Марцэлі Краеўскі***

*жосцю, чым звычкамі.*

*Пасля вяселля кароль польскі Уладзіслаў выехаўшы ў чацвер, раніцой пасля Папельцу, з новай жонкай Зоф'яй, з Наваградка прыбыў у Ліду. Прыехаў туды да яго нунцый папы Марціна V, доктар абодвух правоў*[26] *Антоній Зено, каб выслухаць сведак, якія павінны былі быць прадстаўленыя ў спрэчцы з крыжакамі з Прусіі і каб убачыць арыгіналы прывілеяў і дакументаў. Гэтак ён сваім прыбыццём даставіў задавальненне і каралю Уладзіславу, і Аляксандру Вітаўту, кароль і князь падарылі яму багатыя падарункі. Калі гэты незвычайны муж у адпаведнасці са сваім бездакорным характарам марудзіў з іх прыёмам (папа Марцін паслаў для вывучэння гэтай справы такога чалавека, пра якога ведаў, што гэты суддзя несумненна кіруецца справядлівасцю, не паддасца прагнасці і не возьме падарункаў, хоць бы яны мелі невядома якую вартасць - забараніўшы яму адмысловым указам іх прыняцце - не магчыма яго перакупіць каштоўнымі падарункамі), ён пачаў гэтым абуджаць вялікую сімпатыю і ў караля Уладзіслава, і ў князя Вітаўта. Зваротным шляхам з Ліды ў Польшчу, які ішоў праз Ваўкавыск і мясцовасці, праз якія звычайна праходзіла яго дарога, кароль Уладзіслаў накіраваўся ў Кракаў, узяўшы з сабой нунцыя апостальскай сталіцы Антонія Зена"* [27].

Гісторыкі вызначылі, што ў Лідзе вялікі князь Вітаўт а гэта значыць, што і кароль Ягайла з маладой жонкай, былі 27.02.1422 г.[28], дадам што першае зафіксаванае наведванне Вітаўтам Ліды адбылося 20.05.1396 г.[29].

Адразу пасля шлюбу Зоф'я пачала ствараць сабе такое становішча, вынікам якога павінна была стаць яе каранацыя. Але першая дата ўрачыстай каранацыі - 26 снежня 1422 г. - па невядомых прычынах не была вытрымана, а новую не вызначылі. Гэта магло быць звязана, з абыякавым стаўленнем Ягайлы да жонкі. Звярталі ўвагу, што каралева не цяжарыла і нават у самыя першыя месяцы шлюбу сівы муж ад'язджаў на доўгі час, пакідаючы маладую жонку ў чужым для яе атачэнні. Таксама пэўную ролю адыграў нутраны стан палітычных сілаў у Польшчы - ніводная палітычная група не мела зацікаўленасці ў каранацыі маладой жонкі Ягайлы. Тады Сонька паказала добры розум, хутка ацаніла сітуацыю і зрабіла стаўку на групоўку, сярод якой усё болей вылучаўся малады канонік Збігнеў Алясніцкі, цікава, што гэтая групоўка ад пачатку была супраць шлюбу Ягайлы і Сонькі Гальшанскай.

У выніку, каранацыя была прызначана на сакавік 1424 г. Сваёй прысутнасцю яе аздобілі суседнія манархі: Сігізмунд з Барбарай Люксембурскай і дацкі кароль Эрык. Прыбылі чатыры Пясты Мазавецкія, восем - Шлёнскіх, мноства князёў літоўскіх і беларускіх на чале з Жыгімонтам Карыбутавічам, які меў з сабой пяцьсот ваяроў. Каранацыю правёў арцыбіскуп Гнезненскі, асістэнтамі былі арцыбіскуп львоўскі, трое біскупаў і папскі легат. Святочныя забавы цягнуліся тыдзень. Агульную ўвагу выклікала адсутнасць вялікага князя літоўскага Вітаўта. Была гэта самая ўрачыстая каранацыя каралеўскай жонкі за ўсю гісторыю Польшчы. Каранацыя ўзмацніла становішча Сонькі, і нядаўняя *"беларуская дзяўчына"* (як акрэсліў Длугаш) пачулася ў новай айчыне больш пэўна[30].

Зоф'я нарадзіла Ягайлу трох сыноў (сярэдні памёр немаўлём) і стала заснавальніцай дынастыі Ягелонаў. У сучаснікаў былі сумненні наконт бацькоўства першага хлопчыка, але трэці сын Казімір, які нарадзіўся, калі каралю Ягайлу ўжо спаўнілася 76 гадоў, быў настолькі падобны да бацькі, што атрымаў мянушку Ягелончык ( г. з. малы Ягелон). Дынастыя Ягелонаў кіравала аб'яднанай польска-ліцвінскай дзяржавай да 1572 г., Венгрыяй і Чэхіяй - да 1529 г. Два сыны, чатыры ўнукі і два праўнукі Зоф'і Гальшанскай сталі каралямі, і яна ўвайшла ў гісторыю як "маці каралёў".

[26] Доктар абодвух правоў (скарочанае - J.U.D. лац.: Iuris Utriusque Doctor) - вучоная ступень вышэйшай ступені доктара навук у галіне грамадзянскага і царкоўнага права. Ступень была шырока распаўсюджана сярод каталіцкіх і нямецкіх вучоных сярэднявечча і ранняга новага часу.

[27] Dlugosz Jan. Roczniki czyli kroniki slawnego krjlestwa polskiego. Ksiega 11 (1413-1430). S. 165-166.

[28] Polechow Sergiej. Itinerarium wielkiego ksiecia litewskiego Witolda: 4/5 sierpnia 1392 - 27 pazdziernika 1430 // Rocznik Lituanistyczny. 2019. № 5. S. 78.

[29] Там жа. S. 46.

Вядома, што ажно да пачатку XX ст. кожнае чацвёртае або нават кожнае трэцяе дзіця памірала не дасягнуўшы паўнагадовага ўзросту. Каб зразумець значнасць Зоф'і Гальшанскай, для прыкладу разгледзім сям'ю знатных сужэнцаў - англійскага караля Эдуарда I (1239-1307) і ягоную жонку, каралеву Элеанору (1241-1290). Дзеці, якія нарадзіліся ў гэтай каралеўскай сям'і, натуральна, гадаваліся ў самых лепшых умовах, якія толькі магла забяспечыць сярэднявечная Еўропа: яны жылі ў палацы, у іх было шмат ежы і цёплай вопраткі, у пакоях было цёпла, не мелася праблем з чыстай вадой. Прынцаў і прынцэс абслугоўвала цэлая армія персаналу, сярод якога меліся і лепшыя лекары. У прыдворных хроніках пералічана 16 дзяцей, народжаных каралевай Элеанорай з 1255 па 1284 г. З іх 10 дзяцей памерлі маленькімі, толькі 6 дасягнула 11-ці гадовага ўзросту. І толькі апошняе, 16-тае дзіця, прынц Эдуард, дажыў да паўнагоддзя і пасля смерці свайго бацькі ўзышоў на пасад Англіі пад імем Эдуарда II. Інакш кажучы, толькі з шаснаццатай спробы Элеанора справілася з галоўнай абавязкам ангельскай каралевы - падаравала каралеўству спадчынніка пасада[31].

Каралева Зоф'я выступіла ініцыятарам першага перакладу Бібліі на польскую мову, вядомага як "Біблія каралевы Зоф'і" і ўвесь час аказвала істотную фінансавую падтрымку Кракаўскай акадэміі. Яна была адзіным заступнікам гэтай навучальнай установы, у якой вучыліся і ўсе тагачасныя беларусы, і дзе ступень бакалаўра атрымаў і наш вялікі Францішак Скарына.



***Пахаванне Вітаўта, мініяцюра, 1443 г.***

**Грамадзянская вайна ў ВКЛ**

Вялікі князь Вітаўт у сваім тастаманце ад 21 кастрычніка 1430 г. выказаў пажаданне быць пахаваным у катэдральным касцёле св. Станіслава пад алтаром св. Міхала Арханёла разам са сваёй жонкай Ганнай.

Праз 6 дзён, 27 кастрычніка 1430 г. Вялікі князь ВКЛ Вітаўт памёр.

Думаю, развітваючыся з гэтым знакамітым палітычным дзеячам, трэба пералічыць населеныя пункты гістарычнай Лідчыны, у якіх ён бываў. Пра Ліду я ўжо напісаў трошкі вышэй, акрамя нашага горада, Вітаўт шматкроць наведваў мястэчка Дубічы, якое таксама знаходзілася на гістарычнай Лідчыне. Тут, у Дубічах, ён падпісаў дакумент для берасцейскага намесніка Цвербута аб наданні *"ляху Якушу … пустыни у Корошове от парчовское границы за Берестьем"*. Гісторыкі не могуць дакладна датаваць гэтую падзею, яна адбылася ў 1396 ці 1411 ці 1426 гг.[32] Таксам вялікі князь бываў у гэтым мястэчку: 28.03.1397 г., 01.03.1402 г., 28.03.1403 г., 06.03.1415 г., 21.02.1418 г, 25.07.1421 г., 26.02.1426 г. 17.03.1427 г. і 15.03.1430 г.[33] Цікава, што яго сюды прываблівала, можа паляванне?

Таксама Вялікі князь адзін раз наведаў Новы Двор, тут Вітаўт быў 03.02.1429 г.[34]

Кароль Ягайла, вялікі маскоўскі князь Васіль (унук Вітаўта), вялікі князь Свідрыгайла і шмат іншых асоб, з вялікай урачыстасцю перавезлі парэшткі Вітаўта з Трокскага замка ў Віленскую катэдру. Тут была выканана яго воля - Вялікага князя пахавалі пад алтаром св. Міхала Арханёла каля жонкі Ганны: *"... паклалі ягонае цела ў Вільні, у замку, у касцёле святога Станіслава, з левага боку ад алтара, каля дзвярэй у сакрыстыю"*[35].

Спроба Вялікага князя Вітаўта пераўтварыць ВКЛ ў каралеўства не атрымалася.

Пераемнікам Вітаўта на літоўскім вялікакняскім

[30] Рудзкі Э. Соф'я Гальшанская - апошняя жонка Ягайлы, маці Ягелонаў. С. 36-40.
[31] Харари Юваль Ной. Sapiens. Краткая история человечества. Москва, 2016. С. 328.
[32] Polechow Sergiej. Itinerarium wielkiego ksiecia litewskiego Witolda: 4/5 sierpnia 1392 - 27 pazdziernika 1430. S. 45.
[33] Polechow Sergiej. Itinerarium wielkiego ksiecia litewskiego Witolda: 4/5 sierpnia 1392 - 27 pazdziernika. S. 97.
[34] Там жа. S. 92.
[35] Артыкулы пра пошукі магілы Вітаўта // Наша слова.pdf № 50, 14 снежня 2022.




***Вялікі князь Свідрыгайла***




***Вялікі князь Жыгімонт***

пасадзе стаў родны брат Ягайлы князь Свідрыгайла Альгердавіч. Але абранне яго адбылося з парушэннямі ўмоў, прапісаных у Гарадзельскайй уніі. Менш чым праз два гады, у ноч з 31 жніўня на 1 верасня 1432 г. Свідрыгайла быў зрынуты з пасада і збег у Полацак. Пасля гэтага вялікім князем быў абвешчаны Жыгімонт Кейстутавіч - малодшы родны брат Вітаўта[36], яго ўладу прызналі Вільня, Трокі, Коўня, Жамойць, Гародня, Менск, Наваградак, а Берасце было падпарадкавана ўзброенай сілай. Астатнія землі засталіся адданымі Свідрыгайлу, які замацаваўся ў Віцебску.

Пачалася грамадзянская вайна, прадметам вайны стала палітычнае ўладкаванне ВКЛ ва ўмовах крызісу палітычнай сістэмы, утворанай Востраўскім пагадненнем (1392 г.) і Гарадзельскай уніяй (1413 г.). Я толькі вельмі коратка апішу ход падзей гэтай вайны і прывяду гістарычны тэкст са згадваннем нашага горада

Апіраючыся пераважна на Полацк, увосень 1432 г. Свідрыгайла пачаў вайсковыя паходы на землі, падуладныя Жыгімонту. У лістападзе былы Вялікі князь з палачанамі і смалянамі дайшоў да Вільні, валоданне якой было вырашальным у барацьбе за страчаны вялікакняскі пасад: *"Швидригайло, маючи войско листанское и велми много руси московской, вторгнул до Литвы, бурил, палил, стинал люд, … А Швидригайло место Виленское и обои Троки, Крево, Молодечно, Лиду и Ешишка зо всеми волостями округне звоевал и выпалил, а потом Петра Монскирдовича гетмана Жигимонтового, поразил и войско литовское розгромил"* [37].

8 снежня пад Ашмянамі адбылася бітва паміж войскамі Свідрыгайлы і Жыгімонта Кейстутавіча. Сеча доўжылася да ночы і скончылася паражэннем Свідрыгайлы. Пскоўскі летапіс гэтак апісвае гэтую бітву: *"…и бысть сеча и бой велик, и побегну князь Свитригайло с побоища к Полотьску, а князь Жидимонт ста на костех, а паде рати много и того князя, и сего князя, у Свитригаило падоша полочани, а инех много руками поимаша"* [38].

Каб залучыць на свой бок феадалаў з партыі Свідрыгайлы, Жыгімонт у 1434 г. выдаў Троцкі прывілей, якім пашырыў усе правы, дадзеныя прывілеям Ягайлы (1387 г.) і Гарадзельскім прывілеям (1413 г.), на ўсіх феадалаў ВКЛ, незалежна ад іх веравызнання. Але значная

[36] Жыгімонт Кейстутавіч (каля 1365 - 20 сакавіка 1440) - вялікі князь літоўскі з 1432 па 1440 г.

[37] Хроника Литовская и Жамойтская // Полное собрание русских летописей (у далейшым ПСРЛ). Москва, 1975, Т. 32. С. 84.

[38] Псковская летопись. Т. 1. Москва, 1941. С. 40.

частка баяраў усё адно не падтрымлівала Жыгімонта.

У ліпені 1435 г. Свідрыгайла разам з войскам Лівонскага ордэна рушыў на войска Жыгімонта, але атрымаў паразу ў бітве пад Вількамірам, пасля чаго уцёк у Полацак.

У 1438 г. у ВКЛ быў вялікі голад *"по сёлам и по городам зверы людей едали …"* [39].

Супраць Жыгімонта Кейстутавіча была арганізавана змова князёў Івана і Аляксандра Чартарыйскіх, віленскага ваяводы Даўгерда і троцкага ваяводы Лялюша - усе чацвёра каталікі, якія раней былі звязаны са Свідрыгайлам. У выніку змовы Жыгімонт быў забіты ў Троцкім замку: *"… от Божого нароженя 1440. Князя великого Жыкгимонта Кестутьевича у Троцэх зарезали у вербъную неделю перед обедом, один з дому князеи Чорторыских, але з волею всих панов и князеи литовских, а панoвал на Литовском панстве сем год и шесть месецэи"* [40].

**Княжанне вялікага князя Казіміра Ягелончыка**

29 чэрвеня 1440 г. рада князёў і паноў, узначаленая Янам Гаштольдам, абвясціла Вялікім князем 13-гадовага сына Ягайлы Казіміра Ягелончыка:[41] *"… от Божого нароженя 1440. Князи и панове и вся земля Литовская, дорадившыся, и взяли собе князем великим Казимера Якгеиловича, сына королевского, з Ляхов, и посадили почтиве на столечных городех, на Вил(ь)ни и на Троцэх, и на всеи земли Литовскои и Рускои. …*

*В лето Божого нароженя 1434 умер в Польщы король Якгеило"* [42]. Казімір Андрэй Ягайлавіч (Ягелончык) нарадзіўся 30 лістапада 1427 г. у Кракаве, памёр 7 чэрвеня 1492 г. у Гародні.

У тым жа 1440 г. вялікі князь Казімір *"паехаў у Літву, каб пачаць кіраваць Вялікім княствам. … Калі быў на пастоі над ракой Свіслач, сын забітага вялікага князя Жыгімонта, пляменнік Вітаўта, князь Міхал з Гародні … заступіў дарогу Казіміру з 500 вершнікамі і ахвяраваў яму і яго людзям дары, пасля чаго злажыў прысягу паслушэнства і вернасці … Ад ракі Свіслачы паехаў у Дубна, дзе праз брод перайшоў раку Нёман і дзе яго прынялі княжата, паны і шляхта літоўская. … З Дубна праз Васілішкі, Радунь, Эйшышкі, Новы Двор і іншыя размешчаныя па прамой лініі селішчы, прыбыў у Вільню. Калі ўваходзіў у Вільню, вышлі яму насустрач: біскуп віленскі Мацей, кашталян віленскі Ян Хосцік, ваявода і стараста віленскі Ян Даўгерд, а таксама ўвесь клір і народ. З найвышэйшымі ўшанаваннямі, з радасцю і павагай, пад гукі труб Яго*



***Казімір Ягелончык, малюнак Яна Матэйкі***

*Мосць быў уведзены ў віленскі замак. Найперш увайшоў у кафедру святога Станіслава, дзякаваў Богу за вялікія ласкі, а галоўнае за тое, што прывёў сюды ў цэласці яго і яго войска. А ў знак радасці з нагоды яго прыбыцця вуснамі клера была апетая ласкавасць Бога гімнам Te Deum laudatus (Цябе Бога славім). Шмат замкаў, а менавіта Гародня, Берасце, Ліда і іншыя ажно да гэтага часу былі ў руках князя Міхала"* [43].

Такім чынам, у 1440 г. у запісах вялікакняжскага двара гэтак быў занатаваны шлях у Вільню вялікага князя. У прамежку паміж 22.05 і 29.06.1440 г. двор разам з Казімірам рухаўся наступным чынам: *"Прыезд з месца пастою* (Дубна - *Л. Л.*) *над ракой Свіслач, пераправа цераз Нёман і выезд у Васілішкі"*, потым у Васілішках было занатавана *"прыезд з Дубна, выезд у Радунь"*, у Радуні *"прыезд з Васілішак, выезд у Эйшышкі"*, у Эйшышках *"прыезд з Радуні і выезд у Новы Двор* (што пад Вільняй - *Л. Л.*)", і ў Новым двары занатавана: *"прыезд з Эйшышак і выезд праз іншае мястэчка ў Вільню"*. У сваю сталіцу вялікі князь прыехаў 29.06 і знаходзіўся тут па 13.07.1444 г., дарожная занатоўка: *"Прыезд з Новага двара, уезд у замак, побыт у ім на працягу некалькіх дзён"* [44]. Як бачым, вандраваў наш Вялікі князь нетаропка, надоўга спыняючыся ў

[39] Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага // Летапісы і хронікі Вялікага княства Літоўскага (XV-XVII ст.). Мінск, 2015. С. 271.

[40] Там жа.

[41] Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. Мінск, 2012. С. 172-173.

[42] Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага. С. 272.

[43] Dlugosz Jan. Roczniki czyli kroniki slawnego krolestwa polskiego. Ksiega 11 i 12 (1431-1444). S. 281-282.

[44] Там жа. S. 61.

мястэчках, каб на месцы вырашаць дзяржаўныя справы.

Вядома, што Казімір Ягелончык наведаў наш горад 15.07.1443 г.[45], 14.07 і 15.07.1444 г. ён быў ў Лідзе *"з усёй сваёй радай"* [46]. Таксама вялікі князь быў у Лідзе 15.07.1446 г.

Неаднаразова быў вялікі князь у мястэчках Лідчыны. Напрыклад 30.08.1444 г., 09.09.1445 г., з 23 па 24.07.1450 г. *"з нашымі князямі і панамі, з нашай вернай радай"* ён знаходзіўся ў Астрыне[47]. Зафіксаваны побыт Казіміра ў Беліцы (03.05.1453 г.)[48], у Дубічах (26.02.1471 г.)[49] і два разы ў Жалудку: 14.05.1451 г. і 26.04.1455 г., у гэты раз у Жалудку было занатавана: *"Выезд з Літвы ў Петрыкаў"* [50].

Пры сваім абранні Казімір абяцаў вярнуць Вялікаму Княству Валынь і Падолле, якія раней адышлі Польшчы і выканаў сваё абяцанне, таксама ў 1444 г. вярнуў у склад ВКЛ Драгічынскую зямлю. Пасля смерці польскага караля Уладзіслава - свайго старэйшага брата, Казімір быў запрошаны на польскі пасад. Але доўгі час не пагаджаўся, бо яго не адпускалі князі і баяры ВКЛ, якія не жадалі нават персанальнай уніі з Польшчай, але пасля ўсё ж пад уплывам маці ён даў згоду. У чэрвені 1447 г. быў абраны каралём Польшчы, але прысягу даў толькі ў 1453 г. Вось як пра гэтыя падзеі напісана ў Хроніцы Быхаўца (у перакладзе на сучасную беларускую мову): *"Быў вялікі князь Казімір сем гадоў князем літоўскім і гаспадарствы ўсе, што ад Вялікага Княства былі залежныя, у цэласці трымаў і ў спакоі, а ўсе тыя землі, якія не хацелі яму паслухмянымі быць, Вялікаму Княству падначаліў і супакоіў. А за тыя сем гадоў паны ляшскія так і не знайшлі караля польскага і вугорскага, брата ягонага, які загінуў яшчэ ў бітве з туркамі, і Карона аўдавела. І, параіўшыся, аднадушна вырашылі яны ўзяць на каралеўскі пасад вялікага князя Казіміра і прыслалі да яго і да паноў літоўскіх сваіх высокіх паслоў: арцыбіскупа гнезненскага, біскупа кракаўскага, пана кракаўскага ды шмат іншых ляшскіх паноў радных - прасіць яго на Карону Польскую. … І стаў Казімір каралём польскім і Вялікім князем літоўскім"* [51].

З 1434 па 1443 гг. лідскім старастам быў сын або ўнук Тахтамыша, апошняя галіна знакамітага роду Чынгісхана - Даўлет Хаджы-Гірэй (Ач-Гірэй). У 1445 г. перакопскія татары прасілі вялікага князя Казіміра даць ім хана, прычым паказвалі на Хаджы-Гірэя, як на нашчадка знакамітых сваіх правадыроў, цалкам годнага заняць гэтае месца. Казіміру прадставіўся выпадак узгадаць веліч і бляск Вітаўтавага двара. У 1446 г. лідскі староста быў выкліканы ў Вільню і тут па старадаўнім звычаі ў прысутнасці татарскіх паслоў і мноства саноўнікаў урачыста апрануты ў ханскую мантыю і абвешчаны ханам Перакопскай арды[52].

У Хроніцы Быхаўца маецца наступны запіс 1447 г.: *"И того ж году прыедут(ь) князи и уланы, и вси мурзы Шырыновские и Багранивские, и от всее орды Перекопское до великого князя Казимира, просячы и чолом бьючы, абы им цара дал на царство, Ач-Кгирея, которы прыехал был з орды до Литвы ешче за великого князя Жыкгимонта, и князь велики Жыкгимонт дал ему Лиду. И князь велики Казимир того цара Ач-Кгирея з Лиды честовавшы и вдаровавшы и во великои его почестности до орды Перекопское на царство послал, и послал с ним, садечы его на царство, маршалка земского Радивила. И Радивил отпровадил его в почестности аж до стольца его до Перекопа, и там его Радивил именем великого князя Казимира посадил на царстве Перекопском. И вси тыи годы за господарства Казимирова и за жывота того цара Ач-Кгирея упокой был межы князством Литовским и ордою Перекопскою, бо был велики прыятель князству Литовскому тот цар Ач-Кгирей …"* [53].

Радзівіл, пра якога ідзе гаворка, гэта Радзівіл Осцікавіч.

Ач-Гірэй, інакш Хаджы-Гірэй - заснавальнік татарскай дынастыі Гірэяў, які стаў пры падтрымцы ўладаў ВКЛ асобным, больш незалежным ад Залатой Арды, перакопскім (крымскім) ханам і кіраваў гэтай прычарнаморскай ардой да 1466 г.

У 1461 г. назіралася вялікая камета: *"Року 1461. Комета великая показалася на небе, межи всходом солнца и полночю, праве полнеба метлою своею заимуючи, през дний 15 была виденая, а то значило пристя татаров, которые по згиненю оной зараз до Литвы и Подоля татаре заволские, мешкаючии за Волгою рекою, з царем своим Меняком преправившися през Днепр и на три войска великие розделившися одны до Литвы, другие на Подоле и до Волох, третие на Волынь. А так Литву, Волохов, Подоле и Волынь, вси панства зобрали и сплюндровали, але и сами нездоровы ушли, бо их Стефан, воевода волоский, наголову поразил и их царя поимал и волохом своим казал розсечи его"* [54].

У 1447 г. Казімір Ягелончык выдаў гэтак званы Казіміраў прывілей, якім пашырыў правы феадалаў ВКЛ, гарантаваў правы ўласнасці на зямлю, вольны

[45] Rutkowska Grazyna. Itinerarium krola Kazimierza Jagiellonczyka. 1440-1492. Warszawa, 2014. S. 66.
[46] Там жа. S. 67.
[47] Там жа. S. 67, 68, 99.
[48] Там жа. S. 118.
[49] Там жа. S. 232.
[50] Там жа. S. 103, 140.
[51] Хроніка Быхаўца. С. 140.
[52] Шымялевіч Міхал. Збор твораў / укл. Л. Лаўрэш. Гродна, 2019. С. 23.
[32] Хроніка Быхаўца // Летапісы і хронікі Вялікага княства Літоўскага (XV-XVII ст.). Мінск, 2015. С. 191.
[54] ПСРЛ. Т. 32. С. 214.

выезд за мяжу, права судзіць залежных ад іх людзей. У гэтым прывілеі прадугледжвалася, што зямлю і дзяржаўныя пасады ў ВКЛ маглі атрымліваць толькі мясцовыя феадалы. Пры Казіміры вырасла роля паноў-рады[55] і ўзмацніўся яе ўплыў на дзейнасць Вялікага князя. Пры вялікім князі і каралі Казіміры распачалося палітычнае панаванне шляхецкага стану.

У 1454 г. Казімір ажаніўся з Альжбэтай, дачкой памерлага германскага караля Альбрэхта II, сужэнцы мелі трынаццаць дзяцей.

У 1457 г. вялікі князь выдаў прывілей, паводле якога жыхары ВКЛ маглі вольна выязджаць за мяжу (за выключэннем варожых краін) у тым ліку і для набыцця адукацыі. Як адукаваны чалавек, ён разумеў абсалютную важнасць адукацыі і нават аказваў з дзяржаўнага скарбу матэрыяльную дапамогу студэнтам. Менавіта тады на Лідчыне з'явіліся асобы з еўрапейскай універсітэцкай адукацыяй.

У 1468 г. Казімір выдаў Судзебнік, першую спробу кадыфікацыі крымінальнага і працэсуальнага права ВКЛ. У 1471 г. ён юрыдычна ліквідаваў удзельныя княствы.

Вялікі князь Казімір княжыў 52 гады і ў асноўным гэта былі спакойныя гады, у якія належным чынам развівалася наша дзяржава.

*"… кароль Казімір … з большай ахвотай жыў у Вялікім Княстве, чым у Ляхах, бо ў Літве вельмі ловы раскошныя - шмат розных звяроў, якіх ні ў адным іншым гаспадарстве няма, а кароль Казімір вельмі ловы любіў".* Незадоўга перад смерцю, ён *"… паехаў у Польшчу і быў там год, і вярнуўся ў сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, у Вільню, і быў там год, а пасля разнямогся і загадаў адвезці яго да Горадні, бо там вельмі любіў жыць дзеля раскошных ловаў і ўсякіх пажыткаў.*

*Будучы ў Горадні, ён зразумеў, што ўжо з тае хваробы выйсці не зможа, і ён паклікаў да сябе сваіх паноў-раду Вялікага Княства Літоўскага ў ложніцу, дзе ён адпачываў, і пачаў прасіць іх умільна і пакорліва, каб паны-рада ўзялі сабе гаспадаром на Княства Літоўскае яго сярэдняга сына, каралевіча Аляксандра. І паны-рада, … пагадзіліся…*

*Пасля таго кароль Казімір паклікаў да сябе паноў ляшскіх, … і тое ж мовіў ім, патрабуючы імем каралеўскім, каб паны-рада Кароны Польскае не пакінулі без увагі астатняе просьбы гаспадара свайго ды ўзялі пасля яго смерці гаспадаром сабе на Карону Польскую яго старэйшага сына - каралевіча Ольбрахта. І паны ляшскія абяцалі прасіць аб гэтым усіх пралатаў і паноў польскіх. … І, мудра ўладзіўшы дзяржаўныя справы, там жа, у Горадні, жыццё сваё ў глыбокай старасці скончыў. Было гэта ў чацвер, за тыдзень да Божага ўзнясення.*

*У год ад Божага нараджэння 1492 месяца траўня 24 дня, перад сёмаю суботаю, узялі яго цела, адвезлі да Кароны Польскае, у горад Кракаў і паклалі ў замку, у касцёле святога Станіслава, у капліцы, якую ён сам пабудаваў. Там жа і ўдава ягоная Альжбета пасля яго смерці нейкі час жыла і па смерці сваёй была пахаваная ў той самай капліцы"* [56].

Трэба расказаць пра сына Казіміра Ягелончыка, польскага каралевіча і вялікага княжыча літоўскага, Казіміра Казіміравіча - святога Казіміра (1458-1484).

З дзяцінства будучы вялікі князь і кароль Казімір быў міралюбным і набожным. Яго адукацыяй займаліся дыпламат і гісторык Ян Длугаш і італьянскі паэт і гуманіст Філіп Калімах. Выбар настаўнікаў быў не выпадковы, бо Казіміра рыхтавалі да кіравання дзяржавай.

Будучы святы хварэў на сухоты і даўшы зарок цнатлівасці, адмовіўся ад шлюбу з дачкой германскага імператара Фрыдрыха III. У траўні 1483 г. па выкліку бацькі ён прыехаў у Вільню, дзе сваёй дабрачыннасцю заслужыў павагу гараджан. На Каляды 1483 г. наведаў Гародню і тут яго здароўе істотна пагоршылася, 01.03.1484 г. у цяжкім стане перавезены ў Вільню, дзе і памёр.

Амаль што адразу пасля смерці Казіміра пачалося яго шанаванне, і з 1613 г. ён прызнаецца заступнікам Вялікага Княства Літоўскага, а з 1636 г. - таксама і заступнікам Польшчы.

На тэрыторыі гістарычнай Лідчыны, мы маем цудатворны абраз Маці Божай Тракельскай, якая знаходзіцца ў галоўным алтары касцёла Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў вёсцы Тракелі. Тракелі традыцыйна належалі да Ашмянскага павета, але ў 1920-30-х гг. нейкі час былі часткай Лідчыны.

Першы ўспамін пра Тракелі знаходзім ў лісце князя Жыгімонта Кейстутавіча, якім ён у 1433 г. пацвердзіў Яну Гаштольду маёмаснае права на цэлы шэраг розных двароў і вёсак, у тым ліку на Новы Двор і Тракелі. Маёмасць Гаштольдаў пасля смерці астатняга ў родзе - Станіслава Гаштольда, віленскага ваяводы, па тагачасным праве адышла да караля Жыгімонта I, які ў 1543 г. дараваў яе каралевічу Жыгімонту Аўгусту.

Лічыцца, што парафіяльны касцёл у Тракелях закладзены ў 1500 г. віленскім ваяводам Марцінам Гаштольдам. Аднак Марцін Гаштольд быў толькі троцкім ваяводам і памёр у 1483 г., ягоны сын Альбрыхт Гаштольд быў віленскім ваяводам у 1522-1539 гг. і таму, гледзячы на гэтую інфармацыю, дата заснавання касцёла застаецца пад пытаннем. Падчас вайны, у 1655-1659 гг. тракельскі касцёл быў знішчаны і адбудаваны езуітамі каля 1674 г., верагодна ў 1687 г. высвечаны віленскім біскупам-суфраганам Уладзіславам Сільніцкім. У 1758 г. езуіты, вераемна, пасля пажару касцёла зноў адбудавалі яго і высвецілі пад тытулам Visitationis Beatae

[55] Рада Вялікага Княства Літоўскага (таксама Паны-Рада) - найвышэйшы орган дзяржаўнай улады Вялікага Княства Літоўскага ў XV - першай палове XVI ст.

[56] Хроніка Быхаўца // Беларускія летапісы і хронікі. Мінск, 1997. Т. 32. С. 146-147.

Mariae Virginis. Аднак тады касцёл стаяў у паўночнай частцы вёскі, прыкладна за 500-600 м ад цяперашняга, каля шашы на Ліпнішкі.

Сучасны драўляны касцёл пабудаваў у 1809 г. Стэфан Незабытоўскі. Грунтоўна яго рэстаўраваў адміністратар Тракелькай парафіі ксёндз Юзаф Сідорскі ў 1866 г.[57]

Згодна з легендай, абраз Маці Божай Тракельскай быў намаляваны ў канцы XVI ст., калі культ св. Казіміра яшчэ толькі нараджаўся, абраз, прывезены з Вільні ў 1595 г. і здаўна славіўся шматлікімі цудамі. Невядомы віленскі мастак стварыў прыгожы і высакародны вобраз Маці Божай з Дзіцяткам. Па характары вобразаў яго можна параўнаць з абразом 1640 г. віленскага мастака фламандскага паходжання Пенса ў Святой Ліпцы, што ў Варміі (Польшча). У другой палове XVII ст., магчыма, каля 1664 г., абраз Маці Божай з Дзіцяткам быў дапоўнены выявай укленчанага св. Казіміра з ружанцам у руках. Сваёй правай далонню Марыя ахапіла левую руку, якая трымае Божага Сына. З правага боку ад яе ўкленчыў св. Казімір з ружанцам у руках - заступнік Вялікага Княства Літоўскага. Выява Маці Божай была намалявана на асобным палатне і даклеена да асноўнага падчас першай рэстаўрацыі абраза ў другой палове XVII ст. Магчыма, гэта звязана з кананізацыяй святога.

У 1994 г. Гарадзенскі ардынарый Аляксандр Кашкевіч зрабіў касцёл у Тракелях дыяцэзіяльным санктуарыем, свята цудатворнага абраза адзначаецца ў першую нядзелю ліпеня. 5 ліпеня 2009 г. адбылася ўрачыстая каранацыя абраза папскімі каронамі, акт каранацыі здзейсніў кардынал Казімір Свёнтак.

З невялікімі скаротамі, прывожу мой пераклад цікавага артыкула гісторыка Валяр'яна Харкевіча, у якім апавядаецца пра кананізацыю св. Казіміра.




***Св. Казімір, абраз віленскай катэдры, каля 1520.***

### "Урачыстасці падчас кананізацыі Св. Казіміра ў Вільні[58]

Калі пры святле дня 4 сакавіка 1484 г. свае вочы заплюшчыў каралевіч Казімір, паўсюдная жалоба, боль і смутак ахінулі ўсю Польшчу і Літву. І адначасова нарадзілася вера, што каралевіч, якому не было дадзена ўзяць скіпетр на зямлі, возьме скіпетр уладара душ, стане патронам і заступнікам Літвы.

Ужо пры жыцці каралевіча яго называлі святым, і ніхто не сумняваўся, што пасля развітання з гэтым светам ён яшчэ мацней злучыцца з народам, які адчуваў у Казіміры святасць, шчыра і глыбока шанаваў яго. Шчырыя малітвы, якія ішлі з глыбіні сэрцаў, атачалі труну святога. Каб падаць прыклад падпарадкавання Божай волі і ўказаць як належыць паводзіць самаму вернаму слузе Найсвяцейшай Панны, яго бацька, Казімір Ягелончык разам з жонкай Альжбетай і сынамі Янам Альбрэхтам, Жыгімонтам і Фрыдрыхам, запісаліся ў шэрагі брацтва Найсвяцейшай Панны пры Кракаўскім касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.

Пасля пахавання ў каралеўскай капліцы віленскай катэдры, магіла каралевіча стала месцам пілігрымак. На ёй здзяйсняліся цуды.

Таму нічога дзіўнага, што распачаліся намаганні аб кананізацыі каралевіча. Браты святога Казіміра, каралі Аляксандр і потым Жыгімонт І, - у 1501 і 1520 гг. дасылалі ў Рым слыннага пралата (потым біскупа) і знакамітага дыпламата Эразма Цёлка.

Папа Леў X цалкам зычліва паставіўся да справы кананізацыі каралевіча і вызначыў адмысловую камісію, каб даследаваць справу і падрыхтаваць матэрыялы да кананізацыі. На працягу года гэтая камісія закончыла сваю працу, і ў 1521 г. на тайнай кансісторыі папа далучыў Казіміра да ліку святых.

Акт кананізацыі быў зацверджаны адпаведнымі дакументамі, якія атрымаў біскуп Эразм Цёлак. Здавалася, справа атрымала добры вынік, але здарылася няшчасце, якое адклала кананізацыю Казіміра амаль што на 80 гадоў. Біскуп Цёлак раптоўна памёр у Рыме - ён стаў ахвярай эпідэміі, лютаваўшай у той час у Еўропе. Дакументы, якія ён меў (а гэта былі арыгіналы) зніклі, і таму трэба было зноў аднаўляць высілкі ў тым жа

[57] Шымялевіч Міхал. Дворышча і Тракелі // Лідскі летапісец. 2016. №2(74). С. 35-38.
[58] Charkiewicz W. Uroczystosci kanonizacyjne sw. Kazimierza w Wilnie // Kurier Nowogrodzki. № 62, 3 marca 1933.

кірунку, тым больш, што розныя перашкоды не дазволілі хутка апекавацца гэтай важнай справай. Надышлі бурлівыя часы Рэфармацыі, якая гэтак адзначылася ў Літве. Час быў змарнаваны.

Толькі Жыгімонт III аднавіў высілкі ў Рыме праз дасланага туды энергічнага віленскага каноніка кс. Рыгора Свянціцкага. У 1602 г. папа Клімент XIII, які ў свой час быў легатам у Рэчы Паспалітай і добра арыентаваўся ў нашых справах, загадаў Святой Калегіі знайсці акт кананізацыі, каб нарэшце агалосіць гораду і міру далучэнне дабраславёнага Казіміра да ліку святых і ахвяраваў дасканалую харонгву (абраз) з выявай святога.

З гэтай харонгваю, з булай аб кананізацыі і рознымі дарамі кс. Свянціцкі шчасліва вярнуўся ў Вільню 10 траўня 1603 г. Запанавала агульная радасць, усе прагнулі ўрачыстага святкавання ў гонар новага Патрона, але на гэтых урачыстасцях меў жаданне прысутнічаць сам кароль Жыгімонт III, і таму арганізацыя свята вымагала вялікай падрыхтоўкі. Прайшоў цэлы год, перш чым віленскі біскуп Бенедыкт Война прызначыў свята на 10 траўня 1604 г.

Аднак кароль не змог прыехаць у Вільню і даручыў канцлеру Льву Сапегу рэпрэзентаваць сваю асобу.

Каб уся Вільня магла ўзяць удзел ва ўрачыстасцях і стаць сведкам дасканалага святкавання, пачаткам свята быў выбраны выхад з касцёла св. Стэфана, які да таго часу толькі што пабудавалі (у 1600 г.) на складкі, сабраныя кс. Шымонам Высоцкім. У касцёле была пастаўлена харонгва, падараваная папам і сюды пацягнуўся натоўп, сфармаваны перад катэдрай. Першымі ішлі рамеснікі, купцы і віленскія месцічы з харонгвамі і абразамі. Рамеснікі, па колькасці цэхаў, стварылі 32 аддзелы, а купцоў было вельмі шмат. За імі ішла прыгожа ўбраная начная варта, узброеная сякерамі і алебардамі. Потым, замыкаючы першую паходную калону, ішлі вучні пачатковай школы касцёла св. Яна.

Наступнымі ішлі брацтвы, ордэны і белае духавенства, якое ўзначальваў віленскі пробашч з вялікай колькасцю асістэнтаў. Пяць брацтваў ішлі незвычайна прыгожа: гэта былі брацтвы Прасвятога сакраманту, патронам якога быў Св. Дыянізі, брацтва краўцоў пад апекай Ваўжынца і Крыштафа, брацтва рымараў Св. Яна Евангеліста, брацтва слесараў Св. Барталамея і таксама брацтва шаўцоў, якое знаходзілася пад апекай Св. Ганны.

Потым ішла супольнасць віленскіх выкладчыкаў, за імі ішлі ордэны: бернардыны, францішканы, абутыя кармеліты, дамініканы з брацтвамі індывідуальных манахаў, а таксама моладзь катэдральнай школы з пяццю харонгвамі.

Нарэшце, за імі ішоў белы клір - першымі ішлі ўніяты на чале з двума архімандрытамі, за імі лацціннікі з усёй дыяцэзіі. Потым - аркестр, "жаўнеры св. Казіміра" - маладыя людзі, прыбраныя рыцарамі ці анёламі з лілеямі ў руцэ. За імі віленская капітула з біскупамі Пацам і Войнам.

За духавенствам ішлі літоўскія магнаты ў атачэнні вялікай колькасці рыцарства і шляхты. Агульную ўвагу на сябе звярталі самыя знакамітыя дамы, якія падкрэсліваючы сваю сціпласасць і пабожнасць, ішлі закрыўшы твары і пераважна босыя.

Гэтыя калоны перайшлі мост, які злучаў катэдральны пляц з Замкавай вуліцай (бо ў той час Віленка цякла каля сучаснай Каралеўскай вуліцы праз пляц і далей - сучаснай вуліцай Арсенальскай), - і прамой дарогай скіраваліся да касцёла св. Стэфана, дзе з прыгожымі прамовамі выступіў кс. Рыгор Свянціцкі, які ўручыў Льву Сапегу харонгву, ахвяраваную папам - Леў Сапега прэзентаваў караля.

Пасля кароткага перапынку і адпачынку людзі зноў пашыхтаваліся ў калоны і выступілі ў бок катэдры. Асабіста канцлер Леў Сапега нёс харонгву св. Казіміра.

Рудніцкая брама, праз якую трэба было прайсці, з фронту была дэкаравана і ўпрыгожана накшталт птушкі, якая ляціць. Насустрач калонам з гэтай брамы выйшла жанчына ў жалобе, яна сімвалізавала сумную Вільню ў роспачы, бо да гэтага часу харонгва яшчэ не аздобіла магілы св. Казіміра і горад не можа яшчэ цешыцца і радавацца свайму святому Патрону. Пра гэта абвяшчалі анёлы з ружамі ці лілеямі ў руках, але праз нейкі час яны пачалі абвяшчаць радасную вестку пра надыход доўгачаканай хвіліны - набліжэнне харонгвы з выявай святога да яго магілы. Жанчына-Вільня ўбачыла натоўпы, пазнала харонгву з выявай святога і, шчаслівая, скінула з сябе жалобныя шаты. У каралеўскіх строях яна вітала радасныя калоны вільнян.

Уласна ў гэты час, калі пад гукі аркестра Леў Сапега пранёс харонгву праз браму, раптоўна ў небе з'явіўся бусел. Зрабіўшы круг, ён знізіўся і апусціўся на харонгву. Здзіўлены народ бачыў, як потым ён узляцеў і знік у далечыні.

Другая, адмыслова пабудаваная брама, знаходзілася на рынку па левы бок ад ратушы. Яна была аздобленая гербамі і эмблемамі, на ёй меліся надпісы, якія навучалі, як праз цнатлівае жыццё наблізіцца да святога патрона. Каля гэтай брамы чакалі 4 постаці і вялі паміж сабой дыялог - яны сімвалізавалі мужнасць, стрыманасць, разважлівасць і справядлівасць.

На Замкавай, каля муроў Акадэміі, за кошт Акадэміі была пабудавана трыумфальная арка. Спаткаць працэсію выйшла постаць Акадэміі ў атачэнні навук: Тэалогіі, Філасофіі, Філалогіі, Красамоўства, Паэтыкі, Гісторыі і Граматыкі[59]. Тут адбыўся дыялог на латыні.

Апошняя трыумфальная арка была пабудавана капітулай каля катэдры. Каля гэтай брамы постаці ў выглядзе анёлаў-вартаўнікоў сямі віленскіх храмаў (катэдры, св. Тройцы, св. Духа, св. Крыжа, Найсвяцейшай Панны (на Пясках), св. Яна і св. Францішка) агаласілі гімны ў гонар св. Казіміра.

Свята закончылася ўрачыстым набажэнствам у катэдры і спевам Te Deum".

---

[59] Навукі так званага трывіюма - *Л. Л.*

*Леанід Лаўрэш*

# Святары Лідчыны розных канфесій у 1920-30-я гг.

Я вырашыў усё ж надрукаваць артыкул, бо гэтыя матэрыялы пра святароў першай траціны XX ст. ляжалі ў мяне працяглы час.

Першая частка датычыць толькі праваслаўных святароў, якія, стаўшы прыватным пасам беларускага бежанства, таксама і самі пакінулі радзіму.

Другая частка - цікавейшы матэрыял з архіва лідскай польскай паліцыі, ён датычыць святароў усіх канфесій, якія ў той час дзейнічалі на Лідчыне. Спісы падпісаны камендантам (начальнікам) дзяржаўнай паліцыі Лідскага павета (каталіцкае і праваслаўнае святарства) і часова замяшчаўшым пасаду каменданта павета, аспірантам Яскарынскім (іудзейскае і магаметанскае духавенства).

Цікавымі ў гэтым спісе, з'яўляюцца ацэнкі маральных і палітычных якасцяў духоўных асобаў і наяўнасць у іх польскага грамадзянства. Вось некаторыя цікавосткі з паліцэйскага спісу

**Рыма-каталіцкія святары:**

Палітычна добранадзейным запісаны беларускі ксёндз **Міхал Шалкевіч**[1] з Тракеляў.

У спісе паліцыянты адзначалі ксяндзоў-летувісаў, гэта былі:

- Ксёндз **Матрынеліс Баляслаў**, пробашч у Воранаве ў 1927 г., меў летувіскае грамадзянства, але ў 1927 г. гэта яшчэ не выклікала падазрэнняў, і таму ён таксама запісаны як *"Палітычна і маральна добранадзейны"*.

- Пробашч у Асаве з 17.11.1924 г. **Шпакоўскі Міхал**, *"быў грамадзянінам Летувы, ні да якай партыі не належыць, выпісвае "Летувіскую Газету", сярод мясцовага насельніцтва мае здавальняльную добранадзейнасць, прыхільны да летувіскіх вернікаў"*.

- А пра ксёндза-пробашча з Пелясы **Бальтазара Будрэцкага** напісана наступнае: *"Летувіс, мае асабістае пасведчанне аб грамадзянстве выдадзенае Наваградскім ваяводствам. Палітычна і маральна нядобранадзейны. Варожы да Польшчы і прыхільны да Летувы"*.

- Пробашч у Беняконях **Дубецiс Юзаф** *"маральны, але палітычна прыхільны да Летувы, падтрымлівае ўсё летувіскае"*.

Ксяндзы польскай нацыянальнасці не маюць заўваг да добранадзейнасці, але некаторыя з іх у 1927 г. яшчэ не мелі польскага грамадзянства. Верагодна, гэтак склалася з-за складанасцяў у заканадаўстве аб наданні грамадзянства. Праблемай, напрыклад, станавілася тое, што асоба нарадзілася не на тэрыторыі 2-й РП і толькі пасля Першай сусветнай вайны пераехала ў Польшчу.

Не меў польскага грамадзянства палітычна добранадзейны ксёндз-пробашч **Серафін Баляслаў** з Жалудка, ён, з 1919 г. жывучы ў Жалудку, да 1927 г. грамадзянства яшчэ не атрымаў. Таксама не грамадзянамі былі і палітычна добранадзейныя: вікарый у Лідзе ксёндз **Гечыс Казімір**, пробашч у Беліцы ксёндз **Казімір Грынеўскі** і пробашч у Шчучыне **Ян Барэль**.

**Праваслаўныя святары:**

**Уладзімір Кудасаў** з Голдава: *"Рускі, не мае польскага грамадзянства. Да маральнага стану заўваг няма, палітычна не пэўны, непрымальны для польскай улады, перакананы вораг каталіцкага касцёла"*. Заўважу, што гэты Кудасаў да Першай вайны не служыў у нашым краі, што не перашкодзіла яму быць актыўным ганіцелям пратаіерэя а. Марка Ячыноўскага з Дзікушак, калі той перайшоў у унію[2].

Цікава пазначаны святар з Дакудава **Ян Аляхновіч**, ён запісаны як паляк, які пры гэтым дрэнна ставіцца да палякаў.

Зусім дрэнна з **Мікалаем Мышкоўскім** з Дэмбрава, ён *"мае польскае грамадзянства. Рускі нацыяналіст, прыхільны да беларускага руху. Да Польшчы ставіцца лаяльна толькі з-за магчымасці пакарання. Алкаголік"*. Першы раз чую пра рускага нацыяналіста, які *"прыхільны да беларускага руху"*, але калі чалавек добра п'е, дык ад яго можна чакаць што заўгодна.

А вось **Кірыл Ленька** з Турыйска не можа не выклікаць нашай павагі: *"Да маральнага стану заўваг няма, але палітычна інтэнсіўна працуе на тле фармавання беларускага грамадства"*. Паболей бы такіх святароў у той час.

**Ян Жарскі** *"фіктыўна прыпісаны да царквы ў Лябёдцы, ... раней у Мураванцы, мае пасведчанне аб польскім грамадзянстве, выдадзенае Вілейскім старостам. Да маральнага стану заўваг няма, але палітычна з'яўляецца ворагам Польшчы"*.

Адзначу, што гэтыя ацэнкі паліцыі не перашкодзілі Кудасаву, Аляхновічу, Мышкоўскаму і Леньку атрымліваць грашовую дапамогу ад дзяржавы, за сакавік і красавік 1926 г. Кудасаў атрымаў 80 злотых, усе астатнія - па 65[3]. У гэтым спісе няма Жарскага, што

---

[1] Гл. пра яго: Марцішэўская Ангеліна. Апостал беларускай мовы // Слова Жыцця. №11(586), 29 мая 2022.

[2] Гл: Лаўрэш Леанід. Неаунія ў Дзікушскай царкве Лідскага павета ў 1925 г. // Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. Варшава, 2019. № 5. С. 78-90.

[3] Загідулін А. М. Беларускае пытанне ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.). Гродна, Гродна, 2010. С. 163.

зразумела - ён не меў прыхода. Такая дапамога святарам у той час была сталай з'явай.

Шмат праваслаўных святароў яшчэ не мела на той час польскага грамадзянства.

**Іудзейскае духавенства.**

Абсалютная большасць іудзейскага духавенства на 1927 г. не мела польскага грамадзянства. Але ніхто з іх не меў праблем з палітычнай добранадзейнасцю, што цалкам зразумела, бо гэтая частка насельніцтва Лідчыны ў той час жыла сваім асобным культурным і палітычным жыццём.

**Магаметанскага духавенства.**

Дзве асобы магаметанскага духавенства, які ў той час жылі на тэрыторыі Лідчыны, не мелі праблем з палітычнай добранадзейнасцю.

**Лідскія праваслаўныя святары, якія эвакуяваліся на ўсход у 1915 г.**

Спіс складзены на 1916 г.

1. Беліцкай царквы святар **Мікалай Валкоўскі**. Звянігарад, Моск. губ., Звянігарадскі манастыр.

2. Баброўскай царквы святар **Ф. Хіла**, г. Беляў, Тульскай губ., гасцініца жаночага манастыра.

3. Васілішскай царквы святар **Васіль Харла**п, ст. Плісы, Дзісненскага пав., Віцебскай губ.

4. Голдаўскай царквы святар **Міхаіл Чаброўскі**, г. Арол, Сітнікаўскай вул., дом Успенскай царквы.

5. Ганчарскай царквы святар **Пётр Семянтоўскі**, г. Растоў, Яраслаўскай губ., Аўрамеяў манастыр, кв. свят. Чарапіна.

6. Глыбокскай царквы Лідскага пав. святар **Сахараў**, мястэчка Ільянец, Ліпавецкага уезда, Кіеўскай губерні, кв. мясцовага святара.

7. Дэмбраўскай царквы, увесь прычт, г. Гомель, Магілёўскай губ., Стасенкоўская вул., дом 5, Новікава.

8. Дзікушскай царквы святар **М. Плаўскі**, г. Арол, мужчынскі манастыр, дом архірэя.

8. Дакудаўскай царквы святар **М. Трушынскі**, паштовае ад. Початава, Цвярской губ., у вёску Слабодку.

9. Жыжмянскай царквы святар **Нікіфароўскі**, ст. Балагое Мікалаеўскай чыгункі, Набярэжная вул., дом святара Канкордзіна[9].

10. Лідскі дабрачынны **Скальскі**, ст. Пясочнае, Яраслаўскай губ., вёска Нікольскае на Плесні.

11. Лідскі наглядальнік царкоўных школ, святар **Панкратаў**, Петраград, Лаўра.

12. Лідскага сабора протаіерэй **Каяловіч**, г. Петраград, Кабінетная вул., дом 9, кв. прафесара Тэхналагічнага інстытута Б. М. Каяловіча.

13. Лідскага сабора святар **Іаан Цэбрыкаў**, г. Ліпецк, Тамбоўскай губ.

14. Лебёдскай царквы святар **І. Нядзельскі**, мястэчка Азарычы Бабруйскага павета, Мінскай губ., паштовая ст. Азарычы.

15. Маламажэйкаўскай царквы святар **Леў Савіцкі**, г. Вялікія Лукі, Петраградская вул., дом Румянцавай.

16. Астрынскай царквы святар **Іаан Давідовіч**, г. Петраград, Петраградская старана, Малы Праспект, дом 81, кв. 5.

17. Астрынскай царквы святар **С. Мілаванаў**, г. Беляў, Тульскай губ., Уваскрасенскі завул., дом Е. Самазванцавай.

18. Пакроўскай (Сабакінскай - *Л. Л.*) царквы святар **Крукоўскі**, г. Магілёў на Дняпры, Быхаўскай вул., дом 18, будынак чыгуначнай вучэльні.

19. Радзівонішскай царквы святар **Е. Троіцкі**, г. Ржэў, Цвярской губ. Троіцкая вул., кв. Івановай.

20. Ракавіцкай царквы протаіерэй **Якаў Баліцкі**, г. Дзмітрыеў, Курскай губ., 3-я Слапская вул., дом М. В. Каменскай[5].

21. Турэйскай царквы святар **Ержыкоўскі**, паштовае ад. Глушкова, Рыльскага уезда, Курскай губ. вёска Ржаву.

22. Шчучынскі дабрачынны **Фляроў**, ст. Катлаван, Вышневалочнага ўезда, Цвярской губ., вёска Ліпны[6].

**Паліцэйскі спіс святароў Лідчыны на 1927 г.**

**Спіс рыма-каталіцкіх святароў Лідскага павета[7]:**

1. **Баярунец Гіпаліт**, ксёндз-дэкан з 03.10.1919 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

2. **Шчамёскі Станіслаў**, пробашч у Радуні з 01.07.1924 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

3. **Пясцюк Францішак**, пробашч у Ваверцы з 06.11.1919 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

4. **Харолка Шчэпан**, пробашч у Белагрудзе з 13.11.1924 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

5. **Макрэцкі Ян**, пробашч у Дэмбраве з 24.12.1926 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

6. **Сабалеўскі Юзаф**, пробашч у Крупе (Крупаве - *Л.Л.*) з 14.04.1923 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

7. **Раманоўскі Вацлаў**, пробашч у Тракелях з 20.05.1922 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

8. **Шалкевіч Міхал**, пробашч у Тракелях з 14.03.1922 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

9. **Матрынеліс Баляслаў**, пробашч у Воранаве (у 1927 г. гэтаму мястэчку яшчэ не вярнулі яго адвечную назву Вярэнаў - *Л. Л.*), мае летувіскае грамадзянства, Палітычна і маральна добранадзейны.

10. **Абаровіч Нікадзім**, пробашч у Бутрыманцах з 13.04.1907 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

11. **Рудзіч Міхал**, пробашч у Калесніках з 1903 г.

---

[4] Адреса эвакуированного духовенства и учреждений // ЛЕВ. 1916. № 2. С. 7-8.

[5] Адреса эвакуированного духовенства и учреждений // ЛЕВ. 1916. № 3. С. 11-12.

[6] Адреса эвакуированного духовенства и учреждений // ЛЕВ. 1916. № 4. С. 16.

[7] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 179-184.

Палітычна і маральна добранадзейны.

12. **Мароз Ян**, пробашч у Ражанцы з 12.06.1912 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

13. **Жаброўскі Тамаш**, пробашч у Суботніках з 20.09.1908 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

14. **Адрух Максіміліян**, пробашч у Шчучыне з 01.07.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

15. **Грынеўскі Станіслаў**, пробашч у Лацку з 03.05.1924 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

16. **Красадомскі Баляслаў**, пробашч у Ішчалне з 23.09.1924 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

17. **Серафін Баляслаў**, пробашч у Жалудку з 08.07.1919 г. Не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

18. **Халява Казімір**, пробашч у Новым Двары, з 1920 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

19. **Чаплоўскі Павел**, вікарый у Жалудку з 08.08.1924 г., мае асабістае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае Віленскім магістратам. Палітычна і маральна добранадзейны.

20. **Гечыс Казімір**, вікарый у Лідзе з 30.08.1927 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

21. **Лукашэвіч Аляксандр**, вікарый у Іўі з 1915 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

22. **Марончык Эдвард**, вікарый у Забалаці з 1927 г., мае асабістае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае Віленскім магістратам. Палітычна і маральна добранадзейны.

23. **Градзіс Адольф**, вікарый у Эйшышках з 30.08.1927 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

24. **Ратынскі Францішак**, ксёндз-дэкан у Васілішках з 1912 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

25. **Корн Баляслаў**, пробашч у Сабакінцах з 1924 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

26. **Войдаг Яраслаў**, пробашч у Ліпнішках з 31.03.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

27. **Сідорскі Вінцэнт**, пробашч у Дудах з 1906 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

28. **Казёл Юзаф**, пробашч у Гаўі з 1924 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

29. **Хлявінскі Юзаф**, пробашч у Геранёнах з 28.04.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

30. **Шпакоўскі Міхал**, пробашч у Асаве з 17.11.1924 г. Быў грамадзянінам Летувы, ні да якай партыі не належыць, выпісвае "Летувіскую Газету", сярод мясцовага насельніцтва мае здавальняльную добранадзейнасць, прыхільны да летувіскіх вернікаў.

31. **Вяржбоўскі Стэфан**, пробашч у Жырмунах з 07.08.1924 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

32. **Мачульскі Баляслаў**, пробашч у Эйшышках з 1901 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

33. **Заштаўт Яўген**, пробашч у Падборы (Эйшышская гміна) з 1901 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

34. **Грынеўскі Казімір**, пробашч у Беліцы з 03.05.1924 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

35. **Мікульскі Станіслаў**, пробашч у Ельні з 23.04.1923 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

36. **Здановіч Эдвард**, пробашч у Няцечы з 10.12.1912 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

37. **Будрэцкі Бальтазар**, пробашч з Пелясы. Летувіс, мае асабістае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае Навагрэдскім ваяводствам. Палітычна і маральна нядобранадзейны. Варожы да Польшчы і прыхільны да Летувы.

38. **Абаровік Крыштаф**, пробашч у Іўі з 1912 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

39. **Матулевіч Ян**, пробашч у Старых Васілішках з 18.03.1902 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

40. **Дубеціс Юзаф**, пробашч у Беняконях з 04.04.1925 г. Маральны, але палітычна прыхільны да Летувы, падтрымлівае ўсё летувіскае.

41. **Крывец Ян**, вайсковы капелан-побашч у Лідзе з 1924 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

42. **Казлоўскі Фердынанд**, рэктар у Лідзе (у піяраў - *Л.Л.*) з 16.04.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

43. **Наперач Францішак**, прэфект у Лідзе (у піяраў - *Л.Л.*) з 17.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

44. **Добжскі Зыгмунт**, з 01.02.1924 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

45. **Кісель Уладзіслаў**, з 01.10.1921 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

46. **Байкевіч Пётр**, пробашч у гуце Нёман з 01.08.1924 г., мае асабістае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае старостам у Дзісне. Палітычна і маральна добранадзейны.

47. **Барэль Ян**, пробашч у Шчучыне з 01.09.1927 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

48. **Ліпец Юзаф**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

49. **Сасіноўскі Уладзіслаў**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

50. **Парух Войцех**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

51. **Патрыкоўскі Уладзіслаў**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

52. **Плябанчык Ян**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

53. **Буяк Францішак**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

54. **Бнушка Францішак**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

55. **Валадарчык Францішак**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

56. **Кастылёк Юліюш**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

57. **Буба Станіслаў**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

58. **Бялат Антон**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

59. **Стэхель Марцін**, з 19.08.1927 г. законнік у

кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

60. **Дзядзё Людвік**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

61. **Макшыцкі Раман**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

62. **Шчэпаняк Уладзіслаў,** з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

63. **Мышкоўскі Францішак**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

64. **Тэсь Ян**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

65. **Мітрась Зыгмунт**, з 19.08.1927 г. законнік у кляштары піяраў. Палітычна і маральна добранадзейны.

**Спіс кандыдатаў у кляштары айцоў піяраў у Шчучыне Лідскім:**

66. **Скарынскі Аляксандр**, кандыдат з 19.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

67. **Пасыга Ян**, кандыдат з 19.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

68. **Руць Міхал**, кандыдат з 19.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

69. **Бухач Станіслаў**, кандыдат з 19.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

**Спіс работнікаў у кляштары айцоў-піяраў у Шчучыне Лідскім:**

70. **Спэркач Базыль**, работнік з 19.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

71. **Асоўскі Ян**, з 19.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

72. **Невядоўскі Ян**, з 19.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

73. **Мыша Шымон**, з 19.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

74. **Рыбчынскі Тадэвуш**, з 19.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

75. **Бярчынскі Антон**, з 19.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

76. **Фрэйзер Барталамей**, з 19.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

77. **Сала Вінцэнт**, з 19.08.1927 г. Палітычна і маральна добранадзейны.

**Спіс праваслаўных святароў Лідскага павета[8]:**

1. **Жданаў Уладзімір**, пробашч у Лідзе з 1927 г., мае польскае грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

2. **Кудасаў Уладзімір**, пробашч у Голдаве з 17.12.1924 г., рускі, не мае польскага грамадзянства. Да маральнага стану заўваг няма, палітычна няпэўны, непрымальны для польскай улады, перакананы вораг каталіцкага касцёла.

3. **Жаброўскі Барыс**, пробашч у Дзікушках з 11.09.1925 г., мае польскае грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

4. **Шыкаловіч Шымон**, пробашч у Лебядзе з 19.03.1922 г., мае пасведчанне аб польскім грамадзянстве, выдадзенае Лідскім староствам. Палітычна і маральна добранадзейны.

5. **Аляхновіч Ян**, пробашч у Дакудаве з 1924 г., паляк, мае пасведчанне аб польскім грамадзянстве, выдадзенае Лідскім староствам. Да маральнага стану заўваг няма, але ў палітычным сэнсе дрэнна ставіцца да палякаў.

6. **Мышкоўскі Мікалай**, пробашч ў Дэмбраве з 20.05. 1920 г., мае польскае грамадзянства. Рускі нацыяналіст, прыхільны да беларускага руху. Да Польшчы ставіцца лаяльна толькі з-за магчымасці пакарання. Алкаголік.

7. **Галянкевіч Мікалай**, пробашч у Орлі з 29.04.1925 г., мае польскае грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

8. **Ленька Кірыл**, пробашч у Турыйску з 25.06.1925 г. Да маральнага стану заўваг няма, але палітычна інтэнсіўна працуе на тле фармавання беларускага грамадства.

9. **Лебядзевіч Мікалай**, пробашч у Глыбокім з 29.10.1926 г., рускі, не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

10. **Краснагродскі Аляксандр**, пробашч у Сабакінцах з 06.10.1926 г., рускі, не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

11. **Флароў Уладзімір**, пробашч у Ракавічах з 12.12.1919 г., мае пасведчанне аб польскім грамадзянстве, выдадзенае ўправай Наваградскага ваяводства. Палітычна і маральна добранадзейны.

12. **Лебедзеў Дзмітрый**, пробашч у Беліцы з 18.04.1921 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

13. **Нядзведзкі Мікалай**, пробашч у Нагарадавічах, мае польскае грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

14. **Малевіч Дзмітрый**, пробашч у Ганчарах з 1919 г., мае пасведчанне аб польскім грамадзянстве, выдадзенае ўправай Наваградскага ваяводства. Палітычна і маральна добранадзейны.

15. **Ліхнякевіч Ян**, пробашч у Радзівонішках з 03.10.1927 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

16. **Станкевіч Вінцэн**т, пробашч у Астрыне з 03.10.1927 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

17. **Загорскі Антон**, пробашч, зараз без парафіі, жыве ў в. Нарашы гміны Новы Двор, не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

18. **Яцкевіч Ян**, вікарый у Астрыне з 20.06.1922 г., мае пасведчанне аб польскім грамадзянстве, выдадзенае Лідскім староствам. Палітычна і маральна добранадзейны.

19. **Фёдараў Базыль**, дыякан у Ракавічах з 01.04.1919 г., мае пасведчанне аб польскім грамадзянстве, выдадзенае ўправай Наваградскага ваяводства. Палітычна і маральна добранадзейны.

[8] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 184 - 185.

20. **Мяцеліца Канстанцін**, адміністратар царкоўнай філіі ў Бабрах Лябёдскай гміны з 10.09.1927 г., мае пасведчанне аб польскім грамадзянстве, выдадзенае Дзісненскім староствам. Палітычна і маральна добранадзейны.

21. **Жарскі Ян,** фіктыўна прыпісаны да царквы ў Лябёдцы з 20.08.1927 г., раней у Мураванцы, мае пасведчанне аб польскім грамадзянстве, выдадзенае Вілейскім староствам. Да маральнага стану заўваг няма, але палітычна з'яўляецца ворагам Польшчы.

**Спіс іудзейскага духавенства Лідскага павета[9]:**

1. **Рабіновіч Арон**, рабін у Лябёдскай гміне і Лідзе з красавіка 1915 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

2. **Мірдыс Мардух,** рабін у Радуні з 1898 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

3. **Лур'е Ірша**, рабін у Жалудку з 1900 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

4. **Ратман Абрам**, рабін у Орлі з 29.10.1925 г. не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

5. **Камянецкі Нахман**, рабін у Новым Двары з 15.10.1926 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

6. **Васэрман Нахман**, рабін у Ліпнішках з 01.09.1925 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

7. **Ляйбовіч Хаім**, рабін у Астрыне з 1902 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

8. **Шацкес Мойша**, рабін у Іўі з 1915 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

9. **Лускі Мойша-Лейба**, рабін у Воранаве з 1922 г., мае польскае грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

10. **Айзенбуд Элья**, рабін у Васілішках з 1916 г., мае польскае грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

11. **Файн Шабсы**, рабін у Беліцы з 05.07.1921 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

12. **Разоўскі Шыман**, рабін у Эйшышках з 1919 г., мае польскае грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

13. **Рабін Міхель**, рабін у Шчучыне са жніўня 1926 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

14. **Ліс Ёсель**, рабін у Ражанцы з 20.03.1924 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

15. **Каган Пупко**, рабін з 1857 г., парафіі не мае, рабінская школа ў Радуні, не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

16. **Левінсан Аўсей**, рабін з 1915 г., выкладчык рабінскай школы у Радуні, мае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае ў Лідскім старостве. Палітычна і маральна добранадзейны.

17. **Каплан Лейзер-Вольф**, рабін з 1917 г., выкладчык рабінскай школы ў Радуні, не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

18. **Троп Нафталь-Гірш**, рабін з 1897 г., выкладчык рабінскай школы ў Радуні, не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

19. **Памяранц Янкель**, рабін з 1924 г., выкладчык рабінскай школы ў Радуні, мае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае ў Гарадзенскім старостве. Палітычна і маральна добранадзейны.

20. **Закс Мандэль-Мойша**, рабін з 1921 г., выкладчык рабінскай школы ў Радуні, мае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае ў Валожынскім старостве. Палітычна і маральна добранадзейны.

21. **Каган Лонданскі**, рабін з 1887 г., выкладчык рабінскай школы ў Радуні, мае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае ў Лідскім старостве. Палітычна і маральна добранадзейны.

22. **Файвельсан Барух**, рабін з 1917 г., выкладчык рабінскай школы ў Радуні, мае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае ў Лідскім старостве. Палітычна і маральна добранадзейны.

23. **Троп Абрам**, рабін, закончыў школу ў 1922 г., пасады не мае, мае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае ў Лідскім старостве. Палітычна і маральна добранадзейны.

24. **Варшаўскі Абрам**, рабін, закончыў школу ў 1920 г., пасады не мае, мае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае ў Бельскім старостве. Палітычна і маральна добранадзейны.

25. **Гінзбург Гільд**, рабін, закончыў школу ў 1917 г., сакратар рабіна Кагана Пупко, мае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае ў Лідскім старостве. Палітычна і маральна добранадзейны.

26. **Рэйтблат Мардух-Бэр**, рабін, закончыў школу ў 1920 г., выкладчык, мае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае ў Лідскім старостве. Палітычна і маральна добранадзейны.

27. **Карпялеўскі Мардух**, рабін, закончыў школу ў 1923 г., выкладчык, мае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае ў Валожынскім старостве. Палітычна і маральна добранадзейны.

28. **Казлоўскі Мойша**, рабін, закончыў школу ў 1923 г., парафіі не мае, мае пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае ў Валожынскім старостве. Палітычна і маральна добранадзейны.

**Спіс магаметанскага духавенства Лідскага павета[10]:**

1. **Ясінскі Ібрагім**, мула, пробашч у Радуні з 1923 г., пасведчанне аб грамадзянстве, выдадзенае старостам у Слоніме. Палітычна і маральна добранадзейны.

2. **Шабановіч Эйх'я**, муэдзін-імам у Іўі з 1897 г., не мае польскага грамадзянства. Палітычна і маральна добранадзейны.

---

[9] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 186 - 187.

[10] Там жа. Арк. 188.

***Леанід Лаўрэш***

# Лідскі ветраны млын

З канца XIII ст. з'явіўся новы тып канструкцыі млына - вежавы млын. Асноўнай яго перавагай з'яўлялася тое, што ў ім рухалася толькі верхняя частка канструкцыі, у той час, як асноўная частка млына заставалася нерухомай.

Шатровы млын з'яўляўся ўдасканаленым варыянтам вежавага млына, дзе мураваная вежа заменена драўляным каркасам звычайна васьмікутнай формы (але існуюць млыны з большай ці меншай колькасцю кутоў). Лягчэйшая канструкцыя, у параўнанні з вежавымі млынамі, рабіла вятрак больш практычным.

Лопасці-ветразі - традыцыйна складаліся з каркаса-рашоткі, на якім размешчана парусіна. Пры гэтым мельнік можа самастойна рэгуляваць плошчу тканіны ў залежнасці ад сілы ветру і неабходнай магутнасці.

Агульная колькасць ветракоў у Еўропе, паводле ацэнак экспертаў, дасягала 200 000 у часы найбольшага распаўсюджвання гэтага тыпу прылад, гэтая лічба з'яўляецца даволі сціплай у параўнанні з прыблізна 500 000 вадзяных млыноў, якія існавалі ў той жа час. Ветракі атрымалі распаўсюджванне ў тых рэгіёнах, дзе мала вады, дзе рэкі замярзалі зімой і ў раўнінных рэгіёнах, дзе рачная плынь была занадта павольнай, каб забяспечыць неабходную магутнасць для працы вадзянога млына.

На Лідчыне заўсёды было шмат розных рэчак і раўчукоў, на якіх можна было выгадна пабудаваць вадзяны млын. Але меліся і ветраныя млыны.

Напрыклад, у Ваверскай парафіі ў канцы XVIII ст. меўся *"млын ветраны яснавяльможнага пана Расадоўскага, харунжага Усарскага на яго зямлі ў Дзітве"* [1].

У апісанні Жырмунскага двара Радзівілаў, сярод іншага, ёсць наступны тэкст: *"Жырмунка (Zyrmunki), фальварак тых жа яснавяльможных ягамосцяў князёў Радзівілаў. Два двары: адзін мураваны палац .... другі двор эканомскі, гаспадарскі ... трошкі ў полі - ветраны млын, які не меле"* [2].

У Тарноўскай сядзібе генерала Маўраса ў 1880-1885 гг. быў пабудавана ветраны млын, які стаіць за 500 м ад палаца. Конусападобная пабудова,




[1] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Ваверская// Лідскі летапісец. 2013. №4(64). С. 33.
[2] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Жырмунская // Лідскі летапісец. 2014. №1(65). С. 27.




складзеная з бутавага каменю. Верхняя частка млына - драўляны шацёр, які паварочваўся на металічных шарах вакол сваёй восі з улікам кірунку ветру, не захавалася[3].

У маёй калекцыі маюцца нямецкія паштоўкі часоў Першай сусветнай вайны з выявамі лідскага ветранога млына. На гэтых паштоўках млын добра бачны з двух бакоў, бачна, што ён пабудаваны з дошак і каля яго стаіць комплекс гаспадарчых пабудоў. Ніжняя частка млына ў выглядзе ўсечанага шасціграннага конуса, як і належыць, была нерухомай, а меншая па памеры, верхняя частка паварочвалася за ветрам. На ўсіх здымках, зробленых прыкладна ў 1916 г., бачна: з яго лопасцяў-ветразяў амаль што цалкам скрадзена парусіна, і таму, як найменей падчас здымкаў, вятрак не працаваў.

Такім чынам стала вядома, што ў горадзе меўся ветраны млын, але дзе ён стаяў? На паштоўках бачна, што недзе на ўскрайку тагачаснага горада, але гэтае месца заставалася таямніцай.

І вось, нядаўна, перакладаючы другую частку ўспамінаў лідскага самавука-вынаходніка XIX - пачатку XX ст. Яўстаха Шалевіча, я звярнуў увагу на наступны фрагмент яго тэксту, напісанага ў 1909 г.: *"У 1863 г. пробашчам у Ішчалне быў кс. Фалькоўскі. Ён прачытаў заклік да сялян далучацца да паўстання, за што быў расстраляны ў Лідзе. Месца пакарання выбралі недалёка ад горада, на Выгане, дзе зараз стаіць ветраны млын. Не раз, ідучы гэтым месцам, я думаў пра гэтую магілу нашага шаноўнага кс. Фалькоўскага"* [4].

Адразу заўважу наступныя моманты: магілы расстралянага ксяндза ў той час не існавала, месца яго пахавання дакладна было знойдзена, і на ім быў устаноўлены крыж толькі праз 10 гадоў, а ўспаміны Шалевіча яшчэ раз пацвярджаюць той факт, што месца пахавання кс. Фалькоўскага надзейна захоўвалася ў народнай памяці. Нагадаю таксама, што да 1914 г. недзе тут, каля пахавання ксяндза, планавалася пабудаваць так званы "Касцёл на крыві" [5].

Раён горада з назвай Выган у той час быў значна большым за сучасны гарадскі парк: на поўдні ён уключаў у сябе тэрыторыю сучаснага стадыёна, на ўсход цягнуўся да сучаснага праспекта Перамогі, а на захадзе - да чыгункі. У XX ст. тут пачалася мелія-рацыя, і якраз падчас асушэння дрыгвы, у 1933 г. на зямлі, якая належала настаўніку М. Міхальчыку, каля рэчкі Каменкі была знойдзена старая

[3] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. Мінск, 1986. С. 245-246.

[4] ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 482. Szalewicz Eustachy. Historja koscila zoludzkiego oraz wspomnienia o Zoludzkiej parafji. Slow pare o obok lezacej Iszczonskiej parafji. Slow kilka o Szczuczynie. Lida. Parafja Kolesnicka. Арк. 28 адв.

[5] Гл: Лаўрэш Леанід. Касцёл на крыві // Лідскі летапісец. 2019. №3. С. 8.




Ліда, верагодна менавіта пра гэтую Ліду і яе заснаванне ў 1180 г. у свой час пісаў Тэадор Нарбут[6].

Пасля інфармацыі, пададзенай Шалевічам, заставалася толькі ўдакладніць месцазнаходжанне ветрака. Ён знайшоўся на расійскай карце-аднавёрстцы 1915 г. Аб'ект, які я расшукваў, стаяў за 100 сажняў (210 м) прыкладна на захад (каля 220$^{O}$ па азімуту) ад існай і сёння царквы Св. Георгія.

Як і належыць, вятрак быў пабудаваны на самай высокай у межах горада адзнацы - 69, 2 сажняў (145 м) над узроўнем мора. Гаспадар ветрака Янкель Віленскі знайшоў найбольш выгаднае месца ў самай высокай кропцы горада.

Дадам, што каля 1914 г., акрамя ветранога млына Янкеля Віленскага, у горадзе працавалі: вадзяныя млыны Давіда Мардуховіча і Арона Фрыдмана (у Вісмантах[7]) і паравы млын Абрама Мельніка, а бліжэйшы ветраны млын стаяў у Тарноўскім маёнтку Маўрасаў, дзе яго мураваны корпус захаваўся да нашага часу.

Вось такія маленькія адкрыцці з мінулага нашага горада прыносяць мне не меншае задавальненне, чым нейкія значна і больш сур'ёзныя рэчы.

Млын Віленскіх існаваў і потым, але не вядома, ці гэта, як і раней, быў ветраны млын, ці ён быў перароблена на млын з маторам. Ветраны млын - любімы аб'ект для здымкаў фатографаў, але ніякіх здымкаў лідскага ветрака ўбачыць мне больш не ўдалося.

Віленская газета "Слова" ў жніўні 1928 г., у раздзеле "Гандлёвы рэестр Віленскага акруговага суда" паведамляе пра гэты млын, што 08.06.1928 г. было ліквідавана і выкраслена з рэестра прадпрыемства Баруха Віленскага "Таханова" (Tachanowo)[8].

Аднак, у спісе прадпрыемстваў зноў прысутнічае млын "Таханова", уладальнік Віленскі па вуліцы Крупаўская" [9], а з тэлефоннага даведніка 1934 г. даведваемся, што кантора гэтага млына знаходзілася па вуліцы Мацкевіча, 8 (каля магістрата) і мела тэлефона пад нумарам 2 [10].

Апошнюю інфармацыю пра млын Віленскіх знаходзім у віленскай газеце "Кур'ер Віленскі" за люты - сакавік 1937 г. Газета паведамляе пра страйк на млыне - 14 рабочых млына спынілі працу і патрабавалі падвысіць заробкі на 25 працэнтаў. Страйк цягнуся толькі адзін дзень, і ў выніку гаспадар узняў заробкі на 20% [11].

[6] Гл: Лаўрэш Леанід. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. Гродна, 2017. С. 219-220.; Суднік Станіслаў. Як два разы старажытную Ліду адкрывалі // Лідскі летапісец, 2016. № 2. С. 30-32.;
Лаўрэш Леанід. Лідчына да XIV стагоддзя // Лідскі летапісец, 2019. №3. С. 16-34.

[7] Пра Вісманты гл: Лаўрэш Леанід. Ваколіца Ліды Вісманты // Наша слова, 2019, 4 ліпеня.

[8] Slowo. №179 (1790), 8 sierpnia 1928. S. 4.

[9] Лаўрэш Л. Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. Гродна, 2017. С. 369.

[10] Там жа. С. 391.

[11] Kurjer Wilenski № 58 (4376) 28 lutego 1937;
Kurjer Wilenski № 61 (4379), 3 marca 1937.

***Віктар Кудла,***
***droздавец***

# ДРОЗДАВА

## *Віткі жыцця родзічаў*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Аб цяжкай дарозе і жыццёвых абставінах у бежанцах, па успамінах бацькі і па захаваных дакументах, мною падрабязна апісана ў нататках "Экскурс у гісторыю беларускага бежанства Першай сусветнай вайны", надрукаваных у 2015 годзе ў "Лідскім летапісцы" № 70 і 71.

На базе зноў запісаных дапаўненнеў- успамінаў маіх родных, нашчадкаў, аднавяскоўцаў, зберажоных дакументаў той пары, пошуку архіўных матэрыялаў у месцах іх дыслакацыі, а таксама выкарыстання апублікаваных прац іншых аўтараў, прадоўжу апісанне цяжкага лёсу родзічаў і землякоў - бежанцаў, якім давялося гвалтоўна пакінуць абжытыя расейскія мясціны, нажытае дабро, пераадолець поўную цяжкасцей дарогу, у якой нярэдка гублялі блізкіх, вярнуцца ў цалкам спустошаныя родныя хаціны, апынуцца без дакументаў, сродкаў да існавання .

Падзеі Першай Сусветнай вайны пакінулі глыбокі след у сусветнай гісторыі. Узброеная барацьба ахапіла вялізныя тэрыторыі на трох кантынентах. У ваенны канфлікт было ўцягнута 38 краін, упершыню ў гісторыі ваеннай справы з'явіліся новыя віды ўзбраення і баявой тэхнікі. Усё гэта выклікала вялізныя разбурэнні, масавыя чалавечыя ахвяры, прывяло да зменаў на палітычнай карце Еўропы.

Адным з галоўных тэатраў ваенных дзеянняў з'яўляліся беларускія землі.

На тэрыторыі нашай краіны ў 1914-1918 гг. праходзіў расійска-германскі фронт, на якім з абодвух бакоў было сканцэнтравана не менш за 2,5 млн. чалавек.

Паводле дадзеных, на працягу ваенных гадоў,




***Карыкатура на тэму Першай Сусветнай вайны***



Увеличить

каля 800-900 тысяч беларусаў ўсталі пад ружжо, 70 тысяч загінулі ў баях на франтах, страты мірных жыхароў склалі 60 тысяч, яшчэ 50 тысяч чалавек сілком загналі ў Нямеччыну.

Цывільнае насельніцтва акупаваных тэрыторый гінула ад голаду, хвароб, расстрэлаў. Населеныя пункты былі разбураны і спустошаны "Вялікай вайной", некаторыя вёскі і зусім перасталі існаваць, незлічонае мноства матэрыяльных і культурных каштоўнасцяў вывезлі.

У 1915 годзе каля 1,5 млн беларусаў пакінула родныя мясціны і падалося ў невядомы для іх край, перажываючы голад, холад і пекла рэвалюцый, часта губляючы самых блізкіх сабе людзей. Таму і не дзіўна, што для многіх людзей бежанства асела ў памяці як найважнейшая падзея ў іх жыцці.

У гады нямецкай акупацыі насельніцтва Гарадзенскай губерні незваротна скарацілася на 1,7 млн. Многа мужчын загінула на фронце, у Расіі было зарэгістравана 750.680 бежанцаў з Гарадзенскай губерні, і сотні тысяч эвакуяваных жыхароў больш не вярнуліся да сябе на Радзіму.

Гісторыя Гарадзенскай губерні 1915 - 1918 г.г. - гэта адзін з трагічных эпізодаў гісторыі шматпакутнага беларускага народа.

Па ўспамінах Аляксандры Яцко, прыблізна палове жыхароў іх вёскі Мількаўшчыны (радзіма маёй жонкі -Яніны і яе сястры - Броні Яцко), выехаўшым у эвакуацыю ў жніўні 1915 г., давялося вярнуцца назад, бо за Пружанамі ўжо былі германцы, толькі моладзь паспела збегчы. Пры немцах сям'і працавалі на сваім полі і гаспадарцы. Але немцы мабілізавалі многа сялян для працы на лесанарыхтоўках і лесапілцы. За працу плацілі трохі і давалі па бохане хлеба. Гаспадары адну свінню кармілі для сябе, другую для акупантаў. Зернем таксама трэба было дзяліцца. За парушэнне ўстаноўленых правілаў у пакаранне ад сялян забіралі кароў .

Больш, чым на тры гады, у заходніх беларускіх землях, у тым ліку і на Лідчыне, усталяваўся жорсткі рэжым акупацыі, які суправаджаўся незлічонымі рабаваннямі і гвалтам. Знаходжанне краю ў прыфрантавой паласе яшчэ больш пагаршала і без таго бядотнае становішча насельніцтва. Адны аказаліся ахвярамі тэатра ваенных дзеянняў і акупацыі, іншыя сталі непасрэднымі ўдзельнікамі баявых дзеянняў.

Падчас мабілізацый на ваенную службу былі прызваны ў царскую армію драздаўцы: Кудла Юліян Адамавіч, Пазняк Аляксандр Міхайлавіч, Трапіла Міхаіл Вікенцьевіч, Козел Іосіф Іванавіч, Козел Міхаіл Іванавіч.

Па рознаму склаўся іх ваенны лёс, але, даўшы клятву "на вернасць цару і Айчыне", яны гэтую клятву не парушылі.

У бежанцах у 1915 г.апынуўся да мабілізацыі на вайсковую службу Янка Купала. *"Калі мы паглядзім на тое, што зроблена за некалькі гадоў намі, беларусамі, для ўздыму свайго нацыянальнага багацця, то душа можа толькі радавацца. У некалькі гадоў мы зрабілі тое, што ў палякаў і рускіх рабілася, ледзь не цэлымі стагоддзямі"*, - пісаў Янка Купала ў сваім артыкуле "А ўсё ж такі мы жывём!". Дарэчы, менавіта ў гэтыя гады і ў гэтай атмасферы вялікі беларускі паэт піша свой знакаміты верш-маніфест "А хто там ідзе".

Ён адыграў каласальную ролю ў станаўленні беларускай нацыі, на доўгі час стаў неафіцыйным беларускім гімнам, які адлюстроўваў глыбінную сутнасць спадзяванняў і болю ўсяго беларускага народа і таго, хто застаўся ў родным краі, і адарванага ад яго…

Бежанцам быў і майстар беларускага слова Якуб Колас.

У 1915 г.у лісце да Янкі Купалы ён пісаў: *"Вясной 1915 года я вымушаны быў пакінуць родныя берагі дарагой мне Беларусі і выехаць у Маскоўскую губерню. Пабываўшы там некалькі дзён у школе, я быў забраны ў салдаты. З пазіцыі прыехаў у Абаянь, дзе жыла мая сям'я, хворым чалавекам. Браток мой мілы, ці здаралася табе калі-небудзь затрымацца дзе-небудзь на чыгуначнай станцыі, чакаць цягніка? Вось у такім становішчы адчуваю я сябе цяпер, дзе б ні знаходзіўся. Усё чакаю, калі настане час ... зноў апынуцца сярод сваіх людзей. Баліць мая душа пра Беларусь. Ці адчуваеш братка, як цяжка жыць на чужыне?"*.

Ужо з зімы 1917 года некаторыя бежанцы рваліся вяртацца ў свае родныя мясціны. Тады Ніжагародскі губернатар А.Ф. Гірс, (там у Лукаянаўскім павеце якраз добра прыжыліся нашы родзічы і не рваліся на радзіму)

цыркулярамі прапанаваў спыніць вяртанне бежанцаў у мясцовасці ваенных дзеянняў і прылеглыя губерні.

Асаблівая Нарада па ўладкаванні бежанцаў пры М.У.С. 2 траўня 1917 г. рассылае ўсім губернскім камісарам Часовага ўрада забарону на вяртанне бежанцаў: *"В некоторых местностях наблюдается повышенное стремление беженцев ныне же возвратиться на родину или же в прилегающую к фронту полосу. Военные власти фронтов, указывая на крайний недостаток продовольствия, отсутствие жилищ и всего необходимого, требуют принятия мер к прекращению обратного движения беженцев. Неизбежным результатом беспорядочного наплыва беженцев должны явиться массовые их заболевания и создание чрезвычайно тяжёлых условий жизни для них самих и местного населения, ибо оказание организованной помощи тогда становится невозможным. Особое Совещание просит принять все меры к прекращению беспорядочного, вне установленных правил, передвижения беженцев в прифронтовую полосу, предваряя, что по требованию военных властей, железным дорогам воспрещено принимать беженцев к отправлению в район военных действий"*.

Пасля рэвалюцыі, у снежні 1917 года, Аддзел па ўладкаванні бежанцаў Усерасійскага Земскага і Гарадскога Саюзаў пачынае рыхтаваць агульны план арганізаванага перасялення бежанцаў у іх родныя мясціны. З гэтай мэтай ён звяртаецца ва ўсе Губернскія Земскія Камітэты з прапановай: *"Прыступіць на месцах да высвятлення найбольш важных пытанняў: устанавіць колькасць бежанцаў у губерні з падзелам іх па станцыях, намеціць маршруты ў межах губерні і паказаць станцыі, дзе ўжо існуюць і дзе мяркуецца стварыць пажыўныя і медыка-санітарныя пункты; вызначыць памеры сродкаў, неабходных для дастаўкі бежанцаў да станцыі і на іншыя выдаткі, звязаныя з перавозкай бежанцаў"*.

**Рэвакуацыя**

Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі ўсё змянілася, пайшла бальшавіцкая прадразвёрстка…

У мясцовых жыхароў чырвоныя забіралі жывёлу, зерне і бульбу.





У 1917 годзе адбылося істотнае змяненне і ў самой сістэме апекі над бежанцамі. У савецкай Расеі была створана сістэма па арганізацыі вяртання бежанцаў на радзіму на чале Цэнтрапленбежам. Савецкі ўрад мала клапаціўся аб бежанцах. З прыходам да ўлады бальшавікоў, выдача пайковых дапамогаў была спынена.

У сакавіку 1918 г. Выканаўчая Камісія па аказанні дапамогі бежанцам існавала ўжо пры Савеце рабочых дэпутатаў. Згодна з дэкрэтам *"усе ўцекачы ўраўноўваюцца ў правах з усімі расейскімі грамадзянамі і да рээвакуацыі ніякімі відамі забеспячэння не карыстаюцца "*.

Паступова цэны пачалі расці, а прадукты знікаць. Як адзначалі самі эвакуяваныя ўцекачы, *"з 1917 г. у дачыненні да забеспячэння рухнула катастрофа: мясцовым сельскім насельніцтвам ніякі прадукт у горад не дастаўляўся, а калі і дастаўляўся, то ў самай абмежаванай колькасці і па казачныя цэнах… "*. Печаны жытні хлеб зусім знік, а таксама крупы і алей. Пуд бульбы, які ранней каштаваў 25-35 кап., цяпер - 7 рублёў, дзесятак яек быў 40-50 капеек, стаў 3 рублі. Хлебнага пайка стала не хапаць, каб пракарміць сямейства. Замест хлеба пачалі выдаваць муку, не больш за 6 фунтаў на душу, але каб пячы хлеб, патрэбныя былі дровы, якія па цане былі недаступныя: 1/4 кубічнай сажні дроў замест 6-ці, стала каштаваць 60 рублёў;

Савецкі ўрад фактычна не рабіў ніякіх эфектыўных дзеянняў у дачыненні да бежанцаў. Беларусы аб'ядноўваліся, настойліва спрабуючы арганізаваць працэс свайго вяртання на радзіму.

Адной з галоўных зменаў у беларускіх арганізацыях стала стварэнне палітычных партый на аснове таварыстваў дапамогі беларускім уцекачам, палітычная актыўнасць якіх прыкметна ўзмацнілася. Беларускія палітычныя партыі імкнуліся прыцягнуць бежанцаў на свой бок і выкарыстоўваць іх падтрымку...

Далей рэкамендавалася ўсім арганізацыям, якія займаюцца бежанскімі справамі, скласці план вяртання бежанцаў на радзіму, разлічыўшы, якімі партыямі, на працягу якога тэрміну магла б быць праведзена іх перавозка.

Але надзеі бежанцаў на хуткае вяртанне дадому

засталіся нерэалізаванымі. У кастрычніку 1918 г. была часткова прыпыненая рээвакуацыя бежанцаў з прычыны закрыцця мяжы з Германіяй. Пасадку ў вагоны бежанцаў прапаноўвалася ажыццяўляць толькі пры наяўнасці ў іх дазволу ад Цэнтрапленбежа або мясцовых калегій па справах бежанцаў, альбо ад германскіх улад. Загадам Цэнтрапленбежа ад 16 лістапада 1918 г. было забаронена любое перамяшчэнне бежанцаў па кірунку да дэмаркацыйнай лініі без спецыяльнага дазволу.

Па атрыманні звестак Маскоўскі Раённы Камітэт павінен быў склікаць усерасійскі з'езд бежанцаў у Маскве прыблізна ў канцы студзеня 1918 года, мяркуючы, што да гэтага часу, усе неабходныя звесткі з усіх губерняў будуць дастаўлены.

У той час і на акупаванай тэрыторыі Беларусі быў створаны цэнтр на аснове Менскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад ваенных дзеянняў. У 1918 годзе рабіў спробы вырашыць пытанне вяртання беларускіх бежанцаў і часовы ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі.

Беларускаму Нацыянальнаму камісарыяту ў 1918 г. удалося кансалідаваць разрозненыя групы бежанцаў з Беларусі, стварыць пэўную сістэму мясцовых бежанскіх нацыянальных камітэтаў і наладзіць працу на месцах. Калегіяй і мясцовымі аддзяленнямі Белнацкама быў сабраны і сістэматызаваны статыстычны матэрыял, які ў далейшым быў выкарыстаны Цэнтрапленбежам пры правядзенні рэвакуацыі.

Але без юрыдычных паўнамоцтваў па рашэнні "бежанскага пытання" яму так і не ўдалося наладзіць адрасную матэрыяльную і сацыяльную дапамогу бежанцам. Так, Камісарыят толькі выдаваў даведкі і карткі на атрыманне дапамог у Народным камісарыяце сацыяльнага забеспячэння, які аказваў дапамогу бежанцам на агульных падставах.

У сувязі з бальшавізацыяй Белнацкама не ўдалося ўмацаваць яго супрацоўніцтва з некаторымі беларускімі арганізацыямі, якія займаліся бежанскім пытаннем. Белнацкам прыняў удзел у разгроме незалежнага Гарадзенскага камітэта, што адыграла адмоўную ролю ў аказанні дапамогі гарадзенскім бежанцам.

З прычыны нескаардынаванасці дзейнасці Калегіі па справах палонных і бежанцаў і саюзамі бежанцаў так і не ўдалося выпрацаваць адзінага плана рээвакуацыі, якая зацягнулася яшчэ на некалькі гадоў.

Вяртанне бежанцаў шмат у чым залежала ад мірных дагавораў Расіі з Германіяй і Польшчай. Першым дагаворам, які прадугледжваў магчымасць вяртання, было пагадненне паміж Расіяй і Германіяй аб вяртанні на радзіму цывімльных асоб, падданых абодвух бакоў, складзенае 9 лютага 1918 г.

Расія з аднаго боку, Германія, Аўстра-Венгрыя, Балгарыя і Турцыя - з другога заключылі мірны дагавор, які аб'яўляў аб заканчэнні вайны паміж гэтымі дзяржавамі. Паводле гэтай дамовы, на захадзе ад Расіі адрываліся тэрыторыі Польшчы, Прыбалтыкі і частка Беларусі. Гэта азначала, што большасць беларускіх уцекачоў павінны былі вяртацца на тэрыторыі, акупаваныя Нямеччынай.

*Пачаў душыць Расію голад,*
*вялікі гвалт вакол стаяў.*
*У гарадах зімою холад*
*ды пошасць Бог яшчэ паслаў.*

Такое абсалютна ва ўсіх апавяданнях бежанцаў-беларусаў, якія апынуліся ў сельскіх раёнах. Не менш, а ў чымсьці нават больш, драматычныя і трагічныя ўспаміны тых з іх, хто апынуўся ў гарадах.



***Вясковы сход бежанцаў аб сітуацыі ў сялянскам жыцці і дальнейшых дзеяннях па вяртанню на радзіму…***

Бежанства асела ў памяці як найважнейшае падзея ў іх жыцці. Праз лёс асобных людзей раскрываюцца пакуты ўсяго беларускага народа ў тыя суровыя гады Першай Сусветнай вайны.

**Максімовіч Васіль**, 1924 г.н., дроздавец, расказаў як бацька *"Аляксандр Ігнацьевіч, 1889 г.н., быў у бежанцах у Пяцярбургу, працаваў на тытунёвай руска-французкай фабрыцы, ліцейшчыкам. Добра плацілі, але потым збунтавалі, і давялося перасяліцца ў Томск, дзе ужо былі нашы вяскоўцы - Кудла Васіль (Юрчыкаў) з сям'ёй. У 1917 годзе пачалася рэвалюцыя. Жыццё ўскладнялася - быў холад і голад. Атрымлівалі пайкі, але вельмі маленькія... і бывала так, што бацька збіраў мерзлых варон, гатаваў на ежу.*

*Армія Калчака там свірэпствавала, людзям захацелася на радзіму.*

*Дроздаўцы сарваліся з Сібіры і ўдалося вырвацца на граніцу і перайсці на бацькаўшчыну. Бацька ў 19 годзе пажаніўся з Любай Васільеўнай Кудла - стала нашай маці. Жылі на Тарасаўшчыне, паблізу па суседстве - хутары Данэйкаў Валодзі і Міхаіла, Кумпяка Міколы (Сымонкавы), Кудла Іосіфа, той, што з дзвюма жонкамі".*

**Ражнова (Каханоўская) Ядвіга Міхайлаўна** з вёскі Дроздава распавядае пра ўспаміны маці Соф'і:

*"Уцекачы-бежанцы пачалі вяртацца дадому. Бацька Міхась Феліксавіч разважаў і думаў застацца*

*на абжытым апошнім мейсцы ў Омскай губерніі, але маці Соня нагнула вяртацца дахаты…*

*А родную цётку Марыю блізкія родзічы забралі ў Чалябінск, там працавала на заводзе. Пазнаёмілася з ваеннапалонным-румынам (Чынка прозвішча), выйшла замуж і з ім выехала ў Румынію, у горад Рэшыца. Хваліўся і абяцаў: "Маю добрую хату і ўсё ёсць - не будзеш мучыцца…" На самай справе давялося жыць у хібары пад навесам. Ужо потым збудавалі дом. Муж аказаўся жорсткім. Дзяцей доўга не было і толькі ў 1932 годзе нарадзіўся сын Нэлу (па-нашаму Іван). У Вялікую Айчынную вайну Марыя была звязана з камуністычным падполлем, узнагароджана. Пасля вайны два разы прыязджала да нас у Дроздава…”*



***Соф’я Кахаíоўская***

**Ядвіга Міхайлаўна** дадае: *“Прыпамінаю, штосьці маці расказвала пра цяжкую дарогу з бе-жанства на радзіму. Да граніцы ехалі больш за тыдзень на перагружа-ным таварняку. Добра што з сабою ўзялі паесці. Ужо тут па Беларушчыне трохі падвозілі на калёсах, а да Дроздава дабіраліся пехатой.*



***Ядвіга Ражнова (Каханоўская)***

*Страшна было ўбачыць у вёсцы пустэчу… Наша хата расшматана: без акон,без дзвярэй ,печ і комін развалены, стрэхі пабудоў дзіравыя... Сваякі з Бенявіч, Агароднікаў (Каламыцкія) далі выпечку хлеба, парачку парасят, начоўкі і тое-сёе з хатніх і гаспадарчых прылад.*

*Зімнімі вечарамі прыходзілі да нас дзед Сымон, дзядзькі Кастусь (Ануфрык) і Кастусь (Янаў), Зянон Шут, і дзяды пачыналі ўспамінаць сваё жыццё ў Сібіры. Усе яны ў Першую Сусветную вайну пакідалі сваю вёску Дроздава. Некаторыя жылі ў Омскай губерні, іншыя ў Чалябінскай. Расказвалі розныя забаўныя, часам цікавыя, але і трагічныя гісторыі.*

*Жыхары вёскі Дроздава жылі небагата. Толькі ў 3-х сямей было па 20 га ворнай зямлі, у іншых па 10 га і меней. У нас было 1,5 дзесяціны ворыва. Працавалі многа на зямельцы, вырошчвалі збажыну, бульбу, агародніну. Потым у гумне малаціць снапы, рэзаць сечку,*



***Працуюць і дарослыя, і малыя***

*круціць жорны, каб змалоць збожжа. І дома маці даставалася ўся цяжкая праца і мясіць на выпечку, і хлеб рабіць…З цягам часу абжыліся, выгадавалі пяцёра дзяцей (Бронюся, Ваню, Рэню, Лёдзю і Ядзю)”.*

**Сяргей Кандратавіч Германовіч** (дваюрадны брат майго бацькі Вані): *“З расказаў свайго бацькі Кандрата Кандратавіча: з родным братам Сашам да пачатку вайны залічылі ў Лідскі 172 -гі пяхотны полк і ўдзельнічаў у ваенных бітвах з немцамі каля Вільні,потым перадыслакаваліся на Расею і Украіну. Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі бацька перайшоў да бальшавікоў. У часы грамадзянскай вайны ўступіў у адзін з атрадаў Чырвонай Арміі, стаў камандзірам звяза савецкага палка 2-й Задняпроўскай дывізіі, якая ўдзельнічала ў разгроме Дзянікіна, а затым была перакінута на Паўднёвы фронт для барацьбы з Урангелем. У перыяд пераходу цераз Сіваш на пасадзе камандзіра роты, браў Турэцкі вал, Чончарскі мост. З 175 чалавек чырвонаармейцаў засталося ў жывых толькі 4 чалавекі. Полк завяршыў баі ў Севастопалі. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай зоркі…*

*Восенню1915 года нашых дзеда Кандрата і бабу Ганну закінула ў бежанцы аж у Мілітопальскую губерню, Пакроўскі ўезд, сяло Вялікая Міхайлаўка. Далі жыллё, жывёлу, працавалі на зямлі…Жылі добра - мелі ўсё, не галадалі. Мясцовыя вяскоўцы адносіліся са спачуваннем, цанілі за працавітасць. Асабліва цанілася работа жанчын: прасці, ткаць, шыць… Плацілі пшаніцаю …*



**На церніцах труць лён на валакно**

*Калі пачалася грамадзянская вайна, там на Мілітопальшчыне гойсалі банды, абіралі людзей… Прыйшла галадуха, а з ёй тыф, такі вялікі мор людзей.*

*У 1922 годзе бацька з братам адарваліся з войска і наведалі бежанцаў- бацькоў. Апошняе прапанова дзеда: "Дзеці ратуйцеся - уцякайце дахаты на родную Беларусь"… Так там памерлі і пахаваны на Мілітопальшчыне дзед Кандрат і баба Ганна …*

*Тады два браты, Кандрат і Аляксандр, іх сёстры Надзя і Зоня, а таксама ўзялі з сабою пляменніка Філіпа Гука і рушылі на захад. Раздабылі каня з павозкаю, і за 22 сутак дабраліся да Рагачова…, (там*



*па дамове праз пункт пропуску вярталіся бежанцы) і пераехалі граніцу. Тут у іх забралі коней, і яны пешшу дабраліся дамоў. У Ганчарах - пустая хата: на падворку, як кажуць, ні кала. Пачалі адбудоўваць гаспадарку, засяваць палеткі, налажваць жыццё.*

*Па святах навакольная моладзь збіралася ў цэркве і памаліцца, і паглядзець на братоў Германовічаў, якія прыйшлі з грамадзянскай, многа дзе былі, шмат бачылі, пра ўсё распавядалі… А яны - дзяцюкі высокія, статныя, вайсковай выпраўкі, у шынялях. Чубы з пад шапкі - ну, як казакі!*

*Дзяцька Аляксандр, як старэйшы, першым ажаніўся з Меланняй з Дакудава.*

*Бацька Кандрат меў ужо 32 гады і засватаўся да Юлькі Мулінскай з Дзітрыкаў - яна была маладзей на 11 год, хаця ў яе ўжо быў кавалер - "Карольчык"… Але ж бацька быў напорысты, ад спадабаўшайся маладзіцы не адступаў… Быў горды: "Калі не пойдзе за мяне - то і жаніцца не буду…"*

*У сватах красамоўна гаманіў пра Расею, Украіну, дзе быў і як ваяваў…. Дарэчы, у яго была фенаменальная памяць: і праз дзесяткі гадоў дакладна ўзгадваў пра ўсе населеныя пункты, дзе прайшоў у атрадзе чырвонаармейцаў, хоць звярай па карце… Дзед Аляксандр Мулінскі пасля знаёмства, задаволены кажа: "Ну што сваты, многа пагаварылі - даю бацькоўскую згоду! Але што Вы хочаце ў пасаг?" Бацька: "Мне пасагу не трэба. Мне спадабалася ваша дочка. Хачу жонку, а не пасаг!"*

*Да гэтага Мулінскія ўжо выдалі замуж чатырох дачок: старэйшую Алесю за Кудлу Івана з Дроздава, Марылю ў Більтаўцы за Ашмяну Аляксандра, Надзю за Буйніцкага Рыгора ў Хаданішкі, там жа па-суседску Ганну за Хрышчановіча Іосіфа. Сын Іван Мулінскі дзесьці застаўся ў Краснаярску, а Аляксандр ажаніўся з Панкавіч Сашаю і застаўся на гаспадарцы.*

*Усе ўладкаваліся і жылі нябедна.Так што самай малодшай і любімай Юльцы справілі добрае вяселле і маладой сям'і далі спраўнага каня і добрую карову. У Ганчарах браты раздзялілі гаспадарку (было 32 га зямлі) і хату з прыбудовамі.*

*Як адукаванага чалавека яго выбралі солтысам на вёскі Ганчары і Дроздава. На гэтай пасадзе ён прабыў 7 гадоў да 1939 г. Аднавяскоўцы яго паважалі, часта прыходзілі па парады. У вольны час мужчыны збіраліся ў яго хаце паслухаць навіны аб падзеях, якія адбываліся вакол.*

*Жылі дружна, працавалі многа, нарадзіліся дзеці: Сяргей, Алясандра, Вольга".*

**З успамінаў бацькі Вані:** *"Калі прайшла кастрычніцкая рэвалюцыя надышла галадоўка, цяжка было з ежай і адзеннем, ліпавае лісце нават елі. Падчас рэвалюцыі наша сяло пераходзіла з рук у рукі. У нашым наваколлі арганізавалася "зімовая армія" з мясцовых жыхароў. Яна выступала супраць камуністаў..., але падышла Чырвоная Армія і разагнала бунтаўнікоў.*

*Бацька Ваня, і маці Алеся (Іван Ізыдаравіч - 23.01.1875 г.н. і Аляксандра Вікенцьеўна - 1882 г.н.), і я - Ваня - (Іван Іванавіч-10.05.1908 г.н) з сумам пакідалі ўжо абжытае седлішча Стара-Раждзественна ў*

*Ніжагародскай губерніі. Дзядуля Ізыдар яшчэ да вайны (4.01.1914 г.) памёр у Дроздаве. Падаліся ў Серпухаў. Там былі нашыя першыя бежанцы з 1914 года: мая бабуля Аляксандра Андрэеўна - 1852 г.н. (дявочае - Міцюкевіч), родная цёця Соф'я Ізыдараўна, 1892 г.н. і мая сястра Вольга, 1906 г.н. Бабуля ў асноўным была пры хаце, клапацілася аб жыльцах, рыхтавала яду, крыху падрабляла прыбіральшчыцай у канторы. Потым захварэла, ёй ніякай медыцынскай дапамогі не аказалі, і ў 1918 годзе памерла, і там каля Серпухава дзесці пакояцца яе парэшткі. Як памяць аб ёй зберагліпадпісаны ёю куфэрак "А.А.К." (Аляксандра Андрэеўна Кудла) і хатнія прылады…*




*Цёця Соня працавала там у школе настаўніцай, выкладала матэматыку, а дзецям беларусам - родную мову. Сястра Вольга навучалася ў Навінкаўскай царкоўна-прыходской школе і ў чэрвені 1917 г. закончыла яе, аб чым маецца пасведчанне аб заканчэнні школы.*

*Прыехаўшы, мы падсяліліся на ўскраіне Серпухава. Займалі палову дома. Помню яры, кусты, рэчку… Пачаў хадзіць у школу, вывучаў рускую мову і літаратуру знакамітых пісьменнікаў і паэтаў, пасябраваў з суседскімі хлопцамі па прозвішчы Жукавы.*

*Тата ўладкаваўся працаваць на сітцанабіўную фабрыку, былое таварыства Н. Н. Коншына, мама - у нейкага начальніка прыслугай. Заробкі былі малыя, у горадзе - мітынгі, беспрацоўе, усё часцей даходзілі чуткі пра бацькаўшчыну. Там усталявалася Беларуская Народная Рэспубліка.*

*Заканчвалася вайна. Бацька сустракаўся з такімі ж бежанцамі з Беларусі. Шмат гутарылі, шмат саймікаваліся - мажліва, трэба вяртацца на радзіму…*

*З фабрыкі тата звольніўся 7 лютага 1919 года, адпрацаваўшы бесперапынна амаль 2 гады: з 21 красавіка 1917 г. Грошай у сітца-набіўной фабрыкі, цяпер дзяржаўнай, на разлік не хапала: толькі частку далі грашыма, а частку сваёй прадукцыяй (палатном)" .*

*І беларус дамоў падаўся,*
*хто на падводзе, хто пяшком*
*К мясцінам родным дабіраўся*
*з адзіным рэчавым мяшком.*
*Тым больш з'явілася нагода:*
*дамова рыжская была.*
*Па той дамове перашкоды*
*Масква вяртанню іх зняла.*
*Старыя людзі гаварылі -*
*не ўсе вярнуліся дамоў.*
*Хто сам памёр, каго забілі,*
*а хто ў Расіі лёс знайшоў.*

У лістападзе 1918 г. Германія падпісала Камп'енскае перамір'е, якое азначала заканчэнне баявых дзеянняў. Так скончылася адна з самых кровапралітных і разбуральных войнаў, якая нездарма атрымала назву "Вялікая".

**Ігнат Дварчанін** - дзятлавец (родны дзядзька Місарэвіча Колі - мужа маёй дваюроднай сястры Соні Белавус) пісаў:

*Вы ці ведаеце, людзі, што вайна зрабіла,*
*З нашым краем гаратлівым, што з ім учыніла.*
*Там, дзе жыў народ шчасліва, сёлы і мястэчкі*
*Цвілі, цветам красавалі, цяпер крыві там рэчкі.*
*Там, дзе нівы, збожжа, жыта душачку ласкалі -*
*Там пустэльня, розны быльнік, там равы паўсталі.*

*А што сталася з людзямі,што з вякоў тут жылі, -*
*Эх, не знаць бы і не ведаць, людзі мае мілы.*
*Хлопцы ахраняць айчыну, усе пайшлі- там тлеюць,*
*А дзяўчаты засталіся, ждуць іх і марнеюць.*
*Тут з пазіцыі на отдых маскалі прыходзяць*
*І, як кажуць, што "культуру" за сабой прыносяць.*
*Вось у гэтай то "культуры" розніца выходзіць.*
*Не хацеў бы яе ведаць, то сама прыходзіць!*

Гісторыя Гарадзенскай губерні 1915 - 1918 гг. - гэта адзін з трагічных эпізодаў гісторыі шматпакутнага беларускага народа.

У сваёй працы лідзянін У.М. Чарапіца апісаў аб'ектыўныя цяжкасці рээвакуацыі, з якімі сутыкнулася насельніцтва Гарадзенскай губерні. Дадзеная канстатацыя цалкам пацвярджаецца матэрыяламі пасяджэння так званай Рускай управы, якое адбылося ў Гародні 1-2 снежня 1918 года з дазволу германскіх акупацыйных уладаў. Менавіта тут разам з разглядам *"сучаснага стану губерні"* ўпершыню быў дадзены кароткі аналіз, што называецца, *"па гарачых слядах"* усяму таму, што перажыло насельніцтва губерні падчас вайны.

Згодна з вопісам пакінутай і знішчанай маёмасці бежанцаў, страты павінны былі аплачвацца расійскім казначэйствам. Па "бежанскім пытанні" гаварылі аб бедствах і частых смяротных выпадках пры адступленні бежанцаў у месцы іх эвакуацыі, а таксама, аб тым самым крыўдным, што выпала на долю бежанцаў пры іх рээвакуацыі на радзіму: бежанцы, якія вярнуліся ў родныя

мясціны, засталі поўны разлад і апушчэнне; хмызнякі замест садкоў, хаткі і пабудовы развалены, альбо ж іх уласныя хаты, занятыя чужымі сялянамі. Таму, для ўсебаковай дапамогі гэтым людзям пры Гарадзенскай рускай управе быў адкрыты бежанскі аддзел, каб *"перш за ўсё, забяспечыць бежанцаў хлебам, збожжам"*, вырашыць пытанне аб землеўпарадкаванні і даць у распараджэнне бежанцам лесапільні для будаўніцтва. Такім чынам, характар абмеркавання ўсіх пытанняў на з'ездзе 1-2 снежня 1918 года ў Гародні, які адбыўся па ініцыятыве Гарадзенскай губернскай рускай управы, выявіў прамую сувязь з многімі падзеямі, якія мелі месца ў губерні.

У лютым 1919 года мае (Віктара Кудлы) родзічы: дзядуля Іван, яго сястра Соф'я, бабуля Алеся, цёця Вольга і тата Ваня, спазнаўшы гаротнае і трывожнае жыццё ў Расіі і даведаўшыся аб вызваленні Беларусі, сабраліся і рушылі ў дарогу …

З расказаў бацькі Вані: *"Калі закончылася вайна нашай сям'і далі дазвол на выезд з Расіі на радзіму. Вяртанне дадому было доўгім і цяжкім, праз два тыдні цягніком у таварных вагонах, напрыканцы зімы. Выйшаўшы з цягніка, цалавалі сваю родную зямлю і радаваліся, што мы ўсёй сям'ёй вярнуліся жывымі ў родныя мясціны…*

*У Дроздаве на родным падворку - жудасны малюнак: саламяныя стрэхі пабудоў разшматаны. Хата, гумно і хлявы разхлестаны - без дзвярэй і начыння.*

*У старой хаце выламаны вокны. Ні сталоў, ні зэдлікаў, нават, агароджу панеслі. Вугал зруба новай хаты быў падняты, а залатнік, які паклалі пры будаўніцтве пад першы "вянок" гэтага зруба, укралі.*

Вяртаць маёмасць, якую пакінулі і так скрупулёзна апісалі і ацанілі, не было каму… Самога гаранта-цара-бацюшку і яго сям'ю ўжо знявечылі… А новая савецкая ўлада - сама босая...

Успомнім, наколькі адказна царская дзяржава падыходзіла ў пачатку вайны да эвакуацыі беларусаў з зоны ваенных дзеянняў углыб Расіі. Пра гэта можна мяркаваць па вопісе маёмасці селяніна в. Дроздава Кудлы Івана Ізыдаравіча.



Пры аналізе зберажонага гістарычнага дакумента "АКТ - 5.05.1915 г." можна заўважыць: усё было ў рамках заканадаўства і строга прапісана, каму што рабіць. Згодна з цыркулярам Віленскага губернатара ад 17 ліпеня 1915 г. № 23963 паліцэйскі ўраднік Іваноў (ініцыялаў няма) 20-га ўчастка 5-га стана Лідскага ўезда прыбыў на сядзібу прасіцеля разам з сельскім старастам Ганчарскага таварыства Восіпам Дычэкам. Сумесна з запрошанымі сумленнымі ацэншчыкамі - Васілём Кудлам і Восіпам Шутам і сведкамі Мікалаем Кудлам і Юрыем (прозвішча неразборліва) правялі вопіс усёй маёмасці і пасеваў селяніна в. Дроздава Івана Ізыдаравіча Кудлы.

Усе дадзеныя вопісу аб колькасці і кошту ў рублях былі занатаваны на друкарскім бланку, падпісаны ўсімі ўдзельнікамі і выдадзены на рукі гаспадару. Дзякуючы таму, што гэты больш стогадовай даўнасці дакумент зберагглі, мы маем магчымасць меркаваць, як жылі, што мелі ў той час сяляне-серадняком заходнебеларускай вёскі.

Згодна з вопісам уся маёмасць Івана Ізыдаравіча Кудлы была ацэнена ў 10 тысяч 491 рубель - на той час даволі вялікія грошы.

Галоўнае: царскі ўрад гарантаваў вяртанне панесеных страт.

Аб дабрабыце селяніна ў той час сведчыць наяўнасць жыўнасці: тры каровы, дзве цялушкі, двое цялят і бык. Можна меркаваць, што малочных прадуктаў хапала і для сям'і, і на продаж. Апроч гэтага мелі чацвёра свіней, два дзясяткі авечак і курэй, якія забяспечвалі сям'ю мясам, яйкамі і воўнай, з якой выраблялі доўгімі зімовымі вечарамі сукно. Дзед быў нядрэнным пчаляром,

АКТЪ.

| № по порядку | Наименование предметовъ | Количество предметовъ | На сумму Руб. | Коп. | Примѣчаніе |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | [illegible] | [illegible] | 1000 | | |
| 2. | [illegible] | [illegible] | 500 | | |
| 3. | Гумно | [illegible] | 700 | | |
| 4. | [illegible] | [illegible] | 600 | | |
| 5. | [illegible] | [illegible] | 300 | | |
| 6. | [illegible] | [illegible] | 300 | | |
| 7. | [illegible] | [illegible] | 150 | | |
| 8. | [illegible] | [illegible] | 100 | | |
| 9. | [illegible] | [illegible] | 20 | | |
| 10. | [illegible] | [illegible] | 200 | | |
| 11. | [illegible] | | | | |

у яго на пасецы былі два дзесяткі вуллёў. Асноўнай цяглавай сілай у апрацоўцы глебы і транспартным сродкам былі дзве кабылы і мерын. У засеках свірана заставалася 680 пудоў, у пераліку больш дзесяці тон збажыны: жыта, аўсу, ячменю, грэчкі, лубіну, гароху. Без увагі ацэншчыкаў не засталася нават салома жытняя, аўсяная, ячменная і сена. Апроч гэтага было нарыхтавана прамой саломы (кулі) для ўладкавання саламянага даху. А што заставалася з хатняй маёмасці: хатні посуд, сталы, лавы, куфры, кублы, кросны, жорны, вопратка, палатно вясковае. Ацэншчыкі ўзялі на ўлік нават плот каля садка і падворка.

Але што сталася з гэтым багаццем, распавядаю па ўспамінах бацькі Вані: *"Прыехаўшы на родныя ўгоддзі, ужо не знайшлі пакінуты і апісаны ў акце 5.08.1915г. цэлы шэраг сельскагаспадарчых прылад працы і механізмаў: плугі, саха, бороны жалезная і драўляная, малатарня, саломарэзкі конная і ручная. Для перавозкі грузаў меліся вазы, сані і брычка.*

*Пайшлі да Козела Міхаіла, далёкага родзіча (ён не выязджаў у Расію), якому, мажліва, больш за ўсё перапала з нашай гаспадаркі, а ён даў толькі два вядры бульбы і бохан хлеба.*

*Потым і ў вяскоўцаў знаходзілі свае пакінутыя прылады працы.*

*Крыху дапамаглі сваякі з Хаданішкаў, якія не былі ў бежанцах: родныя сёстры мамы Алесі: Надзя за Рыгорам Буйніцкім і Ганна за Юзафам Хрышчановічам. Яны далі па торбе зерня і трошкі мукі".*

У аднавяскоўцаў выменьвалі расейскае паркалёвае палатно на хатнія пажыткі і яду. Мала-памалу сабралі

насенне на пасеў. Прыйшла вясна. На яду збіралі шчаўе і крапіву. Пасадзілі агародчык. Бульбу садзілі, збіраючы ў аднавяскоўцаў бульбяныя лупіны. Восенню крыху - дзесятак кошыкаў - накапалі (а вось пры ад'ездзе на ўсход у жніўні бульба заставалася ў полі, і па ацэнцы ўраджай мог быць 700 пудоў, гэта значыць - 11 тон).

*Тых, хто вярнуўся, тут чакалі*
*адсутнасць ежы і жытла.*
*Ды ўцякачы не гаравалі,*
*да гора звычка ўжо была.*
*З душэўнай радасцю, імпэтам*
*упрагліся хаткі аднаўляць.*
*Вясной халоднай, жаркім летам*
*ім давялося шчыраваць.*
*Палі залеглыя ўзаралі,*
*насення, бульбы не было,*
*Лупіны іншы раз саджалі,*
*ды дзякуй Богу ўсё ўзрасло.*

Тата Ваня многа расказваў, як у тыя гады бацькі працавалі ад відна да відна не толькі на полі, а пры рамонце пабудоў. Так, у захаваным збудаваным зрубе хаты перакрылі страху саломай, усталявалі ганак, сені, камору і пад ёй падвал, абнавілі дзверы і вокны.

У кухні вылажылі цагляную печ з прыпечкам і комінам, спальню з дзеравяннымі ложкамі і саломеннымі сеннікамі. Падлога зямляная - ток, а ў зале падлогу заслалі габлёванымі дошкамі, сцены абмазалі глінай.

Праз пару гадоў засяліліся, і старую трухлявую хатку разабралі.

Адрамантавалі вялікае гумно на восем тарпоў, на гумнішчы выкапалі студню глыбінёю на дзесяць кольцаў.





Хлеў перакрылі дранкай, зраблі з двух бакоў дзверы. Унутры ўстанавілі клеткі і там размясцілі каровы з цялятамі і пару свіней і з дзясятак курэй.





Для каня адрамантавалі канюшню.

Збожавы свіран-амбар адрамантавалі да восені, і ужо ўраджай збажыны па відах размясцілі па засеках.

Штосці самі парабілі: калёсы, сані.

Вазок, хамуты на рынку купілі. Пралі кошыкі, сявенькі.

Масявіцкі каваль Быстрыцкі зрабіў жалезныя плуг, акучнік і бораны.





**З успамінаў бацькі Вані**: *“Мне ўжо было 11 гадкоў (нарадзіўся 8 траўня 1908 года). Я ўжо станавіўся за плуг, баранаваў. Помню, як леташняй восенню сеялі жыта ўручную на полі…. Мы яшчэ толькі з паўгода як пасяліліся на роднай мясцовасці, але ўжо не бежанцамі, а ўцякачамі на радзіму. Каня з плугам і бараной пазычылі ў аднавяскоўца. Пакуль бацька араў, а я баранаваў,ён ляжаў п'яненькі, але без яго цяжка давялося б з яголым канём працаваць.*

*Як пачаў бацька з канюгой муштраваць, дык вясковец, які каня пазычыў, падскочыў і такімі мацюкамі абклаў, што раней іх я і не чуў: "Ах, такую тваю маць! Ах, з канём баляваць! Завярніце, выверніце"… Во, якія ў вёсцы засталіся людзі. Абгорнуцца зверху, нібы панцырам, п'янствам ды мацюкамі, а як да працы - яшчэ якія спраўныя, могуць, усё ўмеюць!*

*І нічога за канюгу не патрабаваў гэты наш дабрадзей: "Ды на пляшку наліўкі дайце, і хопіць". Так адказаў пра аплату.*

*Праўда, на развітанне бацьку яшчэ некалькі раз сакавіта пахваліў, маўляў, ты добры гаспадар "Зыдар-багатыр".*

*Але я замілаваны яго прапановамі, як жа мне жыць у вёсцы, бо трэба і мне вучыцца гаспадарыць на зямельцы?!*

*Пасля расейскай школьнай вучобы ў мяне захаваўся добры почырк і стабільная грамата. Ужо там я добра спяваў рускія песні і захаваў тэксты.*

*Летам з дзядулем і бацькам браўся касіць за Дзітвою на нашай сенажаці. Там даглядаў карову. Граблі ў копы і прывозілі сена ў гумно.*

(Па гэтай тэме я намаляваў карціну алеем "На сенакосе за Дзітвою"- *В.К.*)





В деревни ходила за стадом овец
[illegible] Нюра [illegible]
Понравился ей [illegible] сердцем
Белокудрый красавец Ванюша
Вот давай заменять крестьянскую жизнь
На роскошную жизнь городскую
Разодену тебя у английский костюм
Куплю тебе шляпу большую
Вот проходят года а Ванюши все нет
Он не едет в деревню за Нюрой
Она ребенка взяла и пошла в белый свет
Хочет Нюра отыскивать Ваню
Научилась она чару горькую пить
Зачего и ребенок скончался
Научилась она по балам ходить
И случайно ей Ваня попался
Здравствуй Ванечка мой [illegible]
Без тебя я так долга страдала
Белокудрый подлец покачал головой
Я тебя вечно незнал и не знаю.
[illegible]



*У восенькія дні прыходзілася многа працаваць пры капанні бульбы, пасвіць жывёлу, таму ўсё ж-такі калі-нікалі пяшочкам наведваў школу ў Ганчарах. Там настаўнічала і цёця Соф’я Ізыдараўна. Зімою, асабліва ў снежныя дні, бацька нас адвозіў санямі, стараўся вучыўцца добра”.*

Па расказу майго бацькі ў гаспадарцы было дзесяць дзесяцін ворнай зямлі, сенажаць на аселіцы, выган і невялікі лясок з дзве дзесяціны.



**_Бабуля Алеся_**



**_Дзядуля Іван_**

Далей - болей. Завялі жыўнасць, кабылку. Зямелька давала добры ўраджай.

А наша вёска Дроздава, што прахадны двор: з боку ляска - шаша, з другога за аселіцай-чыгунка… Але зноў над нашай гаротнай зямлёй навісла пагроза: то Чырвоная Армія наступала, то войска польска бушавала, а потым жыццё "за польскім часам".

*І можна жыць было б, ды дзе там!*
*Маскаль нас хутка тут дастаў,*
*Пад зычны лозунг: "Власть Советам"*
*дзяржаву зноў акупаваў.*
*Яны і Польшчу меркавалі*
*зноў у імпэрыю загнаць.*
*Ды толькі зубы абламалі:*
*пад Менск прыйшлося адступаць.*
*"Даёшь Варшаву"- верашчалі,*
*туды, нібы на шпацыр, шлі*
*Ды толькі там іх затрымалі -*
*пагібель тысячы знайшлі.*
*Антанта ляхам памагала*
*дзяржаўнасць Польшчы аднавіць.*
*І шмат чаго ахвяравала,*
*каб войска польскае ствараць.*

Пасля заканчэння Першай Сусветнай вайны ў лютым 1919 года на змену немцам прыйшлі бальшавікі. На Лідчыне ўсталёўваецца на кароткі час - тры месяцы - савецкая ўлада з 5 студзеня 1919 года па17 красавіка1919 года, калі пачалася польска-расейская вайна: польскія войскі выгналі саветаў, але і самі пратрымаліся толькі крыху больш за год - да 17 ліпеня 1920 года, калі расейскія войскі зноў пагналі палякаў, але не надоўга. Там пад Варшавай атрымалі паразу, і з 30 верасня 1920 года наш раён у складзе Польшчы да 18 верасня 1939 года. Вось якія ператрусы і беражыванні давялося спазнаць нашым землякам у часы савецка-польскай вайны, што пракацілася па паселішчах і людзях Заходняй Беларусі.

З успамінаў бацькі Вані: *"Добра памятаю як летам 20-га года, калі адступалі польскія войскі, у нас на гумнішчы на конных павозках прыпыніліся жаўнеры. Карабіны паставілі ў піраміду, з паходнай кухні раздавалі вайскоўцам ежу. Падпаручнік прайшоўся па вёсцы і, не знайшоўшы вазніцы, загадаў майму бацьку Ізыдару, каб запрог свайго каня ў другую павозку і павёз вайскоўцаў дзесьці пад Шчучын. Назаўтра пад раніцу бацька вярнуўся дахаты, але без каня. Сказаў, што ваякі на подводзе хутка ўцякалі на Польшчу…"*

*"Пратакол*

(пераклад з польскай мовы)

*1920 года кастрычніка 26 дня*

*Я, ніжэй падпісаўшыся, солтыс вёскі Дроздава Кумпяк Іосіф у прысутнасці сведкаў жыхароў вёскі Дроздава Міхаіла Пазняка, Івана Шута і Міхаіла Махнача напісалі ніжэйшы пратакол аб наступным:*

*У ліпені месяцы ў час адступлення польскіх войскаў салдатамі 17 дывізіі калоны Г. забрана кабыла з хамутом і аброццю для абозу ў жыхара нашай вёскі Івана Кудлы, якой павёз салдатаў той жа калоны на калёсах жыхара вёскі Супраўшчына Іосіфа Шута. Даехаўшы пад гарадок Васілішкі названыя салдаты прымусілі іх вярнуцца дамоў. На іх жа конях салдаты паехалі далей і іх не вярнулі да сёняшняга дня. Нявернутая Івана Кудлы кабыла мела наступныя прыметы: чорная, гадоў дзесяць, рост сярэдні. Узятая кабыла каштавала 20.000 марак, у чым і распісваемся:*

*Солтыс вёскі Дроздава - Кумпяк Іосіф (подпіс).*

*Сведкі: Міхаіл Махнач (непісьменны), за яго і за сябе распісаўся Міхаіл Пазняк*

*Іван Шут (подпіс)*

*Уласнаручныя подпісы солтыса Кумпяка, сведкаў Махнача, Пазняка і Шута кіраўніцтва гміны Ганчарскай зацвярджае 26 кастрычніка 1920 года.*

*Пячатка.*

*Войт гміны: (подпіс) А. Якубоўскі.*

*В.А.(выканавец абавязкаў) пісара:*

*Кумпяк (подпіс)".*

ДАЛОЎ ГАНЕБНЫ РЫЖСКІ ПАДЗЕЛ!
ЛІТВА
БЕЛАРУСЬ
Полацак
Віцебск
Смаленск
Вільня
Городня
Баранавічы
Менск
Магілеў
Бельск
Слонім
Слуцак
Рагачоў
Стародуб
Пінск
Гомель
Тураў
Мазыр
КРАЇНА
НІХАЙ ЖЫВЕ ВОЛЬНАЯ НЕПАДЗЕЛЬНАЯ СЕЛЯНСКАЯ БЕЛАРУСЬ!

У выніку падпісанага ў сакавіку 1921 года Рыжскага, міру тэрыторыя Заходняй Беларусі была далучана да Польшчы і знаходзілася ў складзе Другой Рэчы Паспалітай аж да верасня 1939 года.

Прайшло з паўгода. Ужо ўсталявалася польская ўлада. Бацька заявіў кіраўніцтву гміны аб тым, як пры адступленні польскія вайскоўцы забралі каня з вупражжу, аб чым засведчылі аднавяскоўцы. З гэтым пратаколам бацьку давялося пахадзіць да розных лідскіх начальнікаў. І толькі пасля Калядаў выдалі з вайсковай часці кабыліцу больш - менш здатную запрагаць у сані, але вясною негодная ў плузе. Давялося збываць…

Ужо ў наш час у Савецкім Саюзе па ідэалагічных варунках пра Першую Сусветную вайну імкнуліся не ўспамінаць. Ганарыцца не было чым, гэтая вайна была прайграна ў асноўным таму, што бальшавікі развалілі войска. А каб лішні раз не ўспамінаць іх адмоўную ролю, на Першую Сусветную наклеілі штампы "імперыялістычная", "несправядлівая" і стараліся выкрысліць з памяці людзей...

*О, Беларусь, о, край мой мілы,*
*Старонка родная мая!*
*Тут расказаць не маю сілы,*
*Што адчуваю ў сэрцы я.*
*Цябе я бачу ў бляску сонца,*
*У срэбных пацерках расы,*
*Што красяць усё ў табе бясконца*
*І луг, і поле, і лясы.*






***Выкарыстаная літаратура і дакументы:***

- Курцаў А.М. Бежанцы Першай Сусветнай вайны ў Расіі.
- Саматыя В. Праблема бежанцаў у Беларусі ў гады Першай Сусветнай вайны.
- Бежанцы і перасяленцы. (ГАОО). Мн., 1915.
- Зінюк Я. Людзі гінулі напавал. Бежанства 1915 года / Беласток.
- Панфілюк Н. Бежанства ў Сібір. Бежанства 1915 года.
- Казлоўскі А. Бралі нас нарасхват. Бежанства 1915 года. Рэд. В. Луба.
- Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). С. 609.
- Кітанінат М. Вайна, хлеб і рэвалюцыя. С. 1985;
- Законы і распараджэнні аб бежанцах. Вып. 1. Мн., 1916.
- Кучко М. Падзеі Першай Сусветнай вайны на беларускіх землях.
- Зайанчкоўскі А. М. Сусветная вайна 1914-1918 гг. М., 1938.

*Перапрацаваныя вершы прыводзяцца ў скарачэнні.*

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Літаратурны краязнаўчы даведнік па Лідскім раёне ад Адама Мальдзіса

*У часопісе “Маладосць” з 2007 па 2010 год пад рубрыкай “Краязнаўчы даведнік” друкавалася вялікая праца доктара філалагічных навук, прафесара Адама Мальдзіса “Літаратурныя мясціны Беларусі”. Раздзел, прысвечаны Лідскаму раёну, надрукаваны ў жнівеньскім нумары “Маладосці” за 2008 год.*

*Прайшло 15 гадоў. Шмат што змянілася. Але матэрыял цікавы тым, што дае зрэз ведаў пра лідскую літаратуру, падае імёны лідскіх пісьменнікаў, якія сёння ўжо амаль і не згадваюцца. А многіх папулярных сёння лідскіх творцаў тады ведалі яшчэ мала.*

**Горад Ліда**

**Вуліца Камсамольская, 5.** Дом, дзе жыў паэт Валянцін Таўлай. Аднапавярховы прысадзісты будынак з мансардай. На дошцы надпіс: *"В этом доме с сентября 1939 года и до начала Великой Отечественной войны жил и работал белорусский поэт-революционер Валентин Тавлай".*

**Вуліца Крывая, 55.** Лідская гарадская бібліятэка імя Янкі Купалы. У Ліду 13-15 сакавіка 1940 г. напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет БССР прыязджаў для сустрэчы з выбаршчыкамі Янка Купала. Імя яго прысвоена 4 жніўня 1945 г. На ўрачыстым акце прысваення была дэлегацыя пісьменнікаў і навуковых супрацоўнікаў Літаратурнага музея Я. Купалы, удава паэта У. Луцэвіч, пісьменнікі П. Глебка, В. Таўлай і У. Агіевіч. Госці з Менска прывезлі і перадалі бібліятэцы падарункі ад музея. Лідская газета "Уперад" надрукавала літаратурную старонку "Янка Купала - вялікі змагар за ідэю ўз'яднання беларускага народа". У сувязі з 5-й гадавінай з дня смерці народнага паэта адкрыўся пры бібліятэцы памятны пакой Купалы. Тут была наладжана вялікая выстава пра жыццё і творчасць народнага песняра. Цяпер многія экспанаты страчаны.

**Вуліца Савецкая, 20.** Краязнаўчы музей. Быў адчынены 24.4.1959 г. Захоўваюцца матэрыялы пра В. Таўлая, П. Граніта (І. Івашэвіча), Я. Купалу.

**Вуліца Янкі Купалы.** Рашэннем гарвыканкама з верасня 1946 г. вуліца Шкляная стала насіць імя паэта.

**Чыгуначны клуб.** Не захаваўся. У ім выступаў Янка Купала на сходзе работнікаў Лідскага чыгуначнага вузла. Вучні чыталі яго вершы. Здымак клуба не захаваўся, быў каля чыгункі, аднапавярховы, драўляны (разбураны нямецкай бомбай у 1941 г.). На наступны дзень адбылася сустрэча з сялянамі ў кінатэатры "Эдысон" (не захаваўся), дзе Купала выступаў са словамі падзякі за аказаны давер. Паэт чытаў вершы на заходнебеларускія матывы ("Накарміліся панскаю ласкаю...", "Слава табе, Армія!..", "Сыходзіш, вёска, з яснай явы..."). Вечарам у гарадской бібліятэцы (побач з замкам) адбылася сустрэча з чытачамі. Я. Купала цікавіўся кніжнымі фондамі бібліятэкі, даваў парады, абяцаў дапамагчы. Падпісаў на ўспамін сваю кніжку "Над ракой Арэсай" (гэта была першая беларуская кніжка ў бібліятэцы). Ужо ў траўні лідзяне з дапамогай Купалы атрымалі ў падарунак чатыры тысячы кніг на беларускай і рускай мовах. Разам з Купалам на сустрэчы быў В. Таўлай і іншыя беларускія пісьменнікі. 15 сакавіка 1940 г. у вялікім будынку гарадскога кінатэатра "Эра" (потым гарадскі Дом культуры) адбылася сустрэча "ўладара беларускай песні" з інтэлігенцыяй Ліды. Тады быў наладжаны вялікі літаратурны вечар. І на гэты раз зала і галёрка былі перапоўнены. На вечары свае вершы прачыталі Я. Купала, П. Глебка, В. Таўлай, Н. Тарас, А. Іверс, П. Граніт. Гэта быў першы вечар беларускай паэзіі такога маштабу ў даваеннай Лідзе. Перад ад'ездам з горада Я. Купала сустрэўся з групай маладых паэтаў, якія сабраліся тут з усёй тагачаснай Баранавіцкай вобласці. Паэт распытваў пра былое жыццё ў Заходняй Беларусі. Не раз ён гаварыў у Лідзе, што адчувае сябе ў даўгу перад тутэйшымі людзьмі, бо мала дагэтуль пісаў пра іх. На развітанне кожнаму з паэтаў Я. Купала падараваў сваю кнігу з аўтографам.

* * *

**Абрамовіч Уладзіслаў** (9.5.1909-1965), польскі і літоўскі паэт, перакладчык, гісторык культуры, нарадзіўся ў горадзе. У міжваенны час працаваў журналістам, быў рэдактарам "Ziemi Lidzkiej", цікавіўся краязнаўствам, папулярызаваў сярод палякаў літоўскую літаратуру. Пасля вайны загадваў аддзелам рукапісаў бібліятэкі АН Літвы.

**Блок Аляксандр** [16(28).11.1880-7.8.1921] быў тут, калі ехаў з Пецярбурга на Палессе. Адсюль ён адправіў тэлеграму сваёй жонцы Любові Дзмітрыеўне з паметкай: *"7 кастрычніка 1907. Ліда Віленскай губерні".*

**Астраўцоў (Астравец) Сяргей**, журналіст, публіцыст, ураджэнец г. Менска. У 1976 г. яго бацькі пераехалі ў Ліду. З Ліды паступіў на факультэт журналістыкі БДУ (1979). Аўтар кніг "Янычары" (1993), "Цэнзарскія нажніцы" (2000), "Лісты да хома саветыкуса" і інш.

**Бабкоўскага Андрэя** (1913-1961), польскага

публіцыста, пісьменніка, радзіма. Скончыў Варшаўскую вышэйшую гандлёвую школу (1938). У 1939-1948 гг. працаваў у Парыжы на розных прамысловых прадпрыемствах, друкаваўся ў часопісе "Szkice piorkiem" ("Нарысы пяром"). У 1948 г. выехаў з сям'ёй у Гватэмалу. Аўтар выдадзеных у Парыжы і Лондане гістарычнапубліцыстычных артыкулаў, драмы "Чорны пясок" (1945), кнігі аповесцяў і апавяданняў.

**Баґдановіч Ірына** (н. 30.4.1956), паэтэса, крытык, літаратуразнавец, нарадзілася ў Лідзе. Скончыла Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт (1978) і аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР (1983). Кандыдат філалагічных навук. Навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры. Літаратурную працу пачала ў 1973 г. Аўтар кніг паэзіі "Чаравікі маленства" (1985), "Фрэскі" (1989), "Вялікдзень" (1993), "Альбом першакласніцы" (2003), кніг "Янка Купала і рамантызм" (1989), "Авангард і традыцыя. Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння" (2001). Аўтар шэрагу рэцэнзій, артыкулаў у друку і калектыўных зборніках. Жыве ў Менску.

**Бачароў Віктар**, паэт, ураджэнец г. Краснаярска (Расійская Федэрацыя). Жыве ў Лідзе з 1975 г. Выпускнік Гарадзенскага педінстытута (1975), грузчык, арматуршчык, бетоншчык, запраўшчык, загадчык склада, метадыст Дома піянераў, намеснік дырэктара, дырэктар СШ № 13 (з 1986). Друкуецца з 1976 г. Аўтар кніг "Размова" (1996), "Пара брацьˮ (1998), "Калі адзвінеў званок" (1998), "Дэмбель непазбежны" (1999), "Вершы з мінулага стагоддзя" (2001).

**Вінніка Леаніда** (н. 6.6.1956), паэта, радзіма. Скончыў школу-інтэрнат (1973), служыў у арміі ў Маскве (1974-1976), працаваў электрыкам на трасе Сургут-Урэнгой (1976-1978), бондарам ля возера Байкал (1987-1989), манцёрам сувязі Лідскай ГТС (1989-1997). Цяпер - сталяр у будтрэсце № 19. Друкуецца з 1973 г. Аўтар зборнікаў вершаў "Пад згаслымі зоркамі" (1996), "Мелодыі журботнага дажджу" (1998), "Настальгія" (1999), "Шчырасць" (2000, у суаўт.)

**Германіскай Кацярыны**, рэвалюцыянеркі, матэматыка, радзіма. Скончыўшы Цюрыхскі ўніверсітэт, выйшла замуж за аўстрыйскага сацыял-дэмакрата Фрыца Адлера. Паслужыла прататыпам рэвалюцыянеркі Каці ў рамане "Швейцарскае люстэрка" Мейнрада Інгліца (1938).

**Гордана Шмуля** (1865-1933), яўрэйскага пісьменніка, бібліязнаўца, радзіма. Атрымаў традыцыйную яўрэйскую адукацыю. Папаўняў веды самастойна. У 1898 г. выехаў у Палестыну, дзе выкладаў у яўрэйскай мужчынскай школе. З 1901 г. - у Варшаве, тут стварыў школу з выкладаннем на іўрыце. Рэдагаваў часопісы для дзяцей і юнацтва "Олам катан" (1901-1905), "Ханеўрым" (1904-1905), настаўніцкі штомесячнік "Хапедагог" (1903-1904). У 1904 г. вярнуўся ў Палестыну. Аўтар кніг вершаў "Арфа Ізраіля". Т. 1-3 (1891-1893), "Тэорыі літаратуры" Т. 1-2 (1900). Выдаў шматтомны каментар да Бібліі, які з'яўляецца асноўным навучальным дапаможнікам у свецкіх школах Ізраіля.

**Дзвілянскага Аркадзя** (н. 2.9.1950), музычнага педагога, этнамузыколага, кампазітара, паэта, радзіма. Кандыдат мастацтвазнаўства (1989). Вучыўся ў СШ № 1 у Лідзе, затым - у Свярдлоўску. Скончыў Уральскую кансерваторыю ў 1978 г. Служыў у арміі (1978-1980). Працаваў у Кіргізскім інстытуце мастацтваў (1980-1993). Завочна скончыў аспірантуру Ленінградскага інстытута тэатра, музыкі і кінематаграфіі (1984). З 1995 г. працаваў у акадэміі музыкі ў Магілёве. У 1997 г. выехаў з сям'ёй у ЗША. Аўтар даследаванняў і дапаможнікаў па музычным мастацтве, шматлікіх музычных твораў, песень. Выйшлі з друку яго аповесць у прозе і вершы "Крысбейл..." (1993) і кніжка паэзіі "Сімфарыфмы" (Бішкек, 1991). Цяпер жыве ў Стэнфардзе (ЗША).

**Доўгірд Анёл**, законнік-піяр, філосаф, псіхолаг, ураджэнец маёнтка Юркаўшчына Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл., у 1796-1797 навучальным годзе выкладаў у Лідскім піярскім калегіюме. Некаторы час зімой жыў у лідскім кляштары як дарадца правінцыі піяраў. Пісаў вершы.

**Каваленка Віктар**, крытык, літаратуразнавец, празаік, ураджэнец в. Сакаўшчына Валожынскага р-на Менскай вобл., у 1948 г. скончыў Лідскае педвучылішча.

**Каганец Карусь**, беларускі пісьменнік, ураджэнец г. Табольска (Расія), працаваў дзесятнікам на будаўніцтве чыгункі ў Лідзе.

**Кардаша Юзафа** (н. 29.9.1924), польскага мемуарыста, радзіма. Дзяцінства правёў у в. Колышкі, вучыўся ў Лідскім педвучылішчы, у 1959 г. выехаў у Польшчу, працаваў у сістэме адукацыі дырэктарам школ. Выдаў кнігу ўспамінаў "Сапраўдная Ліда" (1997).

**Катлярэўскі Іван** [29.8.(9.9).1769-20.10.(10.П.) 1838], украінскі пісьменнік, знаходзіўся ў 1807-1808 гг. у Лідзе на вайсковай службе. Адна з вуліц горада носіць яго імя.

**Когана Пятра** [8(20).5.1872-2.5.1932], рускага гісторыка літаратуры, крытыка, радзіма. Друкаваўся з 1895 г. Аўтар "Нарысаў па гісторыі заходнееўрапейскіх літаратур" (т. 1-3, 1903-1910), "Нарысаў па гісторыі старажытных літаратур" (т. 1 "Грэчаская літаратура", 1907), "Нарысаў па гісторыі навейшай рускай літаратуры" (т. 1-3, 1908-1912), тэатразнаўчых прац. Пасля рэвалюцыі 1917 г. працаваў прафесарам 1-га, 2-га Маскоўскіх дзяржаўных універсітэтаў і іншых ВНУ. У 1921 г.

быў прэзідэнтам Дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук. У савецкі перыяд апублікаваў працы "Бялінскі і яго час" (1923), "А. М. Горкі" (1928), "Уільям Шэкспір" (1931).

У 1936 г. у Лідзе быў выдадзены зборнік вершаў польскай паэтэсы **Красіцкай Эльжбеты** "Драбніцы". Яе называлі прапагандысткай мясцовага фальклору, энтузіясткай рэгіяналізму і народнасці, аматаркай вёскі.

**Летуноўскага Дзяніса** (н. 21.4.1981), паэта, радзіма. Скончыў у Лідзе гімназію і музычную школу. Вучыўся ў маскоўскім Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. Першыя вершы напісаў у дзевяць гадоў. Выдадзены зборнікі яго вершаў і песень "Вечнасць" (1996), "Працяг" (1997), "Я застаюся з табой" (1999).

**Макрэцкая (Ланге) Каміла Эмілія**, польская паэтэса, дачка генерала Адама Макрэцкага. Жыла ў Лідзе ў 1919 г. Напісала паэму "Год 1919, або Песня пра літоўска- беларускія дывізіі" (1926).

**Мікуцкі Антоні** - законнік-піяр, у 1770-1772 гг. выкладаў у Лідскім піярскім калегіюме паэзію і рыторыку. Позняй восенню 1771 г. паставіў першую на лідскай сцэне п'есу "Няшчасце заўсёды ўважлівых і незадаволеных людзей, і адзіная асабістага няшчасця прычына, прыпісаная часу або сапсаванаму па іх меркаванні грамадству". П'еса была напісана ім у гонар харунжых Лідскага павета Нарбутаў і "сказана сцэнічным вобразам" на польскай мове ў памяшканні калегіюма. У п'есе высмейваліся заўсёды незадаволеныя, буркатлівыя на сапсаванасць сучаснага ім грамадства людзі. Сцэнічнае ўвасабленне "Няшчасця...", магчыма, мела поспех. У чэрвені 1772 г. А. Мікуцкі сіламі навуцэнцаў піярскага калегіюма паставіў другую сваю п'есу - "Трагедыю аб змове Катыліны". У 1787-1796 гг. быў рэктарам віленскага піярскага калегіюма. У 1800-1801 гг. зноў жыў у лідскім піярскім кляштары.

**Нарбут** (Нарбутоўна, па мужу Цясельская, XVIII ст.) **Аляксандра**, польская пісьменніца і перакладчыца, верагодна, нарадзілася ў Лідзе. Жыла ў Пухавах (Польшча), была выбрана акадэмікам Берлінскай акадэміі (1788). Пераклала з французскай мовы п'есу Дэ Жанліс "Зямля, або Шчырасць".

**Праўдзіна Віктара** (н. 11.5.1955), пісьменніка, радзіма. З сям'і вайскоўца, якая неўзабаве пераехала на Віцебшчыну. Сярэднюю школу скончыў у Шаркаўшчыне (1972). У 1981-1994 гг. працаваў у органах унутраных спраў, затым - загадчык аддзела, адказны сакратар, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Нёман", з 2001 г. намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, з 2002 г. намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", з 2003 г. галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура". Аўтар кніг прозы "Візіцёр з Поўначы" (1992), "Боль. Споведзь міліцыянера" (1996), "Эксгумацыя" (1997), "Вяртанне з апраметнай" (2001), "Шлях да Галгофы" (2003), "Танцавальны марафон" (2007). Першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Путрамант Ежы**, польскі пісьменнік, ураджэнец г. Менска. У 1920-я гг. вучыўся ў Лідскай гімназіі. Першыя яго вершы напісаны на беразе Нёмана каля Ліды. У першым томе сваіх успамінаў "Паўстагоддзя" (1964) распавядае аб Лідзе 1920-1930-х гг.

**Рыбінскі Юзаф**, польскі пісьменнік, журналіст, ураджэнец в. Сашкоўцы каля Кузніцы на Беласточчыне, служыў падафіцэрам у Лідзе. Аўтар дзвюх аўтабіяграфічных кніг, у адной з якіх апісаў лідскі аэрадром 1930-х гг. Ажаніўся з лідзянкай Веранікай Гедройц.

**Суднік Станіслаў**, паэт, ураджэнец в. Сейлавічы Нясвіжскага р-на Менскай вобл., актыўна працуе тут у друку: рэдактар газет "Наша слова" і "Голас Ліды", часопісаў "Лідскі летапісец" і "Ад лідскіх муроў". Аўтар "Расійска-беларускага вайсковага слоўніка" (1997), кнігі "Шыхтовы статут беларускага войска" (Прыазёрск, Казахстан. 1999). Жыве ў Лідзе.

**Тарас Ніна**, паэтэса, ураджэнка в. Заполле Наваградскага р-на. У 1938-1945 гг. жыла ў Лідзе, была літсупрацоўнікам газеты "Уперад" (кастрычнік 1939 - чэрвень 1941, ліпень 1944 - вясна 1945). Выбіралася дэпутатам Лідскага гарадскога Савета.

**Таўлая Валянціна**, паэта, ураджэнца г. Баранавічы (Берасцейская вобл.), сям'я жыла тут у 1922-1924 гг. Тут ён хадзіў у школу, напісаў першы верш на польскай мове "Верабейчык". У 1939-1941 гг. быў літработнікам лідскай газеты "Уперад". У 1943 г. сядзеў тут у турме. У Лідзе дапрацоўваў у 1934-1941 гг. паэмы "Котрыншчына" і "Песня пра сухар". У 1943 г. пераехаў з Ліды ў Наваградак.

**Цвік Алесь** (сапр. Кавалёў Алег), празаік, нарадзіўся ў Лідзе 31.8.1947 г. Закончыў Менскае музычнае вучылішча, інстытут замежных моў. З 1996 г. жыве і працуе ў Германіі. Піша на рускай мове. Аўтар кніг "Палітра" (2002), "Палітра-2" (2003), "Свабода ў цэлафане" (2004).

**Цыбульскай Маі Эльжбеты** (н. 8.5.1941), польскай паэтэсы, літаратурнага крытыка, радзіма. Скончыла Варшаўскую гімназію і факультэт польскай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Абараніла доктарскую дысертацыю "Аб аповесцях Івашкевіча" (1964), праходзіла стажыроўку ў Оксфардзе. З 1970 г. жыве ў Лондане. Аўтар паэтычнай кнігі "Лірычныя спробы" (1982), літаратурна-крытычнага даследавання "Вацлаў Іванюк, паэт" (1984).

**Юрэвіча Аляксандра** (н. 18.11.1952), польскага пісьменніка, радзіма. З сям'і краўца. У 1957 г. яна пераехала ў Польшчу. Скончыў факультэт польскай філалогіі

Гданьскага ўніверсітэта, завочна - сцэнарнае аддзяленне Вышэйшай школы фільма, тэлебачання і тэатра ў Лодзі. Працаваў у Гданьскай ваяводскай бібліятэцы, рэдакцыях літаратурных часопісаў. Аўтар кніг паэзіі "Сон, які напэўна не быў каханнем" (Варшава, 1974), "Па другім баку" (Гданьск, 1978), "Не страляйце ў Бітлсаў" (Гданьск, 1983), "Як галубы, гнаныя бураю" (Гданьск, 1990), "Пакуль яшчэ і іншыя вершы" (Гданьск, 1991), кнігі прозы "Сярод ночы" (Гданьск, 1980), "Ліда" (Беласток, 1990, 2-е выд. Гданьск, 1994), "Пан Бог не чуе глухіх" (Гданьск, 1995).

**Ярмантовіч Яўгеніі**, польскай мемуарысткі, радзіма. Настаўніца музыкі і англійскай мовы ў Беластоку. Напісала і выдала за свой кошт кнігу "У цені замка Гедыміна" (1995), у якой апісала лідскія падзеі другой паловы 1930-х - першай паловы 1940-х гг.

* * *

**Хутар Банева** (да 1945 г.) Дакудаўскага сельсавета.

**Путрамант Ежы**, польскі пісьменнік і грамадскі дзеяч, ураджэнец г. Менска, тут жыў у 1928-1939 гг. Хутар належаў яго бацьку. Працуючы тут, пісьменнік выдаў зборнікі паэзіі "Учарашняе вяртанне" (1935), "Лясныя дарогі" (1938). Аўтар нарыса пра Банева. Тут былі закапаны нязнойдзеныя рукапісы.

**Вёска Бердаўка**, цэнтр сельсавета.

Палац **Дамбавецкага Аляксандра** (1840-1914), гісторыка, публіцыста, краязнаўца, аўтара "Спробы апісання Магілёўскай губерні" (кн. 1-3, 1882-1884). На будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка работы Рычарда Грушы (г. Ліда).

**Вёска Бжастоўцы** Дакудаўскага сельсавета.

**Наралеўскага Яна Казіміра** (5.5.1903-?), польскага мемуарыста, урача, радзіма. Аўтар успамінаў "Душа на скальпелі" (Лондан, 1977).

**Вёска Біскупцы** Дакудаўскага сельсавета.

**Бічэль (Бічэль-Загнетавай) Дануты** (н. 1.1.1938), паэтэсы, радзіма. У роднай вёсцы скончыла пачатковую школу, затым вучылася ў Карэліцкай сямігодцы, Лідскім і Наваградскім педагагічных вучылішчах (1953-1957). Скончыла Гарадзенскі педагагічны інстытут (1962). Настаўнічала ў Гародні. Выдала зборнікі "Дзявочае сэрца" (1961), "Нёман ідзе" (1964), "Запалянкі" (1967), "Доля" (1972), "Ты - гэта ты" (1976), "Браткі" (1979), "Дзе ходзяць басанож" (1983), "Загасцінец" (1985), "Даўняе сонца" (1987), "А на Палессі" (1990), "Божа мой, Божа" (1993), "Крэсавякі" (1993, у сааўтарстве), "Снапок" (1999), "На белых аблоках" (2002), "Стакроткі ў вяночак Божай Маці" (2004), "Ойча наш" (2008) і інш. Шмат піша для дзяцей. Прысвяціла роднай вёсцы нарыс "Я паеду ў мурожныя Біскупцы...", які ўвайшоў у кнігу "Слова пра родны кут", вершы ў зборніках розных гадоў. Перакладае з рускай, польскай, украінскай моў. На многія вершы паэтэсы напісаны песні. *Падрабязней пра Д. Бічэль гл.: Пяткевіч А. Старонкі спадчыны. Мінск, 2006. С. 209-218.*

**Гарэцкага Антона** (1787-18.9.1861), польскага паэта, пісьменніка, радзіма (па іншых звестках нарадзіўся ў Вільні). Вучыўся ў Віленскім універсітэце, удзельнічаў у кампаніі 1812 г. на баку Напалеона і ў паўстанні 1831 г., выехаў за мяжу, жыў у Дрэздане на адной кватэры з А. Міцкевічам; сын яго Тадэвуш ажаніўся з дачкой паэта. Аўтар шматлікіх вершаў, баек, элегій, жартаў і эпіграм. Яго празвалі "смаргонскім Піндарам" за прыземленасць, народнасць яго творчасці і наяўнасць шматлікіх беларускіх слоў і выказванняў.

**Гарадскі пасёлак Бярозаўка**, цэнтр пасялковага савета.

Жыхары Бярозаўкі выбіралі **Коласа Якуба**, класіка беларускай літаратуры, ураджэнца в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р-на Менскай вобл., сваім дэпутатам. На сустрэчы з рабочымі шклозавода "Нёман" ён быў тут у студзені 1946 г. Аб гэтым напісаў у артыкуле "У родных мясцінах" (Лит. газета. 1946. 7 янв.). 2 сакавіка 1950 г. Я. Колас быў другі раз у Бярозаўцы, наведаў шклозавод. На сустрэчы выступаў таксама **М. Лужанін**.

**Вёска Вялічкі** Траццякоўскага сельсавета.

**Карцана Яна** (?-1611), друкара і кнігавыдаўца, радзіма. Друкарскаму майстэрству вучыўся ў Кракаве. З 1576 г. быў друкаром у Лоскай друкарні. У 1580-1611 гг. кіраваў уласнай друкарняй у Вільні.

**Вёска Дакудава**, цэнтр сельсавета.

Недалёка ад гэтых мясцін знаходзіўся маёнтак **Яшнец**, дзе нарадзіўся **Нарбут Даніэль** (у законніцтве **Казімір**, 3.1.1738-17.3.1807), філосаф, перакладчык, мысліцель-асветнік. Спачатку вучыўся ў піярскай школе ў Шчучыне, потым у Любяшоўскім навіцыяце і ў піярскім калегіюме ў Дубровіцы, з 1759 г. - у піярскім калегіюме ў Вільні, каля чатырох гадоў - у піярскім вучылішчы ў Рыме. У 1764 г. прызначаны прафесарам і прарэктарам піярскага калегіюма ў Дубровіцы. У 1769 г. выдаў у Вільні падручнік "Логіка, або Навука разважання і меркавання пра прадметы навукі" (на польскай мове). Пісаў вершы на лацінскай і польскай мовах.

**Вёска Дзітрыкі** Ганчарскага сельсавета.

**Карыцкага Караля** (3.11.1702-10.12.1789), педагога, пісьменніка, радзіма. Вучыўся ў Вільні, Слуцку, Полацку, Варшаве, законнік-езуіт, доктар

філасофіі (1736). Узначальваў кафедру філасофіі ў Віленскай акадэміі (1736-1739). З 1746 г. у Рыме, быў першым сакратаром польскай асістэнцыі езуітаў. Друкаваў на лаціне легенды і панегірыкі.

**Карыцкага Міхала** (7.9.1714-10.3.1781), паэта-лаціністa, грамадскага дзеяча, педагога, радзіма. Сярэднюю адукацыю атрымаў у школе Бабруйскай езуіцкай рэзідэнцыі. У 1733 г. скончыў Слуцкую семінарыю. У 1733-1736 гг. вучыўся ў Віленскай акадэміі на курсе філасофіі. У 1745 г. атрымаў ступень магістра філасофіі і вольных навук, у 1750 г. - доктара філасофіі. Пры жыцці паэта надрукаваны 25 яго вершаў. Пасля смерці выйшаў яго зборнік "Песні" (Полацк, 1817). У вершы, прысвечаным брату Каралю, успамінае бацькоў, пахаваных у Дзітрыках. М. Карыцкаму прысвечаны даследаванні беларускага літаратуразнаўца Алеся Жлуткі.

**Вёска Ігнаткаўцы** Голдаўскага сельсавета.

**Клімовіча Уладзіміра** (н. 9.8.1967), пісьменніка, барда, радзіма. Скончыў СШ у роднай вёсцы, Беларускую акадэмію мастацтваў (1990). Аўтар зборнікаў апавяданняў "Выратаванне безданьню" (1992), "Лаліта і кактус" (1997). У кнігу "Той, хто будуе горад" (1997) увайшлі апавяданні, п'еса. Цяпер жыве і працуе ў Мексіцы.

**Вёска Крупав**а, цэнтр сельсавета.

У мясцовай школе - музей **Дамейкі Ігната**, ураджэнца вёскі Вялікая Мядзведка Карэліцкага р-на. Ён жыў пад наглядам паліцыі пасля суда над філаматамі (1824) па суседстве - у маёнтку Заполле (не захаваўся). Будучы вучоны і мемуарыст-падарожнік займаўся тут рацыянальным вядзеннем сельскай гаспадаркі. Перад школай - памятны знак, устаноўлены ў 2002 г. паводле праекта лідскага скульптара і мастака Рычарда Грушы.

**Вёска Малое Мажэйкава** Гасцілаўскага сельсавета.

**Маламажэйкаўскае Евангелле -** помнік беларускага пісьменства XVI ст. Створана для Маламажэйкаўскай царквы, упрыгожанае сярэбранымі і залатымі мініяцюрамі. Сучаснае месцазнаходжанне яго невядома.

**Вёска Мінойты** Траццякоўскага сельсавета.

У 2006 г. сюды перавезлі **бібліятэку Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

**Вёска Скрыбаўцы** Мажэйкаўскага сельсавета.

На мясцовых могілках пахаваны лекар **Чарноцкі Напалеон**, беларускі публіцыст, перакладчык, ураджэнец маёнтка Нач-Брындзоўская былога Слуцкага павета (цяпер в. Нача Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл.). Апошнія гады жыў па суседстве ў маёнтку **Вялікая Лябёдка**.

**Вёска Сялец** Ганчарскага сельсавета.

Побач, каля Нёмана, жыла Адэля з Устроні, аўтарка паэмы на беларускай мове (лацінкай) "Мачыха", напісанай у 1850 г. Надрукавана ў літаратурным зборніку "Краю мой - Нёман" (1986). Аўтарка верша на польскай мове "Кракаў".

**Маёнт. Тарноўшчына** (не існуе). Магчыма, быў у межах Тарноўскага сельсавета.

**Кашыц Канстанцін** (1828-1881), кандыдат навук, стваральнік польскіх рыфмаваных сатыр, якія друкаваў пад псеўданімамі *Загадка, Крыжык, Дагератып, Пастка*. Валодаў маёнткам Тарноўшчына, удзельнічаў у паўстанні 1863 г., адбываў ссылку.

**Вёска Феліксава** Мажэйкаўскага сельсавета.

Побач, у фальварку **Лебяда**, нарадзіўся 22.09.1923 г. **Фядэцкі Земавіт**, польскі пісьменнік, крытык і перакладчык з рускай, беларускай і французскай моў. Ён пераклаў на польскую мову "Слова аб паходзе Ігаравым", песні Б. Акуджавы, У. Высоцкага і інш. У 1948-1950 гг. кіраваў рэдакцыяй рускай літаратуры ў выдавецтве "Czytelnik". У 1957 г. меў дачыненне да першай у свеце публікацыі фрагмента рамана Б. Пастэрнака "Доктар Жывага". З 1950 г. доўгі час узначальваў аддзел паэзіі часопіса "Tworczosc". Аўтар тэкстаў для Студэнцкага тэатра сатырыкаў, які існаваў у Варшаве ў 1954-1972 гг., фальклорыстычнай кнігі "Цёплыя вечары... ды халодныя ранкі... Czyli co spiewano w Feliksowie" (1992).

**Вёска Хадзюк**і Голдаўскага сельсавета.

**Лялько Хрысціны** (н. 30.3.1956), пісьменніцы, радзіма. Скончыла БДУ (1979). У 1979-1983 гг. - навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Янкі Купалы. Літсупрацоўнік штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" (1983-1984). З 1995 г. - рэдактар-выдавец часопіса "Наша вера". Літаратурную творчасць пачала ў 1971 г. Аўтар кніг апавяданняў і аповесцей "Дарога пад гару" (1985), "Світанак над бярозамі" (1989), сцэнарыя мастацкага кароткаметражнага фільма "Лёгкі хлеб" (1987). Жыве ў Мінску. Лідчыне і Хрысціне Лялько прысвечаны верш Яўгеніі Янішчыц "Хадзюкі".

**Маёнтак Юршышк**і, не існуе.

**Нарбут Каміла** (каля 1800-?) - польская пісьменніца, дачка гісторыка Юстына Нарбута, жыла ў гэтым маёнтку. Выступала ў перыядычных выданнях з рыфмаванымі і празаічнымі творамі. Выдала кнігу "Маральныя творы" (Вільня, 1835). Яе верш "Чалавек" у перакладзе з польскай мовы надрукаваны ў зборніку "Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай" (Мінск, 1998).

***Альжбета Табенская***

# З долі і няволі

## *Успаміны выгнанкі**

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Такія і падобныя ім былі змены амаль у кожным маёнтку. Толькі ў Красулі пацешылася відам усіх шаноўных, любімых сваякоў: найшаноўнейшай старой Юліі Яноўскай, стрыечнай сястры маёй нябожчыцы маці, яе сына Тэафіла, нявесткі Брыгіды са Стычынскіх і ўнука Вінцэнта.

Гнаная боязню адказнасці і жаданнем пабачыць усіх, дарагіх майму сэрцу, пасля некалькігадзіннага побыту ў пп. Яноўскіх з Красулі падалася ў Дайноў, дзе жыла пані Адальфова з дачкой Зофіяй і сынам Уладзіславам. Бо, на жаль, старэйшыя яе дзеці: Вальдэмар, Людвіка і сястра Анета ўжо паўміралі. Якую ж вялікую розніцу знайшла ў гэтым доме. Пані Адольфава выглядала так, як бы з яе выдзерлі сэрца. Была поўная, як заўсёды, анёльскага цярпення, ціхая, але збалелая, з выразам болю і адчаю ў вачах. Мы ўспаміналі пра нашых памерлых, смерць якіх заўсёды была для душ і сэрц нашых балючай ранай. Сястра мая Антаніна лічыла панну Адальфову за найлепшую сваю прыяцельку, таму ўжо і для сапраўднай іх заслугі былі яны для мяне невыказна мілымі. Уся сям'я пп. Адольфаў была ідэальна добрая і нейкай непараўнальнай ціхасці і лагоднасці. З Дайнова паехала ва Уніхоўшчыну да пп. маршалкоўства Марачэўскіх. Тут, як і ўсюды ў тым падарожжы, пры прывітанні спазнала пачуцці вялікай радасці. Пані маршалкова жыла ў Вільні для навучання сваіх дзяцей; была яна ў прыязных стасунках са с.п. маім любімым дзядзькам, які сваёй дабратой падсалоджваў маё жыццё ў падарожжы ў Сібір і на месцы выгнання. Быў ён найшаноўнейшым, вялікага розуму, даўнейшых грамадзянскіх прынцыпаў і цнот чалавекам; карэспандэнцыя ад яго поўная заахвочвання да вытрымкі на дарозе пакут, падтрымліваў мяне на духу, а маімі лістамі з Сібіры дзяліўся з паняй Марачэўскай, разам іх чыталі.

Сам збалелы, няўцешны пасля страты сына, Уладзіслава, сапёра, які загінуў пад Дубічамі, не выказваў таго, што адчуваў перад бліжнімі прыяцелямі, аднак умеў мне падаць падтрымку.

Пасля тых маіх візітаў, якія не больш як тыдзень часу ў мяне забралі, вярнулася ў Ліду. Забрала маю пляменніцу Тэклю Урублеўскую, 16-гадовую паненку, якую хацела памясціць у Варшаве ў кравецкую навуку. З Ліды да чыгуначнай станцыі Араны даехала коньмі, а адтуль чыгункай да Варшавы.

### XII.

Аказаліся на месцы ноччу ці позні вечарам; памятаю толькі, што мяне, непрызвычаеную да падарожжаў у польскіх краях, такое выдатнае асвятленне вакзала, рух, гамонка і элегантнасць канкрэтна асляпілі. Пасля розных прыгодаў той ночы, бо:

1) Не магла знайсці жылля добрых знаёмых, якія ў выніку пераезду, змянілі адрас;

2) Мая сціплая вопратка зачыняла перада мной дзверы гатэляў, заехала нарэшце ў Саскі гатэль, у якім не я, а мой рамізнік дамаўляўся пра нумар, там мяне нарэшце прынялі.

Назаўтра пасля кароткай малітвы ў касцеле мы падаліся на горад з мэтай знайсці каго-небудзь са знаёмых і знайшлі сям'ю пп. Лясковічаў, якія нас вельмі прыветліва прынялі і запрасілі перабрацца да іх. Таму мы пакінулі гатэль і пачалі з п. Лясковіч шукаць памяшканне для Таклюні. Знайшлося, але ў цэлым не асабліва добрае з усіх поглядаў; і так, хоць Таклюня ўжо добра ўмела шыць, мусіла заплаціць за першы год 100 рас. руб., толькі другі быў без аплаты. Бедная Таклюня цярпела голад, а працаваць мусіла амаль што без перапынку. Работа трывала ад 6-й раніцы да 12-й ночы з малымі перапынкамі на снеданне, абед і вячэру, якая складалася са шклянкі гарбаты і адной булкі. Было ў тым магазіне некалькі паннаў, працавалі яны не пры акне, але пры супрацьлеглай сцяне, каб не выглядалі на вуліцу і не перашкаджалі сабе. Вечарам шылі, пакуль зусім не цямнела, а потым пры запаленай лямпе дзяўчаты сядзелі да паўночы, пастаянна працуючы; не да шмат чаго тая іх работа прыдавалася, бо вочы ім зліпаліся, і часта тое, што нашылі, трэба было пароць. Дарагая і шаноўная мая Таклюня спазнала там шмат бяды.

Пасля размяшчэння Таклюні пералічыла свае грошы і са страхам убачыла, што ўжо маю вельмі няшмат. Трэба мне было абавязкова выстарацца нейкае месца і выехаць у якую-небудзь з губерній еўрапейскай Расіі. Вельмі перапужаная тым, прайшла ў касцёл святога Аляксандра шукаць суцяшэння ў малітве. Калі вярталася дадому па вуліцы Новы Свет, пачаў ісці дождж. Я

* Пераклад з польскай мовы Станіслава Судніка. Паводле “Z doli i niewoli. Wspomnienia wygnanki”. Кракаў, Друк В. Карнецкага, 1897.

ўвайшла ў нейкую браму, каб на хвіліну схавацца, а за мной паспяшалася яшчэ шмат людзей.

Тады гляджу, а тут стаіць каля мяне знаёмы мне з Томска доктар Зыгмунт Брадоўскі, з жонкай якога я сябравала ў Томску. Я вельмі абрадавалася гэтаму спатканню, але ў гэтую хвілю прыйшло мне на думку, што, можа, не захоча прызнацца ў знаёмстве са мной, бо становішча змяняе людзей… Стаю так у нерашучасці, што рабіць, а пан доктар, убачыўшы мяне, загукаў са здзіўленнем:

- Пані Табенская, што пані тут робіш?

- Схавалася ад дажджу.

- Ну, так, але ў Варшаве, як даўно прыехала пані? Якія маеш намеры на будучыню?

- Маю намер шукаць пасады настаўніцы ў якой-небудзь з губерній еўрапейскай Расіі, - адказала.

- Я зараз шукаю настаўніцы для сынка майго Зыгмуся; жонка мая марыла пра тое, каб пані выхавала нашых дзяцей; цяпер яна ўжо памерла. Марыся наша вучыцца ў пансіёне ў Кракаве, для Зыгмуся патрэбна настаўніца, каб падрыхтаваць яго ў першы клас гімназіі. Едзь, пані, да мяне! Я жыву ў Смаленскай губерні, у заштатным мястэчку Ельна.

- Вельмі ахвотна, - адказала.

А паколькі была ў тым доме фатаграфія фірмы Пуцяты, у якой працаваў наш супольны з Томска знаёмы п. Антоні Прушынскі, доктар запрапанаваў, каб мы прыйшлі да яго, каб пагаварыць пра наш інтэрас. Калі доктар запытаў, якой аплаты хачу, сказала, што ад калегі ссыльнага не вазьму больш як 20 рас. рублёў. Так адразу была заключана дамова. Бачачы ў тым вялікую міласэрнасць Божую нада мной, пабегла ў касцёл св. Аляксандра, падзякавала правідзенню за такую апеку нада мной; слёзы мае змяніліся на радасць, бо чаго ж Бог зрабіць не можа!

Шчаслівa пачувалася ў доме доктара Брадоўскага, чалавека шаноўнага, правага характару; малы Зыгмусь - сапраўдны анёлак, падобны да сваёй нябожчыцы мамусі, з доўгімі светла-бландзіністымі валасамі, тып польскага хлапчаняці. Ён быў надзвычай прывязаны да боны, немкі, якая яго, паўтарагадовага сіротку, пасля смерці пані доктаршы ўзяла пад сваю апеку, здорава і маральна яго выхоўвала, маючы таксама да яго вялікую прывязанасць.

Памятаю, раз адна са знаёмых пацыентак доктара запрасіла мяне і Зыгмуся да сябе на гарбату. У размове пра розныя рэчы мы зачапілі і панну Шарлоту; гаспадыня смяялася з яе, паўтараючы, як дзіўна яна некаторыя выразы вымаўляе па-расейску - забаўна гэта было па сутнасці, але Зыгмуся гэта разгневала. Калі мы вярталіся дадому, я сказала яму:

- Не зважай, Зыгмусь, на тыя жарты, і не пераказвай п. Шарлоце таго, што чуў; нічога тут па сутнасці няма кепскага, але, можа, ёй прыкра будзе.Чужаземцы звычайна кепска размаўляюць па польску і па-расейску, бо гэтыя мовы цяжкія для іх, не саромеюцца яны гэтага, бо стараюцца ведаць тыя мовы толькі настолькі, на колькі ім абавязкова патрэбныя для выказвання сваіх думак.Гэта толькі мы, палякі, стараемся грунтоўна ведаць чужыя мовы.

- Як гэта! - выгукнуў Зыгмусь, - пані хоча, каб я нешта ўтаіў ад панны Шарлоты, якая мяне выхавала, як маці. - І не даўся нічым сябе пераканаць. Шаноўная панна Шарлота была сапраўдным дабрадзействам для гэтай сям'і: працавітая, гаспадарлівая, усё ўмела рабіць, усё дагледзець.

Мястэчка Ельна вельмі нагадвалв мне радзімыя месцы. З сапраўднай прыемнасцю рабіла я з Зыгмусем два разы дзённыя прагулкі, пад час якіх праводзілі французскую канферэнцыю.

Год і пару месяцаў была я ў доме доктара Брадоўскага, а калі Зыгмуся адвезлі ў школу, выехала ў Варшаву, дзе застала пп. Завадскіх, знаёмых з Енісейскай Тайгі і прыняла ў іх абавязкі настаўніцы для іхніх дзяцей: Вікці, Генрыся і малюткага 10-ці месячнага Больця, якога разам з мамкай мела мець пад сваёй апекай. Аднак, калі паны Завадскія выехалі на Сібір, дзе мелі сваю капальню золата і былі вымушаны быць там яшчэ тры гады, я з дзецьмі была гэты час ў доме шаноўных пп. Залескіх, сваякоў пані Завадскай, у маёнтку Крупіцы, у Гарадзенскай губерні, Бельскім павеце, у Сямятыцкай парафіі. Тут мяне ў працы Пан Бог дабраславіў: дзеткі цалкам да заняткаў не прызвычаеныя з замілаваннем браліся за навукі і ручную працу. У бабуні Залескай была яшчэ дачушка пп. Завадскіх Геня, якая прыйшла на свет у Сібіры і якую я ў Краснаярскім краі трымала да хрышчэння. Геня, фіглярная, вясёлая, а часам капрызная, была пестаю, фаварыткаю бабці. Летам мы праводзілі цікавыя паходы ў лес; бабця забяспечвала чародку ўнукаў пажыўнымі прысмакамі, дзеткі са смехам забаўляліся на свежым паветры, размаўлялі са мной, і я з прыемнасцю бачыла, што розум іхні развіваецца, а сэрцайкі запаўняюцца пачуццямі набожнасці і любові да бліжняга. Калі мае выхаванкі навучыліся добра чытаць, я прапанавала для Генрысі "Прыяцеля дзяцей", а для Вікці - "Сямейныя вечары". Мае дзеткі з гонарам літаратараў засядалі за кнігі, а потым доўга і падрабязна размаўлялі пра тое, што чыталі.

Шаноўныя паны Залескія абдаралі мяне сваёй прыязнасцю, а я мела да іх вялікую павагу і давер ды таксама прывязалася да маладой чародкі. Так мне добра было ў тым доме, як у найлепшых і найбліжэйшых сваякоў; трэба дадаць, што само адчуванне, што я ўжо ў сваёй Айчыне, напаўняла мяне шчасцем. Дагэтуль я зусім не ведала гэтай мясцовасці, але хоць незнаёмая, была гэта, аднак, польская зямля, такая любімая, а не айчына маіх ворагаў! Пп. Завадскія, будучы далёка ад дзяцей, хацелі, каб яны што тыдзень да іх пісалі. Я вельмі ахвотна згадзілася на тое, бачачы ў тым маральную карысць для дзяцей, у якіх развіваліся такім чынам іх думкі і пачуцці, і што вучыліся дзяліцца імі са сваімі бацькамі, а паколькі я патрабавала, каб добрым і прыгожым пісьмом таксама рабілі прыемнасць бацькам, таму ў арфаграфіі і каліграфіі таксама стараліся.

Тры гады былі мы ў Крупіцах. Нарэшце прыехалі з Краснаярска пп. Завадскія. Была гэта радасць не для

апісання як з боку пп. Залескіх, так і пп. Завадскіх ды іхніх дзетак. Нядоўга, аднак, затрымаліся пп. Завадскія ў Крупіцах, інтарэсы клікалі іх у Варшаву, дзе Генрысь ў гімназію, а Віктуся ў пансіён п. Жаляшкевіч мелі паступіць. Таму я пакінула мілы дом п. Залескай і падалася ў Варшаву.

Даўнія мае выхаванцы сёння выраслі; Віцця цяпер пані Лагунова, жонка афіцэра і маці двух мілых сынкоў - жывуць у Варшаве; Генрысь на трэцім годзе ў Кракаўскім універсітэце; Геня - пані Пушкевіч, жонка тэхніка ў Краснаярску і мае ўжо малую дачушку; Болек - вучань VIII класа філалагічнай гімназіі ў Варшаве.

Пабыўшы кароткі час у Варшаве, я мела ехаць у Казань да Лазоўскіх, якія пару месяцаў назад у тым горадзе пасяліліся. Швагер мой Эдвард, будучы некалькі гадоў у тайзе ў Якуцкай вобласці над Ленай, пачаў моцна хварэць на вочы, мусіў пакінуць сваю карысную пасаду і падацца для лячэння ў Казань да слаўнага акуліста, паляка Адамінка. На жаль, надзея нас усіх падвяла, хвароба вачэй аказалася невылечнай, была гэта так званая "зялёная вада". У выніку пасля аперацыі бедалага бачыў трохі левым вокам, правае было зусім страчана.

Развітаўшыся ў Варшаве з панствам Завадскіх, падалася да маіх сваякоў. Падарожжа было ўдалае, і вялікая радасць была пры сустрэчы з Лазоўскімі, якую аднак памяншаў від калецтва няшчаснага Эдварда. Лазоўскія мелі ўласны домік над Волгай. Перад домікам іхнім спыняўся трамвай, моцна аблягчаючы ім камунікацыю з цэнтрам горада. За домам быў дужа вялікі сад, у ім некалькі дзясяткаў пладовых дрэў, дзве альтанкі, з якіх адна з двума вокнамі, з падлогай, з лаўкамі і сталом, другая ўтворана з гонкіх раслін, якія густа зрасліся, аточаная дрэвамі, давала такі мілы цень. У альтанцы з лаўкамі арганізоўвалі мы не раз гарбату, і там нам міла праходзіў час у апавяданні прыгод, што здарыліся ў час нашага побыту на выгнанні. Дзеткі Лазоўскіх былі вельмі мілыя, наймалодшы з іх Казя, які нарадзіўся на Алакмеце, а ахрышчаны ў Казані, быў хворы, слабенькі, заўсёды на руках у нянькі з сумным тварыкам, калі яго хацела ўзяць на рукі, адварочваўся смутна, гаворачы:

- Нага баліць, - што мела значыць: "Не хачу".

Дзіўная была мова гэтага дзіцяці; некалькі слоў, якія вымаўляў, не абазначалі прадметаў, якія належала пад тымі назвамі разумець. Напрыклад, цукар называў "вока", разынкі - "малпа", салдатаў - "права - лева", "не хачу" - "нага баліць". А гаворачы гэта ўсё хаваў галоўку на грудзях няні. Ніхто не меў надзеі, што гэтае дзіця будзе жыць. Бацька і іншыя дактары вырашылі, што мае страўнікавыя сухоты, бедная маці лячыла яго, як магла хатнімі лекамі.

Аднойчы, калі яго насіла па садзе, малы Казя ўбачыў спелыя маліны і паказаў іх ручкай маці, даючы ёй зразумець, каб яму іх дала. Бедная маці, якую вяло прадчуванне, сарвала дзве спелыя ягадкі, думаючы, што яму ўжо ўсё адно, бо і так на смерць прыгавораны, падала свайму малечы. Казя з'еў іх з прагнасцю і прасіў болей, радасць у вачах яго блішчала, і ад гэтага дня пачаў прыходзіць да здароўя. Пасля прыезду ў Казань спазнала вялікую радасць з нагоды неспадзяванкі, якую мне справіў шаноўны Эдвард. Ён паклікаў дзевяцігадовую Ядвіню і васьмігадовага Стася і загадаў ім зайграць на скрыпачках тое, што для мяне вывучылі. Былі гэта некалькі народных спеваў, якія яны вельмі прыгожа выканалі.

У Казані знайшліся знаёмыя са школ, яшчэ адзін настаўнік з Казанскай гімназіі, які пазнаёміў Эдварда з п. Юшкевічам, сваім калегам з гімназіі. Першая з тых сямей мела двух сыноў, другая сына і дачушку. Дзеці тыя моцна пасябравалі, хаця маладое пакаленне Лазоўскіх на шмат маладзейшае было за рэшту таварыства.

Прыбыў у той час у Казань аж з Акатні вельмі шаноўны, набожны і вялікай навукі ксёндз Эразм Ключэўскі, пакутнік, ссыльны, прыгавораны на цяжкія работы ў Тунцы і Акатуі, мясцовасцях, прызначаных для сасланых ксяндзоў. Ксёндз Эразм Ключэўскі вызначаўся не толькі высокай адукацыяй, але і непараўнальна добрым сэрцам. Таму пп. Юшкевічы, людзі вельмі шаноўныя і набожныя, карыстаючыся з прысутнасці кс. Ключэўскага, запрасілі яго, каб быў ласкавы падрыхтаваць іхніх дзяцей: Вітольдзіка і Антосю, дваіх дванаццацігадовых блізнятак, да 1-й святой камуніі.

Набожныя і выхаваныя рэлігійна дзеці Лазоўскіх, 12-гадовая Марыня і 10-гадовая Ядвіся, разам з імі адпраўлялі рэкалекцыю і рыхтаваліся да такога вялікага і святога акту, які меў на ўсё жыццё вельмі вялікае значэнне. Дзень 1-й святой камуніі тых дзетак быў вялікай урачыстасцю не толькі для іх саміх, але і для сямей Юшкевічаў і Лазоўскіх, для вялікага кола прыяцеляў і знаёмых.

Ксёндз Ключэўскі ў пярэдадзень гэтага акту, вечарам выспавядаў дзетак - назаўтра рана была яшчэ папраўка. Дзеткі былі вельмі прыгожа ўбраныя ў белае, у вэлюмах і вянках на галаве; Вітольдзік быў цераз плячо перавязаны стужкай і меў букецік кветак пры сэрцайку, і ўсе таксама мелі белыя рукавічкі. Сем'і і госці сабраліся ў касцеле і маліліся за тых чацвярых дзяцей; выглядалі яны вельмі прыгожа, такія набожныя, такія заглыбленыя ў малітву. Ксёндз Ключэўскі сказаў казанне, потым адправіў святую імшу і ўдзяліў святую камунію. Пасля святой імшы адгаварыў уголас з дзецьмі падзячную малітву, сказаў невялікае казанне і абдарыў памятнымі абразкамі. Панства Юшкевічы запрасілі ўсіх да сябе на абед, а на другі дзень шматлікая тая кампанія сабралася ў Лазоўскіх; цэлы дзень правялі ў садзе, бо паветра было цёплае і надвор'е спрыяла.

Жыццё ў Казані ў прыемным атачэнні падалося нам раем, але бедны наш Эдвард, не могучы і не хочучы ўжо займацца медыцынай, смутнеў што раз больш, задумваючыся над тым, што будзе ў будучыні, бо ішло, як па масле, капіталік, які меў, не даваў дастаткова працэнтаў, і не раз трэба было яго парушаць. Знаёмыя Лазоўскіх - пп. Юшкевічы, Валіцкія і іншыя радзілі, каб заняўся нейкім прадпрымальніцтвам, напрыклад, пякарствам. Эдвард, які не любіў медыцыны, і толькі з волі маці вучыўся ёй, схапіўся за пададзеную

думку. Прадаў свой міленькі домік і адразу пачаў шукаць месца для пякарні. Усё ішло, як па масле, надзвычай хутка наняў прыдатнае памяшканне, дамовіўся з пекарамі. Сястра мая засмучаная жудаснай стратай выгляду каханага мужа, цяпер цешылася, што выручае яго, будзе магчы на ўсю сям'ю і на выхаванне дзяцей зарабіць. Так адчынілі пякарню; першым печывам падзяліліся з прыяцелямі, на другі дзень ужо пачалі прадаваць. Антося сама прадавала пячэнне, муж вёў ёй рахункі, я займалася гаспадаркай, рынак быў блізка, усё можна было лёгка дастаць без гандлявання, бо з тамтэйшымі перакупшчыкамі лёгка дамовіцца пра цану, і што важней - не ашукаюць яны, як яўрэі, на цэнах і гатунках. Прыстасоўвалася да звычаяў, там прынятых: і так, напрыклад, на свята Спаса (што адпавядае нашаму Перамяненню Панскаму) пяклі пірагі з яблыкамі, у пятніцу рыхтавалі іх з рыбай. Часта смажыла яблычнае павідла і ракушкі, якімі наядаліся дзеці. Пячэнне, якое пастаўляла пякарня Лазоўскіх, было выключнае, усе палякі з прылеглых, а некаторыя з дальшых вуліц у іх печыва бралі. Два прафесары ўніверсітэта пп. Бандонін і Крушэўскі, некалькі генералаў-палякаў і нават расіян, хочучы падтрымаць існаванне пякарні, бралі штодзень на кніжачку, а ў канцы месяца аплачвалі належнае. Даход быў даволі значны, але гэтая пастаянная без адпачынку праца была зацяжкая для беднага Эдварда, які страціў цікавасць да яе пасля адкрыцця, што яго чаляднікі на ўсім яго абкрадаюць: на муцэ, дражджах, яйках, цесце сырым і печаным.

Эдвард, такі высакародны і добры чалавек, як найлепш абходзіўся з людзьмі, а тыя няўдзячныя пазладзейску яму адплачвалі. Потым на давяршэнне да ўсяго пекары Эдварда, падкупленыя ўладальнікамі іншых пякарань, якія дбалі пра свае інтарэсы, пачалі псаваць цеста, так што не раз усё печыва было сырым, да яды не прыдатнае. Бяда і клопат з тым усім вычарпвалі Эдварда: пачаў наракаць, скардзіцца. Антося адна, без дапамогі, не магла ўсяго адолець. Аднойчы адна з яе знаёмых пані Дульванд, зайшоўшы да яе, застала яе змучанай, амаль непрытомнай, падмяніла яе на пару гадзін, каб бедная Антося пашла ўздрамнуць і адпачыць трошачкі.

Пякарня Лазоўскіх была размешчана ў прыгожым месцы. Насупраць яе быў Дзяржавінскі парк, у якім знайходзіўся помнік гэтаму паэту. Парк быў выдатна дагледжаны, вельмі прыгожыя клумбы, кветкі, высакародныя дрэвы, элегантныя альтанкі; быў таксама там і рэстаран, дзе што дзень вечарам грымела музыка і ў які са шпацыру заходзіла шмат людзей. Жылы дом Лазоўскіх быў у падворку, я з дзецьмі там размяшчалася, а Лазоўскія прыходзілі толькі на кароткі адпачынак.

Але ўжо ніякія прыемнасці і прыязнь знаёмых не здолялі падсаладзіць жыццё Лазоўскіх, роспач агарнула беднага Эдварда, а няшчаснай сястры забракла сіл маральных і фізічных на той від глядзець - упала ў роспач. У такім становішчы, пакінуўшы жонку, Эдвард выехаў з Казані, не гаворачы нікому, куды едзе. Праз пару дзён толькі напісаў са Смаленска, што купляе маётак за пару тысяч, размешчаны за дзве мілі ад гэтага горада. Было гэта неяк восенню. Антося ўзяла на дапамогу паню Барбару Сянькевіч, якой меўся дапамагаць п. Паплаўскі, прыяцель Эдварда, з тым разлікам, што калі пераканаецца, што гэта добры інтэрас, то пякарню ад Лазоўскіх адкупіць. Але неўзабаве пераканаўся, што кожны дзень прыносіў нейкі нават значны дэфіцыт, прыходзіў усё ж дапамагаць пані Сянкевіч і мне. Потым заступіў яго пан Астрамецкі, мой знаёмы з Томска, а яго добрая знаёмая заступіла паню Сянкевіч. Тады Антося, не думаючы доўга, забрала дзяцей і што забраць удалося ды паехала да мужа, пакідаючы ў Казані мяне са Стасем да канца школьнага года. Я працавала заўзята, дом здала студэнтам, Стась таксама меў там пакойчык; я мясцілася ў пякарні. Апавясціла, што пякарня прадаецца і нарэшце прадала яе доктару Стравінскаму за 300 руб. з усім абсталяваннем, якое каштавала Лазоўскаму каля 3000 руб. Сама зняла для сябе і для Стася памяшканне ў закрытыяна пры касцёле. Стась хадзіў у школу, я варыла яму абед і рыхтавала снеданне. Ад Лазоўскіх пачала атрымліваць досыць суцяшальныя навіны: Антося зусім не шкадавала, што пакінула Казань, бо яе муж увесь у роспачы, не мог сам адолець клопаты і інтарэсы. Маёнтачак іхні быў малы, але выдатна размешчаны і забудаваны, дом выгадны, абшырны з высокімі столямі, падлога ясенева, паркетная, вокны мэбля і абіцце вельмі добрыя і каштоўныя, інвентар, павозкі летнія і зімовыя, коні і вупраж, мясцовасць найвыдатнейшая, суседскае таварыства зычлівае. Вазноўка была размешчана за 12 вёрст ад Смаленска, і ездзілі ў яе добрай брукаванай дарогай.

З нецярпеннем чакала вакацыяў і выезду з Казані. Загадзя сказала ўпакаваць добрае, новае піяніна, за якое Эдвард заплаціў 100 руб, а на версе размясціла пазакручанае ў коўдры больш даражэйшае сталовае начынне, для віаланчэлі сказала зрабіць футарал, дзве пары скрыпак, дзве фузіі і ўсю мэблю выслала загадзя ў Смаленск. А сама са Стасем, калі ўжо здаў экзамен і атрымаў перавод з уступнага ў 1-шы клас, адразу з Казані выехала. Як доўга ехалі чыгункай, не памятаю, у Смаленску наняла пошту, і мы рушылі ў Вазноўку. Стась не мог яе дачакацца, пра ўсё дапытваўся паштальёна, не раз выскакваў з брычкі і бег, зрываючы па равах кветкі. Нарэшце ўбачылі чаканую Вазноўку. Пакуль фурман адчыняў вароты, Стась выскачыў з брычкі і пабег пад ганак, куды на яго сустрэчу выйшлі бацькі і ўся сям'я. Якія ж прыемныя і якія вясёлыя былі тыя вакацыі, ніколі гэтага не забуду! У Вазноўцы быў вялікі сад, хаця яшчэ занядбаны; меў прыгожую ліпавыя алеі, выдатныя пладовыя дрэвы, цяністыя альтанкі. За садам былі навозы, лес, а трохі далей невялікі ручаёк, але для купання выдатны! Антося аказалася дасканалаю гаспадыняю - што за масла, малако і смятанку там мелі, а якія смачныя радыскі, салаты і бульбачкі, найпрыгажэйшыя кветкі, насенне якіх аж з Рыгі здабывала. Трэба было дзякаваць Богу за тую прыгожую Вазноўку і ў ёй ціха сядзець, але на гэтым свеце шчасце не трывалае, такім яно было і для Лазоўскіх.

Яшчэ ў час вакацый я пісала ў Пецярбург, даведвалася, калі і на якіх умовах прымаюць паненак у пансіён святой Кацярыны. Атрымаўшы адказ у азначаны час, адвезла туды Маню і Ядвіню і памясціла ў Маскве ў французскім інтэрнаце. Абедзве гэтыя ўстановы былі толькі для дзяцей каталіцкага вызнання. За Маню плацілі бацькі, а Ядвіня стараннем ксендза дэкана Баранцэвіча, калегі майго брата кс. Мечыслава была прынята бясплатна. Школа тая, а хутчэй інтэрнат, вельмі мне падабалася з усіх бакоў; была яна пад кіраўніцтвам прэлажонай, рэлігійнай, набожнай францужанкі; бібліятэка складалася з найлепшых маральных і карысных кніжак, а пачаўшы ад прэлажонай і закончыўшы вартаўніком, усе там былі французамі. Абедзвюх сваіх пляменніц я сама на месца адвезла, падарожжа прайшло шчасліва, і я мела вялікую прыемнасць, бо сустрэла ў Маскве на вакзале паню Квяткоўскую з яе дачкой Марыяй; спыніліся мы ўадным гатэлі, таму бачыла і Ціхана, яе сына і майго былога выхаванца, цяпер ужо студэнта ўніверсітэта.

Стась быў памешчаны ў смаленскую гімназію, а жыў у нейкай панны Лідзіі. Нешчаслівае было для яго размяшчэнне, вучылі яго там кепскаму, меў кепскую кампанію.

Неўзабаве для Лазоўскіх пачаліся розныя прыкрасці. Блізка ад Вазноўкі пры даврозе стаялі па абодва бакі корчмы. Адна належала Эдварду Лазоўскаму і прыносіла яму 300 руб. Гадавых дывідэнтаў. Другая належала нейкаму багатаму чыноўніку, які меў уласную дысцілярню (спіртзавод). Той пан дабіўся ва ўладаў, каб другая карчма мусіла быць знесенай. Такая няўдача моцна расстроіла Эдварда і паўплывала на тое, што здаў у арэнду Вазноўку латышам за 500 руб. Тыя латышы ў колькасці 36 чалавек, сабраўшы з поля збожжа і вымалаціўшы яго, забралі ўраджай з Вазноўкі і ўцяклі ў сваю латышскую зямлю. І так адразу страцілі Лазоўскія збожжа, увесь інвентар, коней, упраж, вазы, брычкі, крытыя і някрытыя, таксама сані, скрыпкі, віаланчэль, фузіі, нават і падлогу, якую выдралі. Здэпрэсаваныя такім знішчэннем іхняй прыгожай Вазноўкі, Лазоўскія ўжо вяртацца ў яе не хацелі, таму, прадаўшы яе, купілі вёску Паляны, размешчаную за 6 вёрст ад Смаленска, узяўшы на гэтую пакупку банкаўскую пазыку, бо ўжо грошай у іх не хапала. Вёска была харошая, зямля вельмі добрая, але не было жылога дома, і мясцовыя ўмовы былі вельмі кепскія.

Маня, іхняя дачушка, якая была ў пансіянаце ў Пецярбургу, вярнулася дадому, бо ёй пецярбургскі клімат не падходзіў: 9 месяцаў хварэла, так што толькі тры засталіся на вучобу

Ад таго часу пачалося няшчасце Лазоўскіх і дайшлі яны да апошняй згубы. У Палянах няшчасны Эдвард памёр ад роспачы. Антося яшчэ пару гадоў прабыла ў Смаленскай губерні.

Я ў сябе мела трох хлопчыкаў на выхаванні, а Антося прыбыла ў Варшаву на 10 год пазней.

Я паехала ў Варшаву ў 1885 г. Пераканалася, што мела слушнасць, сумуючы па краі і імкнучыся ў яго. Дабрачынная Варшава хлебам і соллю прыняла бедных выгнанцаў, літоўскіх бадзягаў. Знайшліся высакародныя сэрцы, чулыя да нядолі бліжняга, якія рознымі спосабамі ўмелі прыйсці нам на дапамогу.

Ядвіня Лазоўская паспяхова закончыла сваю вучобу. Стась, найстарэйшы з братоў, які адзін толькі меў такое шчасце, бо першымі яго крокамі на полі вучобы кіравалі бацькі і іхнімі стараннямі пачаў разумовую працу, сам уласнымі стараннямі вучобу скончыў. Іншыя тры з дапамогай добрых і спагадлівых людзей вучыліся ў Варшаве. Даўні малюткі і слабенькі Казя, закончыўшы школу рамёслаў у Варшаве п. Кюнэ, атрымаў атэстат і пасля здачы экзаменаў у школу майстроў у Дэмбраве, з-за адсутнасці вакансій застаўся практыкантам на вугальных шахтах. Гэта была цяжкая і поўная небяспекі праца. Мы стараліся адгаварыць Казю ад таго выезду, а адзін са знаёмых шахцёраў дадаў, што для тае працы патрэбны атлетычныя сілы, вялікае здароўе, што даўней толькі разбойнікі і прыгавораныя да цяжкіх работ там працавалі. Мы з маці не хацелі дазваляць выезд, Казя папрасіў выбачыць, што ў гэтым выпадку нашых парад не паслухае, і пасля споведзі і выслухвання Святой Імшы поўны рашучасці выехаў у імя Божае, гаворачы, што перакананы ў тым, што палякі, хіба толькі пад зямлёй працуючы, могуць сабе сякую-такую будучыню забяспечыць. Як шаноўны Казя, так і браты яго з дзяцінства мусілі змагацца з лёсам і перажылі доўгія хваробы, якія трывалі па некалькі гадоў.

Я бедная тулячка не расчаравалася ў веры, якую ўкладала на найвышэйшага Тварца. Заўсёды да канца жыцця буду дзякаваць Богу за прытулак, які ў міласэрнасці сваёй знайсці сказаў; дзякаваць буду, што мяне да бацькоўскай зямлі вярнуў, паміж братамі памясціў, што нада мной бедным чарвяком яго вечнае вока адчуваецца. Захоўваю таксама ў маім сэрцы нязгаслую ўдзячнасць да тых, якія бедным бадзягам у імя літасці да бліжняга і ў імя польскай Айчыны з дапамогай і парадай паспяшаліся. Хоць ведаю, што людзі іхніх прынцыпаў і іхняга характару не любяць, каб левая рука ведала пра тое, што робіць правая, няхай мне вольна будзе, ідучы за поклічам сэрца, успомніць шаноўных дактароў Касінскага J., Матлакоўскага, Малеў, Бонды, Цяшкоўскага і Пшацлаўскага, якія сваёй дапамогі сям'і нашай ніколі, у любую пару дня і нават ночы не адмовілі і заўсёды ахвотна на ратунак спяшылі. Шаноўная дабрачынная сенатарша Рамбялінская і с.п. графіня Аляксандрава Аўгустова Патоцкая сваёй пратэкцыяй і апекай таксама падтрымлівалі нас у цяжкія хвіліны жыцця. Ім усім шаноўным панам, мужам справядлівым і шляхетным матронам пры заканчэнні гэтай маёй працы ад шчырага сэрца: "Бог заплаціць", - выказваю.

*Пераклад скончаны. Праз некаторы час усе ўспаміны Альжбеты Табенскай адным блокам з'явяцца на сайце Pawet.net, а, магчыма, і на іншых.*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




У Менску ў выдавецтве "Беларусь" выйшла кніга "Дзень народнага адзінства", 223 ст., наклад 1000 асобнікаў.




У Менску ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў 20-ты том збору твораў Уладзіміра Караткевіча, 368 ст. Наклад - 800 асобнікаў.




У Менску ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшла кніга Алеся Марціновіча "Гісторыя праз лёсы", Т. 7. 334 ст. Наклад - 600 асобнікаў.




У Менску ў выдавецтве "Тэхналогія" выйшла кніга Увэ Рады "Галасы Панямоння, гісторы, культура, лёсы аднаго еўрапейскага абшару", 287 ст. Наклад - 500 асобнікаў.




У Гародні ў выдавецтве "ЮрСаПрынт" выйшла кніга Марозавай С. В. і Марозава С. П. "Культурная спадчына Уніяцкай Царквы Беларусі (1596-1839 г.)", 298 ст.




У Менску ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшла кніга Інстытута гісторыі НАН Беларусі "Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі (канец XVIII - пачатак XX ст.)", 684 ст. Наклад - 200 асобнікаў.

